*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 2 кастрычніка 1987 г. ⊙ № 40 (3398) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## УНУМАРЫ:



Маладыя гады, маладыя жаданні...

Фотаэцюд С. КРЫЦКАГА.

*7 кастрычніка — Дзень Канстытуцыі СССР*

# ЗАКОН РЭВАЛЮЦЫЙНАГА СТВАРЭННЯ

Гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і Дзень Савецкай Канстытуцыі. Гэтыя дзве важнейшыя даты раздзяляюць лісткі календара, але ў нашай свядомасці яны — неразрыўныя.

Рэвалюцыйны змест першых заканадаўчых актаў Савецкай дзяржавы — Дэкрэт аб міры, Дэкрэт аб зямлі, Дэкларацыя правоў народаў Расіі — захаваўся і ў Канстытуцыі Саюза ССР і ў канстытуцыях саюзных рэспублік. Ленінскія ідэі аб першай у свеце сацыялістычнай дзяржаве знайшлі сваё ўвасабленне ў Асноўным законе краіны, грамадзянамі якой мы з'яўляемся.

Ёсць канстытуцыі больш сталага ўзросту, чым наша. Нядаўна адзначыла сваё 200-годдзе канстытуцыя ЗША — першая канстытуцыя эпохі буржуазных рэвалюцый. Але па сваім значэнні, па гуманістычным змесце і выражэнні інтарэсаў працоўных Асноўны закон СССР не мае сабе роўных у гісторыі.

Права на працу, права на адукацыю, права на вывучэнне роднай мовы і шырокі доступ да культурных багаццяў, права на адпачынак і сацыяльнае забеспячэнне, усеагульнае, роўнае выбарчае права, якое не залежыць ад сацыяльнага паходжання чалавека і яго веравызнання — усё гэта вялікія заваёвы сацыялізму.

Але Канстытуцыя — не проста дакумент выключнай важнасці, не проста дэкларацыя на паперы. На жаль, мы яшчэ часам забываем пра галоўнае. А галоўнае ў тым — якім рэальным зместам напоўнены кожны пункт закона, як яго палажэнні ажыццяўляюцца на практыцы, наколькі цесная ў нашым жыцці сувязь паміж правамі і абавязкамі. І гэта ўжо залежыць ад нас — грамадзян сваёй краіны.

«Не толькі з тэорыі, але з уласнай шматгадовай практыкі мы ведаем, што сацыялістычны лад паспяхова развіваецца толькі тады, калі сам народ рэальна кіруе сваімі справамі, калі мільёны людзей удзельнічаюць у палітычным жыцці. Гэта і ёсць самакіраванне працоўных у ленінскім яго разуменні, яно складае сутнасць Савецкай улады», — гаварылася ў Палітычным дакладзе ЦК КПСС XXVII з'езду партыі.

Адсюль вынікае неабходнасць развіцця сацыялістычнага народаўладдзя — узвышэння ролі Саветаў, пашырэння іх рэальных правоў, усямернага развіцця дэмакратыі і галоснасці на ўсіх узроўнях.

Сацыялістычнае заканадаўства развіваецца няспынна. Аднак сённяшні дзень, перабудова ўсіх сфер нашага грамадства патрабуюць і карэннай перабудовы заканадаўства, прывядзення яго ў адпаведнасць з рэальнымі патрэбамі жыцця. Даводзіцца адмаўляцца ад тых законаў і палажэнняў, што фарміраваліся ў гады застою і зрабіліся часткай «механізму тармажэння», пра які было сказана на студзеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС.

Рух, у які прыйшла ўся наша краіна, адну за адной адкідвае шматлікія бюракратычныя інструкцыі, заімшэлыя параграфы, неабгрунтаваныя забароны, якія скоўвалі і, на жаль, прадаўжаюць скоўваць ініцыятыву чалавека, стрымліваць эканамічныя рэформы. Разам з тым ідзе напружаная стваральная праца ў заканадаўстве. За апошні час прыняты цэлы рад важнейшых юрыдычных актаў. З 1-га студзеня 1988 года ўступіць у сілу Закон аб сацыялістычным прадпрыемстве (аб'яднанні). Прыняты Закон аб усенародным абмеркаванні важных пытанняў дзяржаўнага жыцця, Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці, Закон аб парадку абскарджання ў суд неправамерных дзеянняў службовых асоб, якія ўшчымляюць правы грамадзян, і інш.

Рыхтуецца Закон аб друку. І ўсё гэта — у развіццё сацыялістычнай дэмакратыі.

Нядаўна ў Мінску адбыўся рэспубліканскі сход партыйна-гаспадарчага актыву, прысвечаны праблемам аховы здароўя.

Выступаючы на сходзе, першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў сказаў аб тым, што 70-годдзе Вялікага Кастрычніка, якое наша рэспубліка будзе адзначаць разам з усёй Савецкай краінай, гэта «падстава для таго, каб уважліва прааналізаваць вынікі сваёй работы і суаднесці іх з задачамі, вызначанымі XXVII з'ездам КПСС».

Дзень Савецкай Канстытуцыі —гэта таксама падстава для кожнага з нас яшчэ раз задумацца над каштоўнасцямі сацыялізму і над тым, што мы можам, абавязаны зрабіць, каб быць вартымі высокіх ідэалаў Кастрычніка.

# ГРАМАДСКАЯ ПАЗІЦЫЯ ПІСЬМЕННІКА

**Маральна-палітычная атмасфера ў нашым грамадстве сёння ў многім вызначаецца рашэннямі чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС, на якім былі разгледжаны кардынальныя пытанні перабудовы — радыкальнай рэформы кіравання эканомікай, якасных змен у сістэме гаспадарчага механізму, паглыблення працэсу дэмакратызацыі ўсіх бакоў жыцця.**

**Аналізуючы час, які прайшоў пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС, Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў у сваім дакладзе на чэрвеньскім Пленуме падкрэсліў, што «...першы вывад, які вынікае з вопыту двух апошніх гадоў, заключаецца ў тым, каб не толькі захоўваць і падтрымліваць, але і ўсямерна паглыбляць і развіваць існуючую ў краіне абстаноўку публічнасці, адкрытасці, якая дазваляе кожнаму чалавеку праяўляць сваю грамадскую пазіцыю...»**

**Пытанні практычнага ўвасаблення рашэнняў Пленума сталі ў цэнтры ўвагі адкрытага партыйнага сходу СП БССР, які адбыўся 28 верасня г. г. З дакладам «Удасканаленне арганізацыйна-творчай работы Саюза пісьменнікаў БССР у святле рашэнняў чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС» на сходзе выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч.**

**У спрэчках выступілі Г. Колас, Г. Васілеўская, У. Якутаў, Г. Далідовіч, В. Адамчык, В. Дашкевіч, А. Бажко, С. Шушкевіч, У. Някляеў.**

**Паведамленне «Аб выкананні пастановы ЦК КПСС «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце Ташкенцкай партарганізацыі па прыёме ў партыю і ўмацаванні партыйных радоў» зрабіў сакратар партбюро СП БССР В. Гігевіч.**

**У рабоце сходу прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч, загадчык сектара літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. І. Бутэвіч, сакратар Партызанскага РК КПБ Г. І. Панфіловіч.**

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА




## Анкета «ЛіМа»

**1. У чым Вы асабіста бачыце пераемнасць рэвалюцыйных традыцый, практычную сувязь перабудовы з ідэаламі Кастрычніка?**

**2. Як Вы ўяўляеце значэнне чалавечага фактара, чалавечай асобы ў працэсе перабудовы? Ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні, якое адбываецца ў грамадстве?**

**З адказамі на пытанні анкеты ў «ЛіМе» выступілі кампазітар Я. Глебаў (7 жніўня г. г.), кінарэжысёр В. Нікіфараў (21 жніўня г. г.), мастак З. Азгур (4 верасня г. г.), пісьменнік І. Дуброўскі (11 верасня г. г.), літаратуразнаўца У. Гніламёдаў (18 верасня г. г.).**

***Сёння выступае мастак Васіль Шаранговіч.***

1. Наш час — гэта сапраўды рэвалюцыйны час, час пошуку і эксперыментаў, барацьбы за актыўны, зацікаўлены ўдзел кожнага чалавека ў справах і здзяйсненнях дзяржавы, час, калі кожны з нас павінен усвядоміць, што толькі з агульных намаганняў складаецца сацыяльна-эканамічны і культурны ўзровень усяго грамадства.

У чым я бачу пераемнасць ідэалаў Кастрычніка? У тым, каб даць новы імпульс развіццю творчых і духоўных сіл сацыялістычнага грамадства; дэмагогію замяніць справамі, перайсці ад параднага прыхарошвання жыцця да праўдзівага выкрыцця недахопаў, іх пераадолення. Гэта і будзе сапраўдны рух наперад.

Нарэшце мы ўсвядомілі тое, што культура павінна займаць *не апошняе месца ў жыцці* і развіцці нашага грамадства. У працэсе, калі рос дабрабыт народа, паляпшалася яго сацыяльнае становішча, мне здаецца, была страчана духоўнасць. І сам па сабе дабрабыт без належнага ўздыму культурнага ўзроўню стаў развіваць такія негатыўныя рысы, як прагнасць, зайздрасць, жаданне асобных людзей добра і «прыгожа» жыць за чужы кошт без асаблівых намаганняў. Усё гэта прывяло да пэўнага адасаблення людзей.

Сёння мы імкнёмся да маральнага ачышчэння грамадства. Без уздыму духоўнасці, культуры гэта зрабіць немагчыма. Ёсць вялікая патрэба, каб зрухі, якія адбываюцца ў адносінах да культуры, атрымалі больш глыбокае, паўсюднае развіццё. Бо культура — гэта не толькі ўзровень адносін, гэта і культура працы, культура слова, стаўленне да спадчыны, усведамленне гістарычнай пераемнасці і многае іншае.

Пытанні гуманітарнага, эстэтычнага выхавання стаяць перад намі асабліва востра. Гістарычная сутнасць мастацтва — гэта сувязь часоў і, абапіраючыся на спадчыну, захоўваючы яе, ствараючы новыя мастацкія каштоўнасці, мы павінны думаць і дбаць пра тых, каму належыць прадаўжаць лепшыя традыцыі сучаснага мастацтва на новым гістарычным вітку. У гэтым аспекце важнае значэнне мае выхаванне моладзі.

Ідзе перабудова вышэйшай школы, ідуць пошукі новых форм выхавання і навучання. Многа праблем і пакуль нявырашаных пытанняў стаіць і перад мастацкай школай рэспублікі (пра гэта я і буду гаварыць): вызначэнне шляхоў яе развіцця, удасканаленне арганізацыйнай і выхаваўчай структуры, карэннае паляпшэнне вучэбнай і матэрыяльнай базы.

У выяўленчым мастацтве адбываецца пэўны пералом, расце творчая актыўнасць сталых майстроў, ствараюцца розныя аб'яднанні творчай моладзі. Моладзь хоча заявіць пра сябе. З аднаго боку, такая актыўнасць радуе, але ёсць і тое, што асабіста мяне трывожыць, насцярожвае. Тут я акрэсліў бы дзве праблемы. Па-першае, часта пошукі новага абмяжоўваюцца *ў маладых толькі формай* без асэнсавання сучаснага ідэала з адэкватным яму ўвасабленнем вобраза. У гэтым выпадку творы атрымліваюцца безаблічнымі, яны нібы без роду і племя — не маюць ні нацыянальнай, ні сацыяльнай адметнасці. Па-другое, назіраецца зніжэнне прафесіяналізму, часта проста адмаўленне ад яго, а на гэтай глебе выспяваюць дылетантызм, безгустоўшчына, самадзейнасць не ў лепшым яе значэнні. Як правіла, «аракуламі новага» (хоць практычна гэтае «новае» ўжо даўно забытае старое) становяцца людзі, не падрыхтаваныя прафесійна або падрыхтаваныя слаба. Мы ж ведаем па сусветнай гісторыі мастацтва, што новае адкрывалі творцы высокага таленту і прафесійнай культуры.

І вось тут — слова за мастацкай школай. Страціць школу лёгка, пабудаваць жа і сцвердзіць яе— значна цяжэй, гэта патрабуе доўгай карпатлівай работы. Прыгадаем гісторыю станаўлення Савецкай улады, час вялікіх *сацыяльных і* культурных змен. Імкнучыся знайсці і зацвердзіць новае пралетарскае мастацтва і яго ідэалы, мастакі-максімалісты адмаўлялі ўсе папярэднія набыткі і школу ў тым ліку. Вядома, што гэта не прынесла плёну, а разбураная школа з цяжкасцю, па крупінках узнаўлялася.

Дарэчы, калі мы гаворым пра мастацкую школу, то чамусьці маем на ўвазе толькі ВНУ, хоць паняцце «школы» намнога шырэй і ахоплівае ўсе ўзроўні мастацкага выхавання. І адзін з важнейшых момантаў тут — пошук таленавітай моладзі (дарэчы, не толькі сярод мінчан), лагічнае правядзенне яе па ўсіх прыступках мастацкай адукацыі, уключаючы і вышэйшую. Нам патрэбна разглядаць пытанні мастацкай адукацыі як узвядзенне прыгожага будынка, вянцом якога павінен стаць *мастацкі інстытут*. Але мы не здолеем будаваць гэты храм, пакуль не будзе моцнага падмурку, якім з'яўляецца пачатковае і сярэдняе звяно мастацкай адукацыі. Вось тут павінна быць непарыўная сувязь: сярэдняя школа —мастацкая школа, вучылішча — вышэйшая школа.

Нам неабходна дбаць пра кардынальнае вырашэнне гэтага пытання і, у першую чаргу, пра перспектывы развіцця інстытута, яго структуры.

**Пра стварэнне самастойнага мастацкага інстытута гаворка ідзе даўно. Наспеў час перайсці ад слоў да справы. Патэнцыял двух факультэтаў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута — мастацкага і мастацка-прамысловага — дае такую магчымасць і ў якасным і ў колькасным плане. Звернем-**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ПЯЦІДЗЕСЯТЫ, ЮБІЛЕЙНЫ

**1 кастрычніка, у Міжнародны дзень музыкі, Беларуская дзяржаўная філармонія адкрыла свой 50-ы канцэртны сезон**

**У гэты вечар у выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР прагучала адна з геніяльных сімфоній П. Чайкоўскага «Манфрэд», Трэці фартэпіянны канцэрт Л. Бетховена (саліст М. Плятнёў) і араторыя Я. Глебава «Свяці, зара», у выкананні якой удзельнічалі таксама Акадэмічная харавая капэла БССР імя Р. Шырмы, узорны хор Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Белдзяржкансерваторыі, салісты оперы Н. Галеева і М. Маісеенка.**

**З галоўных падзей новага сезона можна вылучыць стаўшыя ўжо традыцыйнымі фестывалі мастацтваў. Гэта «Беларуская музычная восень», сярод удзельнікаў якой чакаем Малы сімфанічны аркестр СССР пад кіраўніцтвам Ю. Сіманава, Літоўскі камерны аркестр, харавыя калектывы з Масквы пад кіраўніцтвам У. Мініна і В. Палянскага, іншыя вядучыя мастацкія калектывы краіны. Гэта і «Мінская вясна», у рамках якой запланаваны аўтарскія канцэрты кампазітараў А. Багатырова і Л. Шлег, прагучаць, як заўсёды, многія новыя творы іншых беларускіх кампазітараў. З 4 па 10 студзеня цэнтральная канцэртная пляцоўка нашага горада будзе аддадзена вядучым джазавым музыкантам краіны, удзельнікам II фестывалю «Дні фартэпіяннага джазу»; у маі месяцы, у Зале камернай музыкі, якая адкрыла сёлета свой чацвёрты сезон і стала папулярнай у мінчан, плануецца правядзенне фестывалю арганнай музыкі.**

**Цяжка пералічыць усе калектывы і выканаўцаў, з мастацтвам якіх сустрэнуцца мінчане і госці сталіцы ў юбілейным сезоне. Назаву толькі некаторыя з іх: харавая капэла Арменіі (мастацкі кіраўнік О. Чэкіджан) і Ансамбль фальклорнай музыкі пад кіраўніцтвам В. Назарава, Дзяржаўны ансамбль народнага танца СССР (мастацкі кіраўнік І. Маісееў) і ансамбль старадаўняй музыкі «Канцэрціна», джаз-бэнд пад кіраўніцтвам У. Чакасіна і ансамбль скрыпачоў Вялікага тэатра СССР, Паўночны рускі народны хор і Ансамбль салістаў пад кіраўніцтвам Ю. Башмета, выдатныя выканаўцы І. Архіпава, Э. Вірсаладзе, Т. Нікалаева, А. Днішаў, С. Лейферкус, Н. Гутман, С. Стадлер...**

**Вядучыя калектывы і салісты нашай рэспублікі выступяць з новымі канцэртнымі праграмамі, падрыхтаванымі да юбілею філармоніі і да 70-годдзя Кастрычніка. Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, напрыклад, рыхтуе ў канцэртным выкананні оперу Д. Вердзі «Сіла лёсу» з удзелам вядучых салістаў Ленінградскага тэатра оперы і балета імя**

**ся да вопыту нашых суседзяў—прыбалтаў. Яны даўно маюць паўнацэнныя, паўнакроўныя мастацкія навучальныя ўстановы. Чаму ж наша рэспубліка пазбаўлена такой магчымасці?**

**Нам трэба рыхтаваць рэстаўратараў, мастацтвазнаўцаў на дзённым аддзяленні, майстроў мастацкага габелена і сцэнічнага касцюма, палітычнага плаката і шэрагу іншых спецыяльнасцей. Відаць, варта было б *падумаць пра падрыхтоўку* мастакоў-архітэктараў у сценах менавіта мастацкага інстытута, бо надта адчуваецца, што архітэктура стала прыкладной, страціла функцыі мастацтва.**

**Выстаўка студэнцкіх работ, прысвечаная 40-годдзю Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, падвяла вынікі працы двух факультэтаў і выклікала цікавасць у гледачоў. Разам з тым добра бачна, што трэба нам яшчэ вельмі сур'ёзна працаваць не толькі над метадалогіяй павышэння *прафесійнага майстэрства, але і* над праблемай выхавання асобы будучага мастака з трывалай ідэйнай пазіцыяй і высокім грамадзянскім абавязкам.**

***Аднак нельга не сказаць* і пра тое, што выхоўваць прафесіяналаў інстытут вымушаны ў... малапрафесійных умовах. За сарагоддзе ў ім з'явілася шмат новых спецыяльнасцей і спецыялізацый, матэрыяльная ж база яго не палепшылася, а, фактычна, пагоршылася. Ці ж спрыяе гэта ўздыму вучэбна-выхаваўчай работы? Вядома, не. А былі ж пастановы *партыі і ўрада*, якія канкрэтна гаварылі пра ўдасканаленне мастацкай адукацыі, паляпшэнне вучэбнай і матэрыяльна-тэхнічнай базы.**

**Не так даўно мне давялося наведаць наш суседні Літоўскі мастацкі інстытут. Я проста падобраму зайздросціў таму, як пашыраюцца яго вучэбныя плошчы, *каб яшчэ лепшымі сталі* і без таго неблагія ўмовы навучання, таму, як у інстытуце ствараецца сапраўдны культурны цэнтр са сваім музеем, майстэрнямі для выкладчыкаў і г. д. Аб увазе да інстытута сведчыць і такі факт. У час нашага прыезду яго наведалі першы сакратар Вільнюскага гаркома партыі і намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі рэспублікі: трэба было вырашаць пытанне з будаўнікамі аб своечасовай здачы новага корпуса для аддзялення керамікі... Нам пра такое пакуль што можна толькі марыць.**

Калі мы сапраўды дбаем пра лёс і будучыню нацыянальнага выяўленчага мастацтва, дык неабходна тэрмінова думаць пра стварэнне ў Беларусі самастойнага мастацкага інстытута з неабходнымі матэрыяльна-тэхнічнымі ўмовамі, з базавымі Мінскім мастацкім вучылішчам і мастацкім аддзяленнем Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве, арганізацыю адзінага вучэбна-метадычнага цэнтра па мастацкім выхаванні.

2. Я разумею чалавечы фактар як выхаванне ў чалавеку пачуцця гонару, сумленнасці, словам, усіх тых лепшых якасцей, на якіх трымалася і рухалася наперад гісторыя чалавецтва.

На жаль, некаторыя каштоўнасці мы страцілі або страчваем. І тут важная роля адводзіцца мастацтву ў сцвярджэнні высокіх ідэалаў, выхаванні тых гуманістычных якасцей, якія дапамогуць зберагчы мір і прыроду, захаваць гістарычную памяць як крыніцу духоўнага ўзбагачэння чалавецтва.

Мы, мастакі-педагогі, адказныя не толькі за стан сучаснага мастацтва, але і за лёс яго будучыні. Развіваючы грамадзянскія і інтэрнацыянальныя пачуцці нашага студэнцтва, мы павінны прывіваць яму любоў да Радзімы, любоў да свайго народа і краю, да таго кутка, дзе чалавек нарадзіўся і вырас. Бо ўзбагаціць савецкае мастацтва нельга за кошт паўтарэння або пераймання нацыянальных здабыткаў іншых народаў, забываючыся на свае нацыянальныя асаблівасці і традыцыі.

Калі мы гаворым пра выхаванне ў студэнцкай моладзі высокіх маральна-этычных якасцей, духоўнай культуры, грунтоўнага прафесіяналізму, дык варта помніць, што ўплываюць на студэнта не толькі намаганні невялікага педагагічнага калектыву, але і атмасфера ў нашым творчым саюзе. Калі заніжана агульная патрабавальнасць да ўзроўню мастацкіх выставак, дык няма стымулу і студэнту асабліва намагацца. Той факт, што ў апошнія гады нямала студэнцкіх работ трапляе на прафесійныя выстаўкі, гаворыць не столькі пра заслугі інстытута, колькі пра зніжэнне крытэрыяў адбору.

Развважаючы пра чалавечы фактар, нельга не сказаць і пра час, калі малады мастак ідзе ў самастойнае творчае жыццё. Поўнаму энергіі спецыялісту даводзіцца доўга шукаць куток для творчай працы. Тут ужо не дапамогуць ні талент, ні прафесійная падрыхтаванасць, бо патрэбны яшчэ і здольнасці... «прабіўнога» чалавека. Ці не ў гэтым — адна з прычын творчага застою маладых? Часта пасля выдатнай абароны дыплома мы гадамі не бачым у былога выхаванца хоць бы раўнацэнных дыплому твораў, а, бывае, яны і зусім не нараджаюцца. Ад няўвагі да творцы — і нашы страты: маральныя і матэрыяльныя, прычым незваротныя.

Наш абавязак — змяніць такое становішча, даць магчымасць таленавітай моладзі праявіць сябе на самастойным творчым шляху, бо талент, як вядома, — набытак усяго народа, яго гістарычная каштоўнасць. Клапаціцца пра яго трэба добразычліва, патрабавальна і зацікаўлена.

**Васіль ШАРАНГОВІЧ,**
**прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, прафесар.**

# ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ З ЖЫЦЦЯ ПРАВАДЫРА

**Як рэспубліканскае тэлебачанне сустракае слаўны юбілей — 70-годдзе Кастрычніка? У Галоўнай дырэкцыі праграм БТ нам паведамілі, што ўсе рэдакцыі і падраздзяленні актыўна ўключыліся ў падрыхтоўку да знамянальнай гадавіны. Гледачы, напэўна, заўважылі ўжо маштабныя цыклавыя перадачы «Мы з племені аратых», «Вытокі», «Дзень праз гады», «Спадчына», «Маладосць мая незабыўная», тэлефільмы «Успаміны старых бальшавікоў» [сцэнарый С. Алексіевіч] і «Рэвалюцыйны эцюд» па матывах апавяданняў М. Зарэцкага,— пералічыць усё, вядома ж, немагчыма...**

А ў Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм ідзе праца над творам, які мяркуецца паказаць непасрэдна ў святочныя дні. Старэйшы рэжысёр Беларускага тэлебачання, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Віктар Карпілаў ажыццяўляе пастаноўку тэлеспектакля «Незабыўная ноч» па п'есе І. Прута і Я. Чарняк. У аснове сюжэта—гістарычны факт: у ноч з 25 на 26 кастрычніка 1917-га, пасля штурму Зімняга, Уладзімір Ільіч Ленін некалькі гадзін правёў на кватэры У. Д. Бонч-Бруевіча, дзе працаваў над праектамі дэкрэтаў аб міры і зямлі.

— Здавалася б, мы ведаем ўсё пра тыя дні, яны нават дакладна хранаметраваныя, — гаворыць рэжысёр - пастаноўшчык. — І, тым не менш, мы зноў і зноў звяртаемся да тых чатырох гадзін з жыцця Уладзіміра Ільіча... Таму, напэўна, што вобраз правадыра—шматгранны і невычэрпны, увасобіць яго ў поўным аб'ёме не пад сілу аднаму мастаку, дзеля гэтага патрэбны намаганні многіх творцаў.

Галоўная роля ў спектаклі даручана акцёру Рускага тэатра БССР Уладзіміру Шэлеставу. Вось што сказаў ён нам у невялікім інтэрв'ю на здымачнай пляцоўцы:

— Не першы раз я дакранаюся да гэтага вобраза. Яшчэ ў інстытуце, у курсавым тэатралізаваным прадстаўленні, чытаў ленінскія прамовы... Праз шмат гадоў мне пашчасціла сыграць у спектаклі нашага тэатра «Сінія коні на чырвонай траве» М. Шатрова. Як памятаеце, у той рабоце прынцыповым быў адыход ад партрэтнага грыму, рабілася спроба ўвасобіць думку Ільіча. І вось—новая сустрэча. У «Незабыўнай ночы» мне трэба знайсці дакладную моўную характарыстыку, пластыку, грым (хочацца выказаць словы ўдзячнасці мастаку-грымёру Аляксею Іванавічу Тонкаму, які вельмі мне дапамог). Прынамсі, партрэтнае падабенства—не галоўная наша мэта. Самае важнае, каб ярка, пераканаўча і актуальна прагучалі ленінскія ідэі і думкі.

**А. ДЗМІТРЫЕЎ.**

Фота аўтара.



У ролі У. І. Леніна — У. ШЭЛЕСТАЎ.



Сцэна з тэлеспектакля «Незабыўная ноч». А. БЕНДАВА (Крупская), Т. ГАРКУША (Вера Міхайлаўна) і В. САЛАДЗІЛАЎ (Бонч-Бруевіч).

**С. Кірава. Разам з Акадэмічнай харавой капэлай БССР імя Р. Шырмы аркестр працуе над «Рэквіемам» Р. Шумана—гэта будзе першае выкананне твора ў Мінску. 20 кастрычніка адкрыюць сезон жыновічаўцы, у праграме — дзве музычныя прэм'еры: «Кірмаш» А. Мдзівані і «Беларускі танец» Д. Смольскага. Крыху пазней на сцэне філармоніі адбудуцца творчыя справаздачы ансамбля народнай музыкі «Свята», Тэатра пантамімы «Рух». З абноўленым рэпертуарам выступяць перад мінчанамі шырмаўцы, калектыў Мінскага камернага аркестра, Дзяржаўны ансамбль танца БССР.**

**Некалькі слоў пра салістаў. На 4 гады разлічаны цыкл канцэртаў «Анталогія камернай музыкі для кларнета», які падрыхтаваў лаўрэат Усесаюзнага і Міжнароднага конкурсаў кларнетыст Генадзь Забара разам з Юрыем Гільдзюком (фартэпіяна). Лаўрэат Міжнароднага конкурсу Ігар Алоўнікаў выступіць з новым канцэртным цыклам «Фантазіі для клавішных інструментаў». З цікавасцю прынята філармоніяй прапанова саліста оперы Віктара Скорабагатава — «Анталогія беларускага раманса»... Спіс гэты, зразумела, можна прадаўжаць. Але хочацца расказаць і пра навінкі нашых абанементаў, якія займаюць значнае месца ў канцэртнай афішы.**

**У юбілейным сезоне іх выпушчана 27. Пры складанні гэтых абанементаў былі ўлічаны шматгранныя музычныя, літаратурныя запатрабаванні і ўзрост слухачоў. Побач з традыцыйнымі — «Сімфанічныя старонкі рускага і савецкага музычнага мастацтва», «Анталогія арганнай музыкі», «Музыка, паэзія, жывапіс», «Вечары фартэпіяннай музыкі» — прапануюцца новыя абанементы з наступнай тэматыкай: «Музыка ў карцінах старых майстроў», «Літаратурна-арганныя канцэрты», «У нас у гасцях кампазітары» і інш.**

**Некалькі абанементаў з лекцыямі-канцэртамі адрасаваны моладзі і навучэнцам розных класаў. Аднак гэтых некалькіх абанементаў яўна недастаткова для больш шырокай работы па эстэтычным выхаванні юных мінчан, і, відаць, наспела неабходнасць стварэння дзіцячай філармоніі, бо ад таго, якую музыку будуць слухаць нашы дзеці, залежаць многія рысы іх асобы, што фарміруецца.**

**Запрашаючы слухачоў у канцэртную залу, неабходна дадаць, *што да юбілею філармоніі* будзе адкрыты музей, дзе можна азнаёміцца з экспазіцыяй, якая адлюстроўвае асноўныя этапы паўвекавой гісторыі Беларускай дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармоніі.**

**А. ЗАКІРАЎ,**
**рэжысёр канцэртнай залы БДФ.**

# БОЛЬШ ЗА СТО ТВОРАЎ

## Да дэкады кнігі ГДР у СССР

У нашай рэспубліцы добра ведаюць, любяць і з вялікай цікавасцю чытаюць творы класічнай нямецкай літаратуры, а таксама кнігі сучасных пісьменнікаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

За гады Савецкай улады ў Беларусі пабачылі свет больш за 100 твораў нямецкіх аўтараў агульным тыражом каля 10 мільёнаў экземпляраў. Вялікае месца сярод твораў нямецкіх майстроў слова, што пабачылі свет у Беларусі, займае, вядома, класіка, шырока выдаюцца ў нас таксама і творы прозы і паэзіі, навуковая, вучэбная літаратура аўтараў з ГДР.

Толькі ў апошні час рэспубліканскія выдавецтвы выдалі асобнымі кнігамі зборнік лірыкі І. В. Гётэ «Сустрэча і развітанне», раман «Маўр» і лонданскія грані» І. і В. Корн, дакументальны раман Г. Ота «Пара ў дарогу, буслы», кнігу Г. Фалады «Даўным-даўно ў нас дома», «Балады» Ф. Шылера, раман А. Аменды «Апасіяната», раман Р. Крафт «Востраў без маяка» і шэраг іншых кніг.

Шмат твораў нямецкай класікі і сучаснай прозы і паэзіі ГДР друкуецца ў штогодніках «Далягляды» і «Ветразь». На старонках гэтых альманахаў публікаваліся паэзія Г. Веерта, апавяданні пісьменнікаў Г. дэ Бройна, Ф. К. Вайскопфа, Ф. Вольфа, Г. Канта, асобныя вершы Г. Гейнэ і Б. Брэхта, проза і паэзія сучасных пісьменнікаў з ГДР Ш. Гермліна, У. Бергера і іншых.

Зараз выдавецтва «Мастацкая літаратура» рыхтуе да выпуску раман нямецкага пісьменніка-антыфашыста Т. Мана «Доктар Фаўстус» і зборнік вершаў Б. Брэхта «На шалях праўды».

Па заказах кнігагандлёвых *арганізацый ГДР* рэспубліканскія выдавецтвы высылаюць гатовыя тыражы на рускай і беларускай мовах, а таксама лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на нямецкую мову. Гэта творы класікаў беларускай літаратуры Янкі Ку*палы* і Якуба Коласа, а таксама асобныя творы П. Броўкі, Я. Брыля, М. Танка, І. Чыгрынава, беларускія народныя казкі, фальклор.

У апошнія гады па заказах кнігагандлёвых фірм ГДР выдавецтва «Юнацтва» выпусціла ў *перакладзе на нямецкую мову* 5 кніг беларускіх аўтараў агульным тыражом 120 тысяч экземпляраў.

Практыкуюцца ў рэспубліцы і сумесныя выданні, аўтарамі якіх з'яўляюцца вучоныя з ГДР і БССР. Гэта зборнікі калектываў аўтараў «З гісторыі германскага рабочага руху і савецка-германская інтэрнацыянальная садружнасць», «Ленінская гнасеалагічная спадчына і яе значэнне для навукі», «Тэорыя і практыка выкладання рускай і савецкай літаратуры студэнтам з ГДР» і шмат іншых работ.

У сваю чаргу кнігавыдаўцы з ГДР публікуюць творы беларускіх пісьменнікаў. Так, за апошнія гады ў выдавецтве «Фоль унд Вельт» убачылі свет «Блакадная кніга» А. Адамовіча і Д. Граніна, раман А. Каштанава «Карабейнікі», выдавецтва «Нойес Лебен» выпусціла аповесць У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха».

На Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, што толькі што скончыла сваю работу, беларускія кнігавыдаўцы падпісалі шэраг кантрактаў з прадстаўнікамі выдавецтваў ГДР на ўступку правоў выдання і распаўсюджвання на тэрыторыі ГДР такіх кніг, як В. Быкаў «Кар'ер», Я. Скрыган «Тры апавяданні», А. Мальдзіс «Прадмова да кнігі Саламеі Пульштэйн», С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар»; шмат кніг навуковай і вучэбна-педагагічнай тэматыкі.

У сваю чаргу беларускія кнігавыдаўцы дамовіліся выпусціць у перакладзе на беларускую мову творы аўтараў з ГДР, такіх, як Г. Маўрэр «Кастрычніцкая зорка», Х. Прайслер «Вершы», работы А. Мюлера, Г. Штэфані і іншых.

У час работы ММКВК-87 выдавецтва «Вышэйшая школа» падпісала пратакол аб сумесным доўгатэрміновым супрацоўніцтве з выдавецтвам ГДР «Фахбухферлаг», які прадугледжвае абмен інфармацыяй у галіне кнігавыдання, стажыроўку выдавецкіх работнікаў, сумесныя семінары.

**В. ВАЛЫНСКІ,**
**вядучы рэдактар Дзяржкамвыда БССР.**

## ПАЭЗІЯ

**Артур ВОЛЬСКІ**



### З кнігі «Наваселле дрэў»

### Боль Чарнобыля

Чым гэты боль нясцерпны
вымераць?
Ён не лягчэй за той —
з вайны.
Ці можа край палескі вымерці
без аніякае віны?

Няўжо атрутны вецер
выпетрыць
пачуцці нашы, мову, слых?
Няўжо не вернуцца дазіметры
да тых паказчыкаў — былых?
Няўжо абапал плыннай
Прыпяці
лясы змарнеюць і палі?..
Усё стрываем, што ні
прыйдзецца,
каб не застацца без зямлі;
каб жыта ў полі каласілася,
каб не радзеў лясоў гушчар,
каб над планетай не насілася
пагроза смерці ў плойме хмар;
каб катастрофа немагчымаю
была; каб матухна Зямля
не ўпала, стаўшы Хірасімаю,
счарнелым яблыкам з галля.
Пакуль найгоршае не зробілі,
мір, толькі мір —
жыцця пароль.
Неспадзяваны боль
Чарнобыля —
Зямлі папераджальны боль.

### Суседаў сын вярнуўся

Суседаў сын дамоў
з Афганістана
вярнуўся...
На руках — загару медзь...
Я ні пра што дапытвацца
не стану.
І па вачах няцяжка зразумець,
што перажыў ён...
След нядаўняй смагі
яшчэ не сцёрся ў зрэнках
назусім.
Ды і медаль —
як сведчанне адвагі —
гаворыць многа воінам
былым.
Шрамок сінее ледзь
ля самай скроні...
Начэй бяссонных цёмныя
кругі...
І мазалі,
што ўеліся ў далоні,
якім па сіле танка рычагі...
Сусед бядуе:
— Ён не спіць начамі...
Не спіць аж да світальнае
пары...
І ўсё глядзіць асохлымі
вачамі
туды, дзе бой вядуць яго
сябры...
І нам, суседзе, гэта ўсё
знаёма.
З гадамі не забыліся, ані.
Пасля вайны, вярнуўшыся
дадому,
мы засынаць не ўмелі ў
цішыні.
Хай міма ўсе асколкі
праляцелі, —
ён не забудзе той смяротны
вір.
У гор падступных нібы на
прыцэле
даліна перасохлая Пандшыр.
У той зямлі неразгаданых
казак,
дзе не адзін сабрат у прысак
лёг,
інтэрнацыянальны абавязак
выконваў ён па-воінску.
Як мог.
Дасюль ён чуе, як скрыгочуць
танкі,
як б'юць гарматы ў тысячы
грамоў...
Не налівай. Схавай, суседзе,
шклянкі.
Яшчэ не ўсе вярнуліся дамоў.

### Два словы

Два гэтых словы ў вечнай
змове.
Як, скажам, ранне і світанне.
Крычаць не варта аб любові,
крашчаць не варта аб каханні.
Скажыце раз,
ды гэтак шчыра,
каб глыбіню пачуццяў
змераць.
Ані радзіма,
ні жанчына
пустому слову не паверарць.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ЯК ГЭТА ЗРАЗУМЕЦЬ?

Атрымаў чарговы том энцыклапедычнага выдання «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — Мінская вобласць, кніга першая. Гартаю з асаблівым хваляваннем, бо ў гэтым томе — мая малая радзіма, Лагойскі раён, пра гісторыю і культуру якога я сёе-тое ведаю. Радуюся, што ў кнізе названы многія старажытныя, даследаваныя і недаследаваныя, селішчы, гарадзішчы, могільнікі, курганы, месцы былых вёсак, розныя знакі памяці — дошкі, камяні, абеліскі... Наткнуўся на артыкул пра вёску Пасадзец Лагойскага раёна — радзіму Змітрака Бядулі. Усцешыўся: пазначана, што на мясцовай школе ёсць мемарыяльная дошка з імем пісьменніка, а затым ідзе досыць змястоўны артыкул пра яго самога — радкоў на восемдзесят. Вельмі ўсцешыўся! Малайцы нашы навукоўцы, падумалася, паставіліся да памяці выдатнага пісьменніка належным чынам.

Ну, а як жа адзначаны ў выданні купалаўскія мясціны на Лагойшчыне? — захваляваўся я ўслед за гэтым. Лагойшчына ж узрасціла вялікага паэта, які сам — каб не гадалі ў сумненнях будучыя біёграфы і даследчыкі — у адным з вершаў засведчыў:

**А я толькі верабейка,**
**Узрошчаны пад Гайнай.**

Так, у ваколіцах Гайны на Лагойшчыне прайшлі дзіцячыя, падлеткавыя і юнацкія гады паэта. Лагойшчына не толькі ўзрасціла Купалу, але і ўсё жыццё жывіла яго творчасць, натхніла на многія, многія, многія, самыя лепшыя, геніяльныя вершы, паэмы, п'есы. Самыя лепшыя ў Купалы — значыць, і ва ўсёй беларускай літаратуры. Вось ужо дзе сапраўды блаславёная, святая для памяці беларускага народа, для нашай нацыянальнай культуры — зямля!..

З чаго пачнём? З вёскі Косіна, канечне. Там будучы паэт жыў з 1886 па 1889 год, г. зн. ва ўзросце з чатырох да сямі гадоў — у самым важным для фарміравання асобы чалавека дашкольным узросце. Там ён, па ўласнаму сведчанню, навучыўся чытаць і пісаць. Там, на сцяне мясцовай школы, ёсць мемарыяльная дошка з імем найвялікшага паэта Беларусі. Чытаю артыкульчыкі пра Косіна — і вачам сваім не веру: пра Купалу — ні слова! І не ўспамінаецца нават! Выходзіць, ён не мае дачынення да гісторыі Косіна, а сама гэта святая мясціна не мае дачынення да гісторыі і культуры Беларусі?

Горка на душы зрабілася. Як жа гэта, думаю, магло здарыцца? Якое прыкрае ўпушчэнне ў такім аўтарытэтным навуковым выданні!

Ну, але ладна, паглядзім далей — пра іншыя купалаўскія мясціны. Вось зараз адкрыю старонку пра вёску Прудзішча і прачытаю: «Урочышча Жаброўшчына. Месца былой сядзібы, дзе чатыры гады — з 1891 па 1895 — жыў Ясь Луцэвіч, будучы Купала. Тут ён, зноў жа па ўласнаму сведчанню, глыбока зацікавіўся беларускім фальклорам, казкамі, паданнямі, песнямі, якія адкрывалі яму хараство і сілу роднага слова і абуджалі ў душы падлетка паэтычныя мары». Але нічога такога ў артыкуле пра вёску Прудзішча я не вычытаў. Ні пра месца былой сядзібы, ні пра самога Купалу — ні згадкі, ні слова! Тры гады назад я пабываў у Жаброўшчыне. Там, на лясной паляне, яшчэ добра бачны сляды падмурку, дзе стаяла хата паэта, яшчэ кусціцца здзічэлы бэз... Можна было б і здымак даць у «Помнікі» — пакуль не позна. Але і гэта святая мясціна, аказваецца, да гісторыі і культуры Беларусі дачынення не мае.

Не без страху, прызнаюся, пачаў я шукаць артыкул пра Селішча — тое, дзе Купала пражыў з 1895 па 1903 год, дзе ён напісаў першыя вершы і наогул адчуў сябе паэтам. Там прайшло восем гадоў яго жыцця! Ды якога жыцця — у якім узросце! З трынаццаці па дваццаць адзін! Няўдзячныя землякі зруйнавалі амаль усё на месцы былога фальварачка, і аднак жа сляды засталіся: камяні падмурку, яміны колішніх скляпкоў, здзічэлыя яблыні. Знак яшчэ ёсць, што тут была сядзіба. Але ні радка пра гэты знак, пра гэты след жыцця вялікага сына Бацькаўшчыны ў кнізе я не знайшоў. І гэтая святыня нашай зямлі дачынення да гісторыі і культуры Беларусі не мае!..

Яшчэ з большым страхам я стаў шукаць артыкул пра знакамітыя Акопы. У Акопах маці паэта Бянігна Іванаўна жыла з 1909 па 1926 год, сёстры — па 1929. Купала тут бываў часта і падоўгу, жыў цэлымі месяцамі, нідзе яму так добра, плённа не пісалася, як у Акопах. Іменна ў Акопах ім створаны паэмы «Яна і я», «Бандароўна», «Магіла льва», несмяротная камедыя «Паўлінка», драма «Раскіданае гняздо», камедыі «Тутэйшыя» і «Прымакі», не кажучы пра вершы, якіх набярэцца на вялікі том і сярод якіх такія шэдэўры купалаўскай лірыкі, як «Жняя», «Над ракою ў спакою», «Ты прыйдзі», «Дзве таполі», «За свабоду сваю», «На смерць Сцяпана Булата», «А зязюлька кукавала...». Там жа ім здзейснены паэтычны пераклад «Слова аб палку Ігаравым». Што такое былі Акопы для народнага песняра — выдатна паказана ў энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» (аўтары артыкула — А. Лойка і Я. Саламевіч). На маё перакананне, няма на нашай зямлі другой мясціны, якой бы беларуская літаратура была абавязана так, як Акопам. Чаму там да гэтага часу няма філіяла музея Янкі Купалы — пытанне асобнае (чытач можа лёгка параўнаць значэнне Ляўкоў для беларускай літаратуры і значэнне Акопаў, а ў Ляўках філіял музея ёсць). Тры гады назад я бачыў у Акопах добра захаваны падмурак хаты, у якой тварыў Паэт, амаль непарушаны мураваны паграбок з каменнымі сходкамі, парослыя кустамі былыя стаўкі каля самай сядзібы, побач — вячысты дуб, сведка «трудов и дней» паэта, і вялізны купалаўскі валун (метраў у пяць даўжынёй) з мемарыяльнай дошкай, на якой — імя і радкі Купалы... Страх мой быў недарэмны: і пра Акопы ў энцыклапедычным выданні «Збор помнікаў» я не знайшоў ні слова. І гэтая святыня святынь беларускай зямлі да гісторыі і культуры Беларусі таксама, аказваецца, не мае дачынення.

Пасля ўсяго гэтага можна было ўжо і не глядзець артыкул пра вёску Бяла́ручы, дзе некалі Ясь Луцэвіч закончыў двухкласнае народнае вучылішча і дзе сёння ёсць сярэдняя школа імя Янкі Купалы з адпаведнай мемарыяльнай дошкай на сцяне. Можна было быць упэўненым, што на разуменне аўтараў і выдаўцоў «Збору» і гэта да помнікаў культуры Беларусі не адносіцца. Так і аказалася. Праверыў я і артыкул пра вёску Корань, дзе на мясцовых могілках пахаваны бацька Янкі Купалы — Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч, а таксама брат і дзве сястры. Гадоў пяць назад на магіле Д. А. Луцэвіча пастаўлены сціплы помнічак. Ну, пісаць пра такую дробязь у акадэмічным выданні — што вы! Падумаць, гістарычная каштоўнасць—магіла бацькі найвялікшага народнага паэта!

Вось так, мае дарагія чытачы: пра купалаўскія мясціны на Лагойшчыне ў акадэмічным «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — а ні радка, а ні слова!

Можа, падумаў я, затое пашанцавала іншым класікам нашай літаратуры і вучоным, што жылі і працавалі на Лагойшчыне? Можа, сказана пра месца былога фальварка выдатнага пісьменніка Ядвігіна Ш. каля вёскі Карпілаўка? Там яшчэ ёсць сляды падмурку і астаткі цудоўных старых прысад — Ядвігін Ш. быў, апрача ўсяго іншага, і дасведчаным, культурным садоўнікам... Можа, пішучы пра вёску Крайск, навукоўцы ўспомнілі, што непадалёк быў фальварак Кур'янаўшчына — роднае месца вядомага пісьменніка, драматурга, крытыка і публіцыста, віднага палітычнага і грамадскага дзеяча, члена ЦК КПЗБ Леапольда Родзевіча?.. Можа, сказана, што ў цэнтры Лагойска, на левым беразе Гайны, ёсць магіла выдатнага вучонага, заснавальніка беларускай навуковай археалогіі, гісторыка і этнографа Канстанціна Тышкевіча? Праўда, роўна праз сто гадоў пасля яго пахавання (памёр у 1868 годзе) мармуровы помнік на магіле быў зруйнаваны, і яго трэба неадкладна аднавіць — пакуль не забылася месца, дзе ён цэлы век напамінаў людзям, якіх славутых людзей дала айчыне Лагойшчына... Можа, напісана ў «Зборы», што вёска Гайна (у мінулым — мястэчка) — радзіма выдатнага вучонага-славіста, пачынальніка беларускай і ўкраінскай фалькларыстыкі З. Я. Даленгі-Хадакоўскага (1784—1825) і пісьменніка, перакладчыка, вучонага-этнографа І. І. Шыдлоўскага (1793—1846)? Можа, пазначана, што ў фальварку каля вёскі Альхавец нарадзіўся вядомы гісторык рускай літаратуры прафесар Я. А. Ляцкі (1868—1942)?.. Калі цалкам абышлі ўвагай Купалу, дык, можа, нейкім цудам трапілі ў навуковае выданне гэтыя сляды памяці?

Ды дзе там. Цудаў у навуцы, як вядома, не бывае. Няма ў навуковым «Зборы помнікаў» і ніводнага з толькі што пералічаных «аб'ектаў». Да гісторыі і культуры Беларусі—паўтару яшчэ раз гэтую горка-сумную іронію — яны дачынення не маюць.

Што ж застаецца сказаць на заканчэнне? Ну, па-першае, тое, што ў рэдкалегію выдання ўваходзяць вядомыя гісторыкі і пісьменнікі. Калі з гісторыкаў, як то кажуць, узяткі гладкі — іх падыход да гісторыі дакастрычніцкай беларускай культуры і іх навуковыя канцэпцыі нам добра вядомы, то з пісьменнікаў можна за падобныя «недагляды» і спытаць. Па-другое, і гэта галоўнае — трэба бязлітасна ясна ўсвядоміць адну ісціну: наступіў крайні час рашуча пакончыць з агіднай паказухай, з бяздушна-бюракратычнымі, казённа-фармальнымі адносінамі да нацыянальнай культуры і да народнай памяці. Калі наогул ва ўсякую жывую і важную для людзей справу трэба ўкладаць і душу і сэрца, то там, дзе датычыць культуры і памяці, гэтай душы і сэрца трэба ўкладаць у сто разоў больш. Не цяжка ўявіць, як рыхтаваўся для «Збору помнікаў» той жа артыкул «Лагойскі раён». Паведамілі, загадалі раённаму начальству: патрэбны звесткі аб помніках гісторыі і культуры ў раёне, збольшага растлумачылі, што да гэтых помнікаў належыць. Начальнікі спусцілі загад ніжэйшым «адказным» таварышам. А паколькі і тыя і другія ў мясцовай гісторыі і культуры а ні ў зуб нагой —іх нядаўна перакінулі сюды: каго з Пінска, каго з Верхнядзвінска, а каго і з Нара-Фамінска, — то ў выніку і атрымалася звычайная тыповая бюракратычна-казённая, фармальная адпіска. Як для паказухі— дык больш і не трэба. Вось, маўляў, сабралі, напісалі, — бачыце, клапоцімся пра помнікі нашай гісторыі і культуры, клапоцімся!..

Бясспрэчна, «Збор помнікаў» — каштоўнае даведачнае выданне, асабліва — што датычыць звестак пра ўвекавечанне памяці герояў і ахвяр Вялікай Айчыннай вайны. І я не маю намеру агулам ацэньваць усё гэта выданне як недасканалае. Тым больш, што ўсе выдадзеныя дасюль кнігі «Збору» прачытаць пільна, уважліва, старонку за старонкай, я яшчэ не паспеў. Спадзяюся, што гэта ўжо зрабілі іншыя, і яны скажуць сваё слова пра тое, як пададзена ў выданні кожная з абласцей і кожны з раёнаў рэспублікі. Наколькі поўна там адлюстравана гісторыя і культура данай мясцовасці — у помніках. Я ж «зачапіўся вокам» толькі за асобныя факты, але факты абуральныя, абысці якія маўчаннем проста нельга, не маю маральнага права.

Час не дазваляе.

Час вялікіх жаданых перамен.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

## КНІГАПІС




С. ЗАКОННІКАЎ. Вечная далеч. Вершы. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Тры раздзелы новай кнігі Сяргея Законнікава — «Далоні долі», «Слухаю начную цішыню» і «Святло любові»—свайго роду тры самастойныя паэтычныя зборнікі, у якіх аўтар вядзе з юным чытачом гаворку аб тых праблемах, што хвалююць сёння юнакоў і дзяўчат на пачатку іх самастойнай жыццёвай дарогі. Праніклівы лірызм твораў спалучаецца з іх публіцыстычнасцю. Паэт услаўляе дружбу савецкіх народаў, апявае чысціню кахання, прачулыя радкі прысвячае хараству роднай прыроды.**




П. ПЕСТРАК. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Аўтарызаваны пераклад з беларускай П. Кабзарэўскага, М., «Советский писатель», 1987.

**Гэта—перавыданне вядомага рамана Піліпа Пестрака, у якім расказваецца пра жыццё беларускага народа ў час барацьбы за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. Аўтар пасляслоўя—кандыдат філалагічных навук А. Верабей.**




С. СІДАР. Беларуская ССР у дванаццатай пяцігодцы. Мінск, «Народная асвета», 1987.

**У кнізе, адрасаванай вучням сярэдняга і старэйшага ўзросту, расказваецца аб развіцці рэспублікі ў дванаццатай пяцігодцы, гаворыцца аб тым, як працаўнікі яе выконваюць рашэнні XXVII з'езда КПСС.**




А. СІМУРАЎ. Сказанні пра балгарскага брата. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1987.

**Лёс кнігі Аляксандра Сімурава, можна сказаць, шчаслівы. Выпушчаная ў 1974 годзе, яна была адзначана сярэбраным медалём ВДНГ СССР, аўтар неўзабаве стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Цяпер «Сказанні пра балгарскага брата» выйшлі другім, перапрацаваным і дапоўненым выданнем. 12 «Сказанняў...»—12 падарожжаў у сучасную Балгарыю, якую аўтар добра ведае, паколькі не адзін год працаваў там карэспандэнтам газеты «Праўда».**

## СПРЭЧКІ ПАЛЕМІКА

# АЗІРНУЦЦА І ЎБАЧЫЦЬ

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

**Палемічныя нататкі Л. Дранько-Майсюка «Як» і «навошта»!» выклікалі водгукі паэта Л. Галубовіча («ЛіМ» за 21 жніўня) і крытыка У. Гніламёдава («ЛіМ» за 18 верасня). Сёння ў размову ўключаецца А. Сідарэвіч. Закранутую паэтам праблему крытык разглядае ў крыху іншым ракурсе — гістарычным...**

ПАЭТ Леанід Дранько-Майсюк напісаў нататкі «Як» і «навошта»?», а «ЛіМ» надрукаваў іх 17 ліпеня г. г. «у дыскусійным парадку».

Новая дыскусія?

Прызнацца, я са скепсісам пазіраю на гэты намер, бо вельмі добра памятаю, як вялася і чым скончылася дыскусія аб стане паэзіі ў 1983 г., памятаю, што спрэчкі аб сучаснасці і сучаснай літаратуры, аб літаратурных жанрах у 1985—1986 гг. «ЛіМ» ужо не адважыўся назваць дыскусіямі, а сціпла ахрысціў іх гаворкамі. Стаўлюся да гэтага намеру са скепсісам таму, што Л. Дранько-Майсюк, як і пачынальнікі папярэдніх дыскусій, узяў занадта шырокае кола праблем. А практыка паказвае: чым больш агульнае пытанне, тым больш гаворкі будзе аб прыватных з'явах і прыватнеькіх інтарэсах. Можа здарыцца і так, што аніякае гаворкі наогул не будзе. Гэта ж не навіна, што нашы літаратуразнаўства і крытыка ўсё яшчэ жывуць у атмасферы «глыбокага задавальнення» (паасобныя выступленні паасобных крытыкаў з нагоды паасобных твораў у разлік прымаць не даводзіцца). Ці не сімптаматычны той факт, што пра якасць літаратуры гаворыць белетрыст? Ці не сімптаматычны той факт, што дыскусію пра паэзію ў 1983 г. пачала паэтка Таіса Бондар? Можа здарыцца, што аніякае гаворкі не будзе і таму, што нашы белетрысты ў сваёй бальшыні жывуць з цвёрдым перакананнем, што кожны іхні твор прынамсі не горшы ў шэрагу іншых твораў, што пры спрыяльным становішчы зорак можна нават, як кажа Я. Брыль, «аблаўрэаціцца».

Зірніце, як у нас даюць літаратурныя прэміі, прэміі часопісаў, Дзяржаўныя прэміі рэспублікі. Я не маю нічога супраць У. Рубанава і В. Супрунчука, але, дальбог, я ўспрымаю прэміі часопіса «Маладосць» за іхнія аповесці як вялікі аванс. Я быў на тым пасяджэнні, дзе на атрыманне прэміі імя І. Мележа вылучалі «Сучасны канфлікт» А. Карпюка, і ціхенька спытаў: «А чаму «Алімпіяду» не вылучаюць?» Мне адказалі, што ў І. Пташнікава ёсць Дзяржаўная прэмія БССР. Дзіўны аргумент! Не разумею, чаму кандыдат павінен быць адзін. Не ведаю, ці быў спаборнік у П. Прыходзькі, лаўраэта прэміі імя А. Куляшова. Задаваў сабе пытанне: ці не магла б на гэтую прэмію прэтэндаваць кніга Л. Галубовіча «Таемнасць агню»? Так, Галубовіч напісаў добрую кнігу, але пры вылучэнні на прэміі і пры іх прысуджэнні верх, бывае, бяруць не эстэтычныя, а нейкія іншыя меркаванні. Не ведаю, як каму, а мне да гэтага часу баліць, што У. Караткевічу Дзяржаўная прэмія БССР была прысуджана толькі пасля яго смерці.

Час ідзе, ён аддзяляе вартасці сапраўдныя ад уяўных. Час паказаў, што проза М. Стральцова і сёння гэтак жа цікавая, як і ў 60-я гады, што ягоная паэзія—тонкая, арыгінальная, што ягоная эсэістыка—*глыбокая, што* пісьменніку, як рэдка каму сярод нас, уласціва высокая культура творчасці. Думаю: ці не было і ў дачыненні да М. Стральцова пэўнай несправядлівасці?

Што гэта? Эстэтычная глухата? Тое самае неарапаўства, пра якое *піша* Л. Дранько-Майсюк?

«Вядома, што РАПП знік у 1932 годзе,—адзначае ён. І працягвае:—Але гэта было толькі фармальнае знікненне, а сапраўднае, фізічнае, маю надзею, адбудзецца толькі ў нашыя дні».

Цікавая думка! Але хочацца яе дапоўніць: усё ж такі жыве дух РАППа, яго душа. Рапаўства не магло знікнуць, бо гэта лявацкая плынь у літаратуры, а лявацтва—сутнасная адзнака сталінізму, з якім мы аніяк не можам развітацца.

Чую голас: зноў ненавуковае паняцце «сталінізм», зноў «паняцце з арсеналу буржуазнае навукі».

Калі палітыка Сталіна ёсць паслядоўны бальшавізм, ленінізм у дзеянні, я хоць сёння адмоўлюся ад паняцця «сталінізм», змест якога складаюць якраз парушэнні ленінскіх норм партыйнага жыцця, сацыялістычнай дэмакратыі, нацыянальнай палітыкі і г. д. Імкненне аб'явіць сталінізм ненавуковым паняццем нагадвае мне спробу акадэміка С. Трапезнікава аб'явіць ненавуковым паняцце «перыяд культу асобы».

Пісьменнік і эканаміст М. Шмялёў у артыкуле «Авансы і даўгі» («Новый мир», 1987, № 6) піша, што мы маем справу з дзейным сталінізмам. І гэта сапраўды так. Калі былі ўтвораны шматмандатныя выбарчыя акругі, калі ў паасобных «старых» акругах вылучылі двух кандыдатаў на адзін мандат, сёй-той разглядваў і разглядвае гэта як рэвалюцыю. А між тым гэта вяртанне да таго, што было пры У. І. Леніне і ў першыя гады пасля яго смерці. Калі з высокае трыбуны было сказана пра спаборнасць у сацыялістычным грамадстве, дык гэта было не што іншае, як вяртанне да ленінскай ідэі. *Барацьба за перабудову* ў сваёй сутнасці ёсць барацьба за аднаўленне ленінскага погляду на сацыялістычнае грамадства, за ліквідацыю скажэнняў, якія мы так і не пераадолелі за 30 год пасля XX з'езда партыі. Наша нерашучасць у змаганні за вяртанне да ленінскіх норм і прынцыпаў давяла да таго, што краіна, як адзначаў на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, апынулася ў перадкрызісным стане.

Цяжар 30-х і наступных гадоў ляжыць на нас. Мы яшчэ не вызваліліся цалкам з-пад улады догмаў і стэрэатыпаў тае пары. Як абараняюць догмы нашы вучоныя, відаць і з *такога факту. Калі* ў савецкай гістарыяграфіі стаў фарміравацца новы напрамак, акадэмік Л. Нарачніцкі і яго аднадумцы *заявілі: заканамернасці* сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі ўжо растлумачаны ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)». Вось так. І марна тут даводзіць агульнавядомую думку пра тое, што навука не стаіць і не можа стаяць на месцы, што без развіцця яна ператвараецца ў дагматыку.

Што такое лявацтва, як не дагматызм? У рабоце «Дзіцячая хвароба «левізны» ў камунізме» У. І. Ленін пісаў пра небяспеку, якую тоіць дагматызм: «...Усякую ісціну, калі яе зрабіць «празмернай»... калі яе перабольшыць, калі яе распаўсюдзіць за межы яе сапраўднай прыдатнасці, можна звесці да абсурду...»

«Левыя» не прызнаюць кампрамісаў, яны далёкія ад дыялектыкі, ісціну ператвараюць у догму, а воля становіцца іх галоўным аргументам. І калі нешта атрымліваецца не паводле іхняга прадбачання і волі, яны схільныя шукаць прычыны не ў сваіх поглядах і метадах, а ў варожых падкопах, шкодніцтве і г. д. Каб усё было паводле іхняе волі, «левыя» ствараюць вялікі кіраўніча-кантрольны апарат. 18 мільёнаў кіраўнікоў (насельніцтва Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, разам узятых!) — гэта вынік лявацкіх, як іх называе М. Шмялёў, метадаў вядзення гаспадаркі.

Дагматызм прасякнуў усе сферы грамадскай свядомасці і грамадскага быцця. Запанаваў ён і ў галіне эстэтыкі, мастацтвазнаўства і мастацкае творчасці. «Левыя» засвоілі тэорыю аб класавасці літаратуры і мастацтва і ператварылі яе ў абсалют. З узрастаннем культу асобы Сталіна ўзрастала значэнне ягоных думак, меркаванняў, выказванняў, ацэнак і жэстаў. Адміністрацыйна-камандная сістэма запанавала і ў культурным жыцці. Першай яе праявай на Беларусі быў роспуск «Узвышша». Роспуск літаратурна-мастацкіх згуртаванняў у 1932 г. азначаў перамогу бюракратыі ў сферы літаратуры і мастацтва ў маштабе ўсёй краіны. Нарадзіўся тэзіс пра тое, што сатыра ў СССР падрывае сацыялістычны лад. Ад сатырыкаў патрабавалі «ўзмацнення станоўчага пачатку». Адсюль — гэтак званая збалансаваная проза: на адзінку «адмоўнага» — адзінку, калі не болей, «станоўчага». Узнікла тэорыя бесканфліктнасці, або тэорыя барацьбы лепшага з добрым. Лозунг сацыялістычнага рэалізму адмаўляў права на існаванне рамантызму. Інтымнай лірыцы было цяжка, матывы смутку і да т. п. былі недапушчальныя, твор без аптымістычнай канцоўкі выклікаў падазрэнне. Сітуацыю тых гадоў добра паказаў у адкрытым лісце да Сталіна член партыі з 1910 г. Ф. Раскольнікаў:

«...Вы пазбавілі мінімуму ўнутранай свабоды працу пісьменніка, вучонага, жывапісца. Вы заціснулі мастацтва ў ціскі, ад якіх яно задыхаецца і вымірае. Апантанасць запалоханай Вамі цэнзуры і зразумелая баязлівасць рэдактароў, якія за ўсё адказваюць сваёй галавою, прывялі да акасцянення і паралічу савецкай літаратуры (...) Вы душыце савецкае мастацтва, патрабуючы ад яго прыдворнага лізаблюдства... Вы навязваеце псеўдамастацтва, якое з надакучлівай аднастайнасцю апявае Вашу праславутую... «геніяльнасць».

Наколькі рэзка *памяняліся* абставіны на рубяжы 20—30-х гг., сведчаць не толькі арышты А. Бабарэкі, М. Гарэцкага, У. Дубоўкі, Я. Дылы, У. Жылкі, Я. Пушчы і іншых выдатных літаратараў, але і той факт, што А. Гарун, чый найбольш поўны зборнік твораў выйшаў у 1929 г., у наступным годзе ўжо канчаткова стаў «ворагам». У 20-я гг. Я. Купала меў мажлівасць надрукаваць камедыю «Тутэйшыя» (двойчы), паэмы «На куццю», «На дзяды», «Чараўнік. (Забытая казка)», вершы «На рынку», «Над Нёманам», «Забраны край», «У чужой старане», «Тае снег» і інш., але з тае пары толькі «На куццю» ўбачыла свет у 1982 г. Пра многія творы не згадваецца нават у энцыклапедычным (!) даведніку «Янка Купала», што выйшаў сёлета, праз 57 год пасля рэпрэсій 1929—1930 гг., калі рэзка змянілася стаўленне да гістарычнай спадчыны, да культурных набыткаў папярэдніх эпох.

«Чым жа апраўдацца перад нешматлікім беларускім чытачом, які *прагне* новага слова пра сваю краіну і яе гісторыю?» — пытае Л. Дранько-Майсюк, заўважыўшы, што чытач гэты шукае ў прэсе «нашы «вострыя» творы, раней з вядомых прычын ненадрукаваныя».

Калі аўтар мае на ўвазе творы, якія павінны былі з'явіцца, але не з'явіліся ў другой палавіне 60-х — пачатку 80-х гг., дык такіх твораў у нас сапраўды мала. «Паэма тугі» А. Бачылы, «Балючая памяць» С. Грахоўскага. Яшчэ раман А. Наўроцкага пра сацыяльны і маральны клімат у *пасляваеннай* вёсцы. Яшчэ, наколькі ведаю, да друку рыхтуюцца апавяданні У. Караткевіча...

Твораў, не пушчаных у друк, у нас сапраўды мала. Гэта тлумачыцца і «дыпламатычнасцю» часткі нашых пісьменнікаў, і тым, што нашы выдаўцы, рэдактары ўмелі і ў гады «адлігі», і ў гады застою, умеюць і зараз «уломваць» аўтараў (калі яны жывыя) або самавольна абірычваць тыя творы, аўтары якіх памерлі. Самы свежы прыклад — «Камароўская хроніка» М. Гарэцкага ў 4-м томе ягонага Збору твораў, што выйшаў летась. У сваім выступленні на пленуме праўлення СП БССР Я. Брыль расказаў, як у рэдакцыі «Полымя» і ў выдавецтве «стрыглі» раман М. Лобана «Гарадок Устронь». А раман «Завеі. Снежань» І. Мележа, а «Лесавічанку» П. Пестрака? Думаю, не толькі гэтым творам трэба вярнуць першапачатковы выгляд. Не шкодзіла б вярнуцца да першых друкаваных варыянтаў «кнігі адной маладосці» «Птушкі і гнёзды», шмат якіх мініяцюр самога Я. Брыля.

Рэдактары добра ведалі, што пісьменнікі пісалі праўду, але баяліся гэтае праўды, бо з 30-х гадоў пачалася традыцыя замоўчвання кепскага, лакіроўкі жыцця. Прынцып класавасці мастацтва быў даведзены да абсурду — да адмаўлення праўды ў імя «вышэйшых» інтарэсаў. Гэта тады, у 30-я, пачаўся адрыў слова ад справы, ідэальнага ад рэальнага, на-

(Заканчэнне на стар. 6)

# АЗІРНУЦЦА І ЎБАЧЫЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.).**

лежнага ад сапраўднага. Гэта тады, у 30-я, літаратура стала пісаць пра ідэальнае, а не пра рэальнае, пра належнае, а не сапраўднае. Мы не адолелі яе да канца, славутую традыцыю бесканфліктнасці. Пра гэта сведчаць не толькі творы, скажам, І. Канановіча, дзе бесканфліктнасць пануе і па сённяшні дзень, не толькі творы, у якіх аўтары гуляюць у праўду, але і стаўленне да твораў, дзе паказана шчырая праўда жыцця, гісторыі. Ці была няпраўда ў «Дабрасельцах» А. Кулакоўскага? Не. І пра гэта добра ведалі тыя, хто на 25 год забараніў публікацыю аповесці. Забараніў, бо праўда калола вочы, парушала псіхалагічны камфорт, адбірала права на ісціну ў апошняй інстанцыі. А хіба тыя, хто ўшчуваў рэдакцыю «ЛіМа» за публікацыю артыкула пра А. Гаруна і верша «Прыстасаванцы» П. Панчанкі, не ведалі, што ў гэтых публікацыях — праўда? Ведалі. І баяліся яе. Бо гэта была нявыгадная для іх праўда. А лёс аповесцей В. Быкава «Круглянскі мост» і «Мёртвым не баліць»? А купюры і папраўкі ў «Знаку бяды», якія тварыліся на нашых вачах? А купюры ў дзённіку К. Чорнага? Спачатку карацілі яго перад публікацыяй у «Полымі», а потым выскублі ўсё, што датычыць культу асобы, перад тым, як надрукаваць гэты дзённік у Зборы твораў...

Каб «апраўдацца перад нешматлікім беларускім чытачом, які прагне новага слова пра сваю краіну і яе гісторыю», трэба адно: вярнуць шмат якім творам першапачатковае аблічча, вярнуць з нябыту шмат якія імёны і творы.

Калі мы прызнаём тую ісціну, што ў нашым грамадстве інтарэсы паасобных сацыяльных груп адрозніваюцца і нават разыходзяцца, дык павінны прызнаць, што і стаўленне гэтых сацыяльных груп да праўды, да перабудовы таксама адрозніваецца.

Камусьці выгадна было даваць гісторыю ў скажоным выглядзе, камусьці выгадная была няпраўда. Яшчэ тады, у 30-я. Хочацца працытаваць тут фрагмент з даклада М. Клімковіча на І Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў:

«Вся дооктябрьская белорусская литература едва ли насчитывала десяток писателей. Среди них кроме дооктябрьского поколения нынешних советских писателей БССР (Янки Купалы, Якуба Коласа, З. Бядули, А. Гурло, Ц. Гартного) был певец крепостничества Дунин-Марцинкевич, глашатай нарождавшейся национальной буржуазии Богушевич, Ядвигин, Богданович, группа мелкобуржуазных писателей — Цётка, Гарун (с.-р., впоследствии полковник банды Булак-Балаховича)».

Не думаю, што гэта асабістае выказванне М. Клімковіча. А колькі ў ім хлусні, мяркуйце самі. Чорнай фарбы не шкадавалі. Сацыяльныя матывы ў дакастрычніцкай літаратуры аб'яўляліся праявамі нацыяналізму. Чытайма:

«Характерной особенностью дооктябрьской белорусской литературы было националистическое оплакивание тяжелой доли белоруса-крестьянина, задавленного нищетой, малоземельем, помещичьей эксплуатацией и поборами царских чиновников. Особенно крепко звучали националистические ноты в литературе периода реакции — после 1907 года».

Тут, па-мойму, усё пастаўлена з ног на галаву. Пастаўлена, каб давесці тэзіс, што пад кіраўніцтвам Сталіна беларуская літаратура дасягнула небывалых вышынь; пастаўлена, каб апраўдаць рэпрэсіі — былыя і маючыя наступіць. У 1936—1938 гг. загінуць А. Гурло і Ц. Гартны, знікнуць белаппаўцы М. Чарот і А. Александровіч, якія ў 1929—1930 гг., паводле Клімковіча, «активно помогали» ў барацьбе супраць «национал-оппортунистов и даже провокаторов типа бывшего президента Академии наук Игнатовского».

Усе гады пасля смерці Сталіна мы аднаўлялі праўду. Але яшчэ не аднавілі. Усе гады пасля XX з'езда партыі мы вярталі з нябыту імёны і творы абылганых пісьменнікаў і вучоных. Але яшчэ не ўсе вярнулі. Улада стэрэатыпаў, выпрацаваных у 30-я гады, не давала шмат каму па-новаму зірнуць на імёны і творы А. Гаруна і У. Ігнатоўскага. Не даюць гэтыя стэрэатыпы аб'ектыўна зірнуць і на спадчыну В. Ластоўскага. Яго, дарэчы, як і У. Ігнатоўскага, ніякі суд не аб'яўляў вінаватым. Ці ў нас нехта яшчэ, апроч суда, можа выносіць вердыкты? Ці партыя не асудзіла «тройкі» як парушэнне прынцыпаў сацыялістычнага правасуддзя?

Шмат твораў чакае сваёй пары. Купалавы ўжо названы. Назаву некаторыя іншыя. Цыкл «Лісты да сабакі» Я. Пушчы, паэмы «Каін» С. Дарожнага, «Калі асядае муць» Т. Кляшторнага, раманы «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя і «Крывічы» М. Зарэцкага, аповесць «Дзве душы» М. Гарэцкага...

Стэрэатыпы 30-х гг. замінаюць нам. Біркі таго часу валодаюць магічнаю сілай. Імі палохаюць тых, хто хацеў бы аднавіць праўду. Скажам, праўду пра багацце заходнебеларускай паэзіі. У Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі вы сустрэнеце імёны А. Зязюлі, В. Адважнага, Я. Быліны, К. Сваяка. Але вершаў іхніх вы нідзе, апроч заходнебеларускіх выданняў, не прачытаеце. Справа ў тым, што паэты гэтыя былі ксяндзамі і з гэтае прычыны мелі ідэалістычныя погляды на грамадства. А вершы Ігната Дварчаніна ды Сымона Рак-Міхайлоўскага, гэтых выдатных дзеячаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, абаронцаў беларускіх інтарэсаў на польскім сейме? Чаму іх не друкаваць? Чаму да гэтага часу не выдадзены тэксты інтэрпеляцый і прамоў беларускіх паслоў на сейм Браніслава Тарашкевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага ды іншых? Чаму б нам не выдаць том заходнебеларускай публіцыстыкі?

Доўга ішло маўклівае змаганне за тое, каб надрукаваць спадчыну С. Палуяна і «Тastament» У. Жылкі. І вось летась яны надрукаваны. Праўда, з купюрамі. Думаю, нічога мы не прайграем, а, наадварот, выйграем, калі апублікуем спадчыну М. Арла ды І. Канчэўскага, пра якіх, дарэчы, ёсць добрыя артыкулы ў ЭЛіМБел.

Нас палохалі. Нас спрабуюць «одергивать» і сёння. Зрэшты яно і зразумела: калі чагосьці не забараняць, калі на штосьці не накладваць табу, дык таварышы з кантрольнымі функцыямі застануцца без работы. А калі так, дык таварышам трэба вышукваць і прыдумваць пагрозу і небяспеку ў тых ці іншых творах. І ў гэтым я бачу перажыткі 30-х гадоў: недавер да інтэлігенцыі (бо «нешматлікі беларускі чытач», зрэшты, як і рускі, як і ўсякі іншы — гэта перш за ўсё інтэлігент, навучэнец); недавер да народа, да яго палітычнай свядомасці, боязь «іншадумства», галоснасці і, нарэшце, дэмакратыі.

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# УЗРУШЫЦЬ РАЎНАДУШНАГА

Пакуль будзе жыць паэзія, датуль ёй цярпліва выслухоўваць у свой адрас шматлікія папрокі і прэтэнзіі. Каго-каго, а скептыкаў сярод чытачоў заўсёды хапала. І сёння можна пачуць катэгарычнае, быццам у сучаснай беларускай літаратуры ёсць адно тры ці чатыры сапраўдныя паэты, што паэзію ўсё цяжэй і цяжэй знайсці ў вершаваных падборках і зборніках. Гэтай далёка не аптымістычнай думцы ўжо не адзін год (калі не дзесяцігоддзе), але зараз яна не тое што пашырылася, а болей выказваецца ўголас і гучней, дзякуючы таму, што крытыкаваць стала не толькі—можна, але і модна.

«Глупства!—абурыцца нехта. — І ў наш час пішуцца выдатныя вершы. Шмат вершаў!»

Трохі падумаўшы, можна пагадзіцца з такім аптымістам і тут жа працытаваць мноства любімых вершаваных радкоў, пачынаючы ад нястомнага Пімена Панчанкі і заканчваючы... ну, скажам, Анатолем Сысам.

Але пасля возьмеш у рукі свежы нумар якога-небудзь часопіса ці новы зборнік, прачытаеш і, зноў трохі падумаўшы, спытаеш у сябе: «А дзе ж яна, паэзія?»

Зрэшты, мо яно так і павінна быць. Ва ўсякім разе, наіўна ад кожнай публікацыі чакаць вершаў для хрэстаматыі, а ў кожным другім паэце бачыць генія. Але палохае не гэта. Палохае тое, што за вершамі вельмі часта не відаць асобы аўтара. У рэшце рэшт, вершы тады і цікавыя, тады і становяцца сапраўднай паэзіяй, калі праз іх выяўляе сябе асоба. А ў нас назіраецца працэс, які А. Станюта неяк назваў «калектывізацыяй паэзіі». Увогуле—быццам і няблага, і не сорамна свету паказаць, а вось у прыватнасці, калі разглядаць кожнага паэта паасобку...

Праўда, усё гэта даволі суб'ектыўна, бо, напрыклад, творчасць аднаго і таго ж аўтара можна разглядаць і з вышыні здабыткаў яго сяброў-паэтаў, і з вышыні здабыткаў сусветнай літаратуры.

Ясна адно: колькі б мы ні спрачаліся наконт цяперашняга становішча паэзіі, ёсць факт, з якім нельга не лічыцца: шматлікія вершаваныя зборнікі гадамі залежваюцца на паліцах кнігарань. Вінаваціць у гэтым адно чытачоў і рэкламу — неразумна.

Пасля XXVII з'езда партыі ў друку пачало з'яўляцца шмат вершаў аб перабудове. Паэзія, якую доўгі час папракалі за драбнатэм'е і незлабадзённасць, нарэшце пачала паволі паварочвацца тварам да балючых праблем сучаснасці.

Вось верш Мар'яна Дуксы «Прастор рукам і духу!» пра тых жа «адказных абібокаў»:

**Казалася вякамі**
**нядбайству проста ў вочы,**
**што пад ляжачы камень**
**вада цячы не хоча.**
**Не ўсе жывуць імкненнем**
**зынячыць штосьці ў лёсе.**
**Ці не зашмат «каменняў»**
**між намі развялося?—**

пытаецца аўтар, заклікаючы «расцягаць замшэлыя камяні».

Сваю грамадзянскую пазіцыю страсна выказвае Сяргей Грахоўскі:

**Я—веруючы**
**Верай чыстай пробы,**
**Адзіны Бог і для мяне—**
**Кумір.**
**Мой Бог таксама мае**
**Тры асобы—**
**СУМЛЕННЕ,**
**ПРАЎДА**
**І ТРЫВАЛЫ МІР.**

Перабудова — справа далёка не простая. Шмат прыстасаванцаў, якія і ў гэты пераломны для краіны час стараюцца знайсці для сябе нейкія выгады. Пра іх у вершы «Нашай магутнасці перадумова» гаворыць Васіль Макарэвіч:

**Перабудова з канкрэтнай задачай**
**Дзе рушыць лавінай, а дзе толькі тэпае...**
**А гэты фасад свае новыя дачы**
**Перабудоўвае хуткімі тэмпамі.**

Можна было б нагадаць і яшчэ некалькі больш ці менш удалых вершаў аб перабудове, якія сёлета змясціла на сваіх старонках рэспубліканская перыёдыка. Але ўслед за радасцю ад такіх тэматычных змен у паэзіі з'яўляецца насцярожанасць. Па сутнасці, амаль ва ўсіх творах гаворка зводзіцца да тлумачэння альбо роздуму, што такое перабудова і паскарэнне («Час паскарэння — азарэння доўгачаканы, светлы час» — А. Салтук, «Падману зразаем пласт шматпудовы—перабудова» —В. Макарэвіч).

КУЛЬТУРА МОВЫ

# ІНСТРУМЕНТ СКЛАДАНЫ, ТОНКІ

Сёння, які ніколі, мы жывём з думкай пра будучыню. Значыць, пра нашчадкаў. А як мы выхоўваем іх? Маю на ўвазе культурнае выхаванне, пра што нямала гаворыцца і пішацца апошнім часам. Сапраўды, моўная «практыка» апошніх дзесяцігоддзяў на Беларусі супярэчыць галоўнай стратэгічнай задачы сацыялізму — выхаванню гарманічна развітай асобы. Бо якая можа быць гармонія без засваення і плённага выкарыстання спадчыны свайго народа? Паставіць гэты надзвычай багаты вопыт сотэнь пакаленняў нашых продкаў на службу сацыялізму — гэта значыць выйсці нарэшце з сытай правінцыйнай спячкі, паздаравець, іншымі вачамі паглядзець і на культуру чалавечых узаемаадносін, і на культуру вытворчасці, і на культуру быту, і на ўласна культуру. Гэта і значыць — перабудавацца, працаваць сапраўды натхнёна і творча.

Нацыянальнае пытанне вельмі далікатнае, пра што кажа і М. С. Гарбачоў. Але гэта не пытанне якіх-небудзь «падпольшчыкаў» — антысаветчыкаў, гэта не пытанне ЦРУ і ягоных радыёгаласоў, якія адно паразітуюць на ўсіх нашых праблемах. Гэта толькі нашае з вамі пытанне, толькі нам яго вырашаць. Публічна і шчыра, з думкай пра заўтрашні дзень.

Ужо некалькі дзесяцігоддзяў беларускае слова знаходзіцца ў непадзельнай манаполіі нашых журналістаў і мовазнаўцаў, большасць якіх (гэта не сакрэт) па-за працай гавораць на рускай мове. Атрымліваецца, галоўныя штодзённыя рэпрэзентатары беларускай мовы — перакладчыкі і самаперакладчыкі, а сама мова — не арыгінал, а нейкі суцэльны пераклад.

Штодня новыя прыпадабненні прыносяць тэлетайпныя стужкі БЕЛТА. (Ці не дарма пішу? Можа, гэтая ўстанова па-за крытыкай?) **Усе** тэксты похапкамі перакладзеныя з рускай мовы. Тут у пашане поўная «эквівалентнасць», калька. Між тым, гэтыя стужкі дастаткова аўтарытэтныя для таго, каб журналісты маглі зняць з сябе ўсякую адказнасць за іхнюю мову.

Штогод вычытваючы арыгіналы, звяртаюся да самага папулярнага ў рэдакцыях двухтомнага руска-беларускага слоўніка і знаходжу там тое самае прыпадабненне, некрытычнае адлюстраванне ўсіх негатыўных тэндэнцый у мове газет, радыё, БТ.

Вось ужо на маіх вачах знікла беларускае слова **яйка** і ў сур'ёзных прамовах на сур'ёзных сходах фігуруюць дысанансныя для беларускага вуха **яйцы.** Ужо амаль не ўжываецца слова **садавіна.** Яго замяніла нават неславянскае — **фрукты.** Калі разглядаць тэндэнцыю ў развіцці, дык трэба, мусіць, чакаць, што неўзабаве з'явяцца і «овашчы».

Калькай з рускай мовы называюцца і ўсе рэаліі спецыфічна гарадскога, «нетрадыцыйнага» быту, хоць пры жаданні заўсёды можна знайсці ім адпаведнікі ў народнай лексіцы (Чаму не ў слоўніку?). Слоўнік прапануе, напрыклад, слова **тамада,** і журналісты ніколі не напішуць **маршалак,** бо (найважнейшы аргумент) «мы-то понимаем, но нас не поймут».

Да поўнае «эквівалентнасці» імкнуцца яшчэ і дзеля таго, каб максімальна спрасціць уласную працу перакладчыка і самаперакладчыка, каб не ўдумвацца ў сэнс выказвання, не перакладаць сэнсы, а проста мяняць месцамі «эквівалентныя» адзінкі. Беларуская лексіка перакройваецца па традыцыях рускага словаўтварэння. Былі, скажам, у нас словы **адзінота, здрада** і **пяшчота.** Перакладаліся як **одиночество, предательство** і **нежность.** Цяпер іх нібы пераклалі назад, з рускай мовы: **адзіноцтва, здрадніцтва, пяшчотнасць.** І калі апошняе слоўнік яшчэ спрабуе апраўдаць, маўляў, **пяшчота** — гэта **нега,** тым самым адпісваючы беларускае слова да састарэлага рускага, дык двум другім «наватворам» няма і такога, з дазволу сказаць, «апраўдання».

Дзень пры дні змяняецца наша мова. Язык не паварочваецца назваць гэтыя змены, або,

Ці ў гэтым толькі задача сапраўднай паэзіі і ці гэтага чакае зараз ад яе чытач? Ці не варта было б ад зарыфмаванага пераказу ўсіх праблем перайсці да іх псіхалагічнага аналізу, ад павучальнасці, лозунгавасці, голай рыторыкі да глыбокага асэнсавання з'яў і працэсаў, што адбываюцца ў нашай краіне? Перабудова—гэта злом усяго старога, што замінае руху наперад, але ж за ім стаяць нечыя погляды, пазіцыі, ломка якіх не толькі нялёгкая, але і трагічная падчас. Каму, як не паэзіі, адлюстраваць гэта?

Але, як ні дзіўна, некаторыя вершы аб перабудове надта ж ужо нагадваюць нядаўнія парадныя, усёўхваляючыя вершы.

Не хачу, каб гэтыя словы чытач зразумеў так, быццам вершы, пра якія згадвалася вышэй, я аднoшу да бяздзейсных. Большасць з іх, напэўна, знойдзе сваіх прыхільнікаў. Вось толькі ў якой ступені гэтыя творы выконваюць сваю найгалоўнейшую функцыю — пераўтваральную? Варлен Бечык пісаў («ЛіМ», 26.08. 83): «...адна справа знайсці водгук у чытача чуйнага, шчырага і зусім іншая—ускалыхнуць, узрушыць раўнадушнага, абыякавага. Там, дзе чалавека апаноўваюць спажывецтва, абывацельства, прыстасаванства, дэмагогія,—якую патрэбна мець сілу, каб весці яго зноў да маральнага самаачышчэння, да нескажонай грамадзянскай пазіцыі».

Сярод твораў, якія здольны ўскалыхнуць і па-сапраўднаму ўзрушыць — лімаўскія падборкі вершаў Пімена Панчанкі, паэмы С. Законнікава «Кульмінацыя» («Полымя», № 4) і С. Грахоўскага «Балючая памяць» («ЛіМ», 15.05.87). Ці не замала?

Канечне, «узрушыць раўнадушнага» — справа нялёгкая. Але імкнуцца да яе неабходна, бо ў адваротным выпадку атрымліваецца недарэчнасць: паэты заклікаюць народ не баяцца цяжкасцей, а самі абыходзяць іх.

**Алесь БАДАК.**

# ДУХОЎНАЯ РОДНАСЦЬ

**«Гэтая кніга незвычайная па зместу. І аўтары яе, і «героі»— пісьменнікі. Адны, пісьменнікі-аўтары, пішуць пра другіх, пісьменнікаў - «герояў», часам мяняючыся пры гэтым месцамі. Рускі — пра ўкраінскага, беларускага, эстонскага, грузінскага, армянскага, узбекскага. Украінскі, беларускі — пра рускага, дагестанскі — пра таджыкскага і башкірскага», — так зазначае В. Аскоцкі ў прадмове да зборніка «На ўсе часы» («На все времена»), што пабачыў свет у выдавецтве «Кніга» ў міжвыдавецкай серыі «СССР — братэрства народаў». Сапраўды, кнігу склалі артыкулы, нарысы, узятыя з перыёдыкі, якія даюць магчымасць чытачу даведацца, як прадстаўнікі адной літаратуры ставяцца да творчасці сваіх калег з іншых рэгіёнаў краіны, бачачы ў ёй шмат агульных матываў.**

**Невыпадкова П. Броўка свае нататкі пра А. Твардоўскага ў свой час назваў «Ён і наш, беларускі», тым самым падкрэсліўшы асаблівую прывязанасць вялікага савецкага паэта да беларускай зямлі: «Усе мы ў Беларусі вельмі высока цанілі яго заўвагі аб нашай літаратуры, а яго выступленне на Другім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ўспрымаецца і цяпер як вельмі значнае. Яно па-сапраўднаму аналітычнае, вызначае вехі далейшага развіцця літаратуры».**

**Змешчаны ў зборніку і артыкул А. Твардоўскага «Сталасць таленту», напісаны ў 1964 годзе, — прыязнае слова пра А. Куляшова, з якім Аляксандр Трыфанавіч, як вядома, сябраваў, высокая ацэнка яго творчасці і, у прыватнасці, «Новай кнігі», якая «пазбаўлена пагрэшнасцяў, яна ўзор поўнага авалодвання гадамі выпрацаванай паэтам формы». Але, працягваў А. Твардоўскі, «не толькі гэта дазваляе назваць «Новую кнігу» кнігай сапраўднай сталасці самабытнага і яркага таленту. Шырыня ідэйнага гарызонту, асваенне незвычайных для ранейшага Куляшова вечных (гэтае слова чамусьці прынята ставіць у двукоссе), агульначалавечага значэння тэм: жыцця і смерці, любові і творчасці, лёсу і абавязку паэта, мінулага і сённяшняга, сённяшняга і нязмерных далячыняў камуністычнай будучыні — вось што галоўным чынам азначае новы этап у паэзіі Куляшова — адной з вяршынь савецкай паэзіі ў цэлым».**

**«Гранічныя сітуацыі» — слова Ю. Бондарава пра В. Быкава, сказанае яшчэ ў 1979 годзе. Па праву таварыша і ўважлівага чытача гаворыць рускі пісьменнік пра свайго беларускага сабрата. Аднак гаворыць яшчэ і Майстар, які, з радасцю для сябе, часам са здзіўленнем, адкрывае неабсяжны свет быкаўскай прозы, спрабуе разабрацца, што такое літаратурны феномен Васіля Быкава.**

**«Васіль Быкаў, — гаворыць Ю. Бондараў, — стварае свайго героя, заўсёды правяраючы, выпрабоўваючы яго маральную сілу, яго чалавечую значнасць ў неймаверна складаным канфлікце, падказаным гранічнымі сітуацыямі вайны. І ўжо ёсць «быкаўскі герой», «быкаўская сітуацыя», што выяўляе характар персанажа з выразнасцю аптычнага фокуса, які ўлаўлівае пераадоленне чалавекам, здавалася б, таго, што не пераадольваецца».**

**У заключэнні гаворкі Ю. Бондараў падкрэслівае: «Ад глыбока маральных герояў Быкава, я б сказаў, зыходзіць непераходная прыгажосць — унутранае свячэнне чалавечага характару. Моцны і мужны талент пісьменніка прымушае гаварыць пра яго, як пра значную з'яву ў савецкай літаратуры».**

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

# ВЕРШАЛІНА БЕЗ КАРАНЁЎ

У анатацыі да зборніка вершаў У. Мазго «Вершаліна» чытаем: «Яго творы вылучаюцца абвостраным пачуццём гісторыі і сучаснасці, юнацкага кахання, неабходнасці быць духоўна багатым і прыгожым. Пачуццё грамадзянскай адказнасці за ўсё жывое, тэма адзінства чалавека і прыроды арганічна зліваюцца ў зборніку з антываеннай тэмай».

Прачытаў зборнік і пагадзіцца з такім станоўчым вызначэннем не магу. Мяркуйце самі.

**Вечна вінаваты**
**Прад зямлёю тою,**
**Што сабе вярнула**
**Мірную сінечу.**
**Што аб дні мінулым**
**Кожнай рысай сведчыць...**
**Буду верны сцягу,**
**Што крывёй паліты...**
**Наталяю смагу**
**Словам сакавітым.**

Не зразумела, чаму паэт адчувае сябе вінаватым перад роднаю зямлёю. Бо з кантэкста верша вынікае няўцямнае: «Што сабе вярнула мірную сінечу. Што аб дні мінулым кожнай рысай сведчыць». Вінаваціць сябе за мірную сучаснасць, напэўна, няварта. Калі ж аўтар хацеў сказаць іншае, то яго падвяло дрэннае веданне беларускай граматыкі.

Цяжка зразумець і тое, чаму пасля прызнання ў вернасці чырвонаму сцягу, якое сустракалася ў літаратуры не раз, ні з таго ні з сяго верш заканчваецца: «Наталяю смагу словам сакавітым». Да святых паняццяў падыходзіць трэба больш асцярожна.

Калі чытаеш наступныя радкі, не верыцца, што для аўтара разуменне Бацькаўшчыны—нешта моцна перажытае, асэнсаванае:

**І заспяваюць**
**Гуслі:**
**«Ой ляцелі**
**Гусі**
**Ды**
**З-пад Беларусі».**

. . . . . . . . . . . .

**Не раз**
**Дашчэнту нішчыў**
**Цябе**
**Вайны касцёр...**
**Мой край**
**Над папялішчам**
**Зноў**
**Крылы распасцёр.**

Няблага, што ў зборніку ёсць вершы пра армію. Але нельга, каб яны абмяжоўваліся наіўнай узнёсласцю:

**Прайшлі ваду мы**
**і агонь,**
**І трубы медныя —**
**таксама...**
**І танкадром,**
**і палігон—**
**Юнацтва**
**панарама.**

Вершы пра вайсковыя вучэнні, пра трывогу, пра салдацкі адпачынак напісаны так, нібы ўсё на службе рамантычна, лёгка, нават бестурботна. Аднак там нашмат складаней. І калі аўтар служыў, то ведае сапраўдны стан рэчаў. Чаму ж тады ён спрошчвае рэчаіснасць? Няма ў нізцы пра армію ніводнага верша-роздуму, верша-асэнсавання, як няма і «абвостранага пачуцця юнацкага кахання».

У нізцы вершаў пра каханне зноў сустракаем паэтычныя штампы: «І салодка без мёду, і хмельна — без віна», «вішні, што нявесты», «ранак ружавее, як шчокі маладых», «выткаўся туман» і г. д.

Дзеля рыфмы аўтар часам ахвярue сэнсам:

**Гараць кастры агніста.**
**Праз полымя хлапцы**
**Праносяцца са свістам**
**І смехам...**
**— Малайцы!..**

Тут У. Мазго, напэўна, пераблытаў Купалле з гульнёю ў футбол.

Як бачым, творы У. Мазго «абвостраным пачуццём» не вылучаюцца. Вядома, аўтар піша пра тое, што сапраўды бачыў. Але зрок паэта павінен ахопліваць не толькі вяршкі, бо вершаліны без каранёў быць не можа. Як не можа быць сапраўднай паэзіі без духоўнага заглыблення.

У пачатку кнігі змешчаны верш, які заканчваецца радкамі:

**Сустрэчны рух,**
**Адвечны рух—**
**Твайго жыцця**
**Замкнёны круг...**

Не хацелася б, каб праз колькі часу было мноства зборнікаў накшталт «Вершаліны», якія ўтвараюць замкнёны круг непатрэбнай макулатуры на кніжных паліцах.

**Міхась ТАЛОЧКА.**

як цяпер пішуць, **змяненні**, «плённым развіццём».

Вось са слоў **прыкметны, прыкмячаць, прыкмета** чамусьці выпала **к**. Вось ужо пішуць і кажуць **паявіцца** і **паяўленне** замест звыклых **з'явіцца** і **з'яўленне**. Словы **праява, землятрус, прапанова** сталі **праяўленнем, землетрасеннем, прапанаваннем**... Тонкая розніца. Быццам і нязначная. Як мяжа між сапраўдным сяброўствам і фамільярнасцю, між пашанай і ўгодніцтвам, між узаемнасцю і ўтрыманствам. Тонкая, як скура на цемені. Выходзіць, дзе тонка—там ірвецца...

Пра «вшей» у беларускіх тэкстах пішуць даўно і марна, бо яны так і не знікаюць ані з белтаўскіх стужак, ані з мовы друку, радыё, БТ. Напрыклад, ніколі не пішуць, не кажуць **мінулы** — толькі **прайшоўшы**. Але ж некалі ў арыгіналах трапіцца і **минувший**, і тады—няма сумліву—напішуць і скажуць «**мінуўшы**». Бо ён ужо «запраграмаваны». Уведзены ягоны «лагічны код». Вось прыклады з адной толькі стужкі БЕЛТА: «адкінуць усё **аджыўшае**, перашкаджаючае руху наперад; **зжыўшыя** сябе метады; **наспеўшыя** праблемы; добра **працуючыя** гаспадаркі»... А вось—з другой: **прасвятлеўшых, набыўшых, саграшыўшых і каючыхся**. А паміж гэтым: «хварэў **туберкулёзам, атрымліваемыя** даброты»...

Чытаючы такі тэкст, каб зразумець і адчуць яго, міжволі перакладаеш яго назад, на рускую мову, і тады ўсё ўстае на свае месцы, тады даходзіць, **што** хацеў сказаць журналіст. Зразумела, што сапраўдная беларуская мова не стала б гэткім лішнім бар'ерам.

Спакваля БЕЛТА і друк, радыё, БТ уводзілі і вось ужо ўвялі непарушным правілам у беларускую мову неўласцівую для нас кароткую форму дзеепрыметніка. У стужках ужо не сустрэнеш: **зроблены, дадзены, выкананы**. Толькі: **зроблен, дадзен, выканан**. Пішуць: «**вядом** магістральны шлях» і «адказ на гэта пытанне не **складан**». Пішуць **прызначан, уключан і вывучан, выраблен і пазалочан**... Чуеш такое, і ўсё адно як на ровары па шпалах гонішся. За хуткім экспрэсам.

Скарачаюць таксама займеннікі. Напрыклад, **«гэта** работа» замест **«гэтая** работа». Адразу, бывае, і не здагадаешся, што хацелі сказаць: **«эта** работа» ці **«это** работа».

Перастрахоўніцтва моцнае таксама ў напісанні прозвішчаў. Знікаюць і беларускія формы імёнаў. Засталіся хіба ў мастацкай літаратуры **Яўген** ды **Васіль, Міхась** ды **Аркадзь**. У друку, па радыё і БТ спрэс **Яўгеній, Васілій, Міхаіл, Аркадзій**... Зрэшты, і ў апошнім «Дні паэзіі» ўжо з'явіўся Яўгеній. Праўда, у адным выпадку. У другім—у «Змесце»—той самы аўтар названы Яўгенам. Гэта, наогул, характэрная блытаніна. У назве некралога «Звязда» напісала **«Генадзій** Іванавіч Цітовіч», а «ЛіМ»—**«Генадзь** Іванавіч Цітовіч». І наадварот. Анатуючы адну і тую тэлеперадачу, «ЛіМ» назваў яе «Сустрэчы са **Скарынай»**, а «Звязда», мусіць, памятаючы, што першадрукар быў мужчына,—«Сустрэчы са **Скарынам»**.

Зусім недарэчнае ў нашай мове і перанятае з рускай правіла нязменнасці жаночых прозвішчаў на -анка. Між тым, той, хто стала карыстаецца беларускай мовай, ніколі не скажа: «Прывезлі дровы **Бандарэнка»** або «Першая кніга **Булыка»**, або «Настаўнік задаволены адказам **Дубіна»**. Сталы носьбіт, які хоча, каб яго зразумелі, абавязкова прамовіць: **Бандарэнцы, Булыкі, Дубіны**.

Ад механічнага прыпадабнення мова страчвае сваю суладнасць і мілагучнасць. Такой мовай ужо немагчыма гаварыць, думаць, адчуваць і перадаваць тонкасці думкі і пачуцця. Такая мова сапраўды грубая і непрыгожая. Зусім слушна ў народзе называюць яе часам «исковерканным русским языком». Рэальны носьбіт паўнавартаснага беларускага слова ніколі не скажа: **«не ведаю»** і **«без гэтага»**, а толькі **«ня ведаю»** і **«бяз** гэтага». Ён вымаўляе: **сьвет, зьвестка, зьява, пасьля**, а не: **свет, звестка, з'ява, пасля**, як вымаўляе журналіст, дыктар, артыст ці хто іншы, навучаны сродкамі масавай інфармацыі і апошнім выданнем беларускай граматыкі. Сёння, калі большасць беларусаў знаёміцца з роднай мовай і вучыцца гаварыць на ёй па кнігах і газетах, па напісаным, калі традыцыйны прынцып «як гаворыцца, так і пішацца» стаўся, бадай, адваротным: «як пішацца, так і гаворыцца»,—пераймаць і развіваць у мове неўласцівы для яе падзел напісання і вымаўлення—згубна для мовы. І калі мы сапраўды прагнем захаваць жывое і жыццяздольнае беларускае слова, трэба выправіць сляды колішняга мовазнаўчага валюнтарызму: вярнуць перадняцкскное **я** і мяккія знакі, пра што даўно і настойліва гавораць многія аўтарытэтныя знаўцы беларускага слова.

Ці варта нагадваць, што пры ўсёй блізкасці і роднасці рускай і беларускай моў, гэта дзве розныя стыхіі, дзве індывідуальныя суладнасці, дзве «экалогіі». Урэшце, разуменню гэтага можна навучыць, як і нармальнаму моўнаму чуццю. Нас жа, журналістаў, памятаю, вучылі больш правілам, «алгебры» мовы, а не яе гармоніі. Нам нават не сказалі, што мова—не прылада працы, а наш самы галоўны, вельмі складаны і крохкі інструмент. Без дасканалага валодання гэтым інструментам многія з нас так і не сталі дасканалымі майстрамі сваёй справы.

«Пастанова аб вызваленні асобных асоб», «забеспячэнне бяспекі», «прапануемыя змяненні»,—цытаты з самых адказных газетных тэкстаў. Немілагучна? Затое цалкам адпавядае арыгіналу. Усё вельмі правільна, але абсалютна непраўдзіва, бо ніхто і ніколі так не гаворыць у жыцці. Нават той, хто гэта перакладаў. Ён гэта зрабіў безадказна, ён толькі выканаў функцыю.

А ўзяць такую з'яву, як сацыялістычнае спаборніцтва. Друк, радыё і БТ поўныя «абавязацельствамі, спаборнічаючымі і адстаючымі». А чаму не пісаць: **абавязкі?** Сэнс той самы: узяць абавязкі, абавязацца, а форма слова—свая, беларуская. Чаму не пісаць: **спаборнік, спаборныя** калектывы, брыгады-**спаборніцы?** Таму што —пярэчыць руска-беларускі слоўнік—**спаборнікам** перакладаецца састарэлае рускае **соревнователь**... Чаму, нарэшце, не пісаць: адсталыя прадпрыемствы, брыгады - спаборнікі? «Адстаючыя»—больш асцярожна, завуаліравана. Тут дарэчы згадаць словы Якуба Коласа, які раіў, перш чым запазычваць або калькаваць чужое слова, абшукаць кішэні свае памяці. А на нашай памяці шмат сабралася ўсяго «састарэлага», без чаго аніяк не вырашыць сённяшніх задач.

Зусім занядбаны таксама шлях утварэння новай лексікі ў поўнай адпаведнасці з законамі беларускага словаўтварэння. Вось, прыкладам, «Слоўнік сінонімаў» М. Клышкі прапануе слова **наведнік**, але руска-беларускі слоўнік яго адмаўляе, і таму спрэс чытаеш і чуеш груваасткае **наведвальнік**, якое ў мяне асабіста асацыіруецца з «пододеяльником». Не сустракаў у перыёдыцы і **самадзейнікаў**, затое паўсюль—**«удзельнікі** мастацкай **самадзейнасці»**... Хто ж яшчэ павінны займацца аператыўнай моватворчасцю на патрэбу дня, як не журналісты? Прыжывецца слова ці не—вырашыць час. Новыя з'явы, ідэі таксама, бывае, не прыжываюцца...

Беларуская мова—не манаполія вузкага кола спецыялістаў. Гэта плён і набытак народа, у вуснах якога яна жыве. Таму абмеркаванне моўных нормаў павінна быць як мага больш шырокім і дэмакратычным. Пакуль жа крытэрыем слушнасці і суладнасці застаецца для кожнага беларускамоўнага ягонае моўнае чуццё, наша выдатная класіка—творы Багушэвіча, Купалы, Коласа, Гарэцкага, Чорнага, Караткевіча і іншых, тых, каму праз усё жыццё балела за роднае слова.

З чаго пачынаецца наша моўная перабудова? На гэта адказаў у «ЛіМе» М. Стома (допіс «Чакаем дадатку»). Відаць, сапраўды патрэбны дадатак да тлумачальнага слоўніка. Пры гэтым варта ўспомніць, што лепшыя падобныя слоўнікі ў сусветнай моўнай практыцы —аўтарскія. Думаецца, і наш дадатак не павінен быць вынікам планавае, калектыўнае працы з «размытай», дэперсаналізаванай адказнасцю ствральнікаў, як наяўны тлумачальны. Цяпер патрабуецца сучасны беларускі Даль, падзвіжнік. У комплексе з новым слоўнікам павінна з'явіцца і новая, аўтарская граматыка. У любым выпадку, нават пры магчымых хібах, гэта будзе ўдзячная **жывая** праца, праца ў духу перабудовы, дзеля будучыні.

**Сяргей ДУБАВЕЦ,**
**журналіст.**

г. Гомель.

## ПАЭЗІЯ

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

### Паэт

Аддалі яму ва ўладу
Радасць безупынную і весялосць
І намалявалі перад ім усю прыгажосць жыцця,
І параілі жыццё не ўскладняць,
Бо адчай і смутак у маладыя гады —
Калі не вар'яцтва, то глупства.

А пасля,
Набіўшы кішэні яму смехам і аптымізмам,
Зноў адправілі ў свет, —
Складаць новыя песні
З новымі пачуццямі і матывамі.

Але прайшоў час—і ён вярнуўся:
З вясёлай усмешкай на сумным твары,
З безупынным адчаем у бадзёрых вершах,
Штучных і ненатуральных,
Са слязамі на радасных вачах.

І толькі ўбачыўшы яго такога,
Зразумелі яны,
Што не гадамі вымяраюцца смутак і туга,
І што ў розных люстрах свет адбіваецца
Неаднолькава.

### Цвік

Стары, іржавы цвік
Трымае рэшткі даху
Пакінутага гмаху,
Дзе толькі змрок і цвіль.

Балюе хіжы вецер
Сярод пустой будовы,
Рыпіць зламаны ровар,
Прыкрыты брудным веццем.

Тырчыць гнілое сена,
Правальваецца столь,
Аселі ў мяккі дол
Разбураныя сцены.

Бы прадсмяротны крык,
Злятае водцень жаху.
І толькі ўпарты цвік
Трымае рэшткі даху.

**Алег МІНКІН**

### Стоік

Хапей усё—нічым не грэбуй!
Дае параду сумны век.
А мне нічога тут не трэба,
Такі я — дзіўны чалавек.
Не трэба ні чыноў, ні званняў,
Ні ўлады прывіднай рублёў,
Ні славы, ні мундзір са ззяннем
Незаслужоных медалёў...
І хай у гонар іншых трубы
Узносяць спеў за небакрай...
Абы напеў старонкі любай
Не заглушыў той тлумны грай!

### Тыран

Я — каламутны чорны вір,
Ушчэнт разбэшчаны, юрлівы,
Глухі да светлых пералівaў
Вады, што лашчыць чысты жвір.
Наканаванае спасціг:
Зацягвай тых, хто прагне выжыць,
Не раздымай абдымкаў хіжых
І не зважай на хрыпы іх.
Стварэнне ўлады і жуды,
Жыву, пакуль чыню пакуты,
У вір памкненняў каламутных
Сябе ўкруціўшы назаўжды.
Ды смерць грахі адпусціць мне.
І ўсё ж мяне ад жаху курчыць,
Калі анёл пра неўміручасць
Шапне раптоўна ў дзікім сне.

**Анатоль СЫС**

●

На памежжы чужыны з Айчынай
па начох ходзіць сумны паэт,
ён запаленымі вачыма
як агнём апякае свет.

А камусьці са спрат здаецца:
блудзіць зорка па-над мяжой,
быццам ёй не хапае месца
і нябёс на зямлі сваёй.

Хто пакрыўдзіў цябе, паэце?
Хто прымусіў цябе блудзіць —
бог ці дэман — у гэтым свеце?
Што ты хочаш душы здабыць?

І за што ты марнуеш цела?
Можа, досыць з цябе ахвяр?
Сядзь, даверся паперы белай —
і надзея асвеціць твар.

Сядзь, пакайся за раны целу,
яно ж братам тваёй душы.
Ці жадала яно, ці ж хацела,
каб ты з гэтай пакутай жыў? —
на памежжы чужыны з Айчынай...
...крок яшчэ — і няма мяжы...

**Людміла СІЛЬНОВА**

### Філасофская казка

Спачатку было Слова...
Біблія

Бацька-Час, Прастора-маці
Цалаваліся у хаце.
Зачапілі збан рукой —
Пралілося малако...

Ён яе — уніз схіляе,
Чары-косы расплятае.
А па сценах — ручнікі,
Як дарогі праз вякі!

Закрычала спакваля
У той хаце немаўля.
Так нарадзілася жыццё...

Было спачатку — Пачуццё!

**Уладзімір СЦЯПАН**

### Сініца

Я ведаю, што мне ізноў прысніцца:
Зімовы парк, раённая бальніца,
Мой цень на сцежцы натаптанай
І дрэў забінтаваныя фантаны...

Ліловы штэмпель на рагу прасціны,
Халат на білах непрытульна-сіні,
У шклянцы некранутая гарбата,
Чырвоны яблык, ціхая палата...

Маўклівы, вузкі, гулкі калідор,
І дзверы ў белы нерухомы двор,
Кавалак лёду з прысмакам аптэчным
І ля акна сініцы жоўтай свечка...

Я ведаю, што мне ізноў прысніцца:
На падваконні жоўтая сініца,
Скарынка хлеба, ўмерзлая у лёд,
І дзень бясконцы, цяжкі, нібы год.

### Агонь

На залаты агонь глядзім,
Што ззяе ў цішыні глыбокай
І нішчыць сам свае вытокі —
Хавае прысакам сівым.

На белы і бязважкі дым,
Што уздымаецца ў аблокі,
І там павольна і высока
Плыве над вогнішчам сваім.

Бясконцы клопат чалавечы,
Ізноў спрачаемся пра вечнасць,
Пра зменлівасць і пра спакой...

Змаўкаем. Полымя згасае.
Над намі млечнаю ракой
Дым у бязмежжы прападае.

### Крышталізацыя

На вокнах — крышталізацыі працэс.
У блытаніне крохкіх белых ліній
Рэліктавых раслін з'яўляўся лес,
Ператваралася вада ў галіны.

А я не ведаў назваў дрэў і траў,
Не пазнаваў ільдзіста-белых кветак...
Мароз крышталі лёгкія складаў,
Ствараючы на шкле пачатак свету.

**Алесь АРКУШ**

### Здраднік

— Хто хаваецца ў лесе днямі?
— Гэта здраднік,—адказвае сыч. —
На шынельным скарэлым лямцы
У кустоўі, як мёртвы, ляжыць.

Тое месца абходзяць звяры,
Толькі хмарай над ім камары.

Ён баіцца, аднак, зварухнуцца,
Ён чакае цямнейшай начы,
Каб да твані паўзці-дацягнуцца,
Каб у багну ад нас уцячы.

**Максім КЛІМКОВІЧ**

### Хоку

●
Аб слуп ліхтара
б'ецца ў асеннім ветры
папера аб'яў.

●
Над старой студняй
я адпусціў каменьчык.
Чаканне гуку.

●
Сёння і дзеці
не знайшлі яблыкаў
у старым садзе.

●
Пыл на кашулі,
толькі я ўспомніў, калі
крануўся яго.

**Міраслаў ШАЙБАК**

### Хоку

●
Бетон аблокаў.
Ці зможа вежавы кран
Падняць небакрай?

●
Шклянка ля крыжа
На вясковых могілках
Збірае лісце.

●
Руіны мура.
Вызваліў вецер цябе,
Магутны валун.

●
Гарбаты жучок,
На сваіх плячах схаваў
Лёгкія крылы.

## ПРОЗА

СТОМА. Адчуваю страшэнную змучанасць. Больш за суткі не спаць і атынкоўваць — гэта ўжо не для мяне. Раней даязджаў дадому і толькі тады стома навальвалася і я засынаў, цяпер не паспяваю пераступіць парог аўтастанцыі, як на мяне пачынае ціснуць нябачны цяжар. Пратрымацца б яшчэ з гадзіну. У аўтобусе можна паспаць. Нашто я звязваюся з манументальным мастацтвам? Нашто мне рыштаванні, кельмы, цёркі, тынк? Залежнасць ад такіх матэрыялаў, як жвір і вада, вярчэнне бетонастваралкі — забівае мастака. А кніжная графіка дае нармалёвы заробак, ні табе гатэльных ручнікоў, ні рэстаранных сняданкаў. Як жа я змучыўся, здарожыўся...

Трэба даведацца, калі пойдзе аўтобус на Мінск.

Саджуся на лаўку, адчыняю дыпламат і дастаю часопіс, які браў у дарогу і які не было часу пагледзець. Гартаю тонкія старонкі. Малюнкі, фотаздымкі, слайды — яны смяюцца і плачуць, крычаць і маркоцяцца. Афіцыйныя і лірычныя, стрыманыя і ганарыстыя — яны мільгацяць уваччу. Рознагарнітурныя шрыфты размаітых загалоўкаў літаральна выскокваюць з-пад пальцаў — імкнуцца сваёй дробнай кідкасцю зачапіцца за памяць, абудзіць свядомасць сваім агульнадаступным сэнсам. А мне зноў захацелася спаць... Інфармацыя, так ліха закампанаваная на разваротах, завісае на паўдарозе да мэты.

Кідаю манументалку — вітражы, мазаікі ды фрэскі з ляўкасамі. Прыязджаю, іду ў рэдакцыю часопіса ці выдавецтва, бяру заказ на малюнкі...

**Адам ГЛОБУС**




— Праз паўгадзіны, білеты па прыходзе аўтобуса... — абыякавы голас касіркі.

Як хочацца легчы на станцыйную лаўку і праспаць паўгадзіны. І яшчэ смажыць. У горле і ў роце гарката ад тытуню. Толькі што піў (ідучы да станцыі, нахіляўся ледзь не да кожнай калонкі). Аўтобус будзе ў дарозе паўтары гадзіны, і абавязкова захочацца вады. Лепш зараз нап'юся. Іду па аўтастанцыйным пляцы, наўскос, да калонкі. Вада халодная. Струмень моцна аддае ржою. Я прызвычаіўся да мутнаватай вады, яна мне смачная. У целе з'яўляецца бадзёрасць. Кашуля вісіць на плоце. Па спіне коцяцца сцюдзёныя струмені — прыемна. У целе лёгкасць, і стомы амаль не чуваць. Вяртаюся праз пляц, асветлены ранішнім сонцам. Далёкі рэпрадуктар іграе гімн — шэсць гадзін раніцы.

Каля акенца касы стаіць высокая маладзіца. Яна абапіраецца локцем на маленькае падваконне і чытае раман. На ёй лёгкая сукенка і туфлі на тонкіх абцасах. Побач стаіць вялікая сумка, поўная райскіх яблыкаў. Правінцыйная прыгажуня не без цікаўнасці чытае перакладзены раман мінулага стагоддзя. За паўкроку ад прыгажуні пагойдваецца на крываватых нагах джынсаваабліччны юнак, які трымае перад сабой скураны партфель. Відаць, што партфель цяжкі, але юнак не ставіць яго на пыльную дашчаную падлогу, бо партфель новы, і юнаку шкада паставіць чыстую рэч на нямытыя дошкі. У юнака рэдкія вусы і блізка пасаджаныя вочы. На лаўцы, побач з акном, сядзіць мажны мужчына ў светлай з мяккім брылём кепцы. Твар у мужчыны рыхлы, бялкі вачэй мутныя, быццам ён толькі што перастаў плакаць. Мажны, ўнурыўшыся, глядзіць на сцяну перад сабою. Якраз перад ягонымі вачыма вісіць тэлефонны аўтамат. Мажны мог бы глядзець у акно, але ён утаропіўся на аўтамат, быццам чакае, што той зазвоніць.

— Мінск? — запытальна гляджу на прыгажуню.

— Усе на Мінск. Вы чацвёрты.— упэўнены адказ.

— Я прыходзіў раней. Нікога не было, і не было каму сказаць, што я першы. А зараз мне, пэўна ж, не павераць.

— Не паверым,— за ўсіх адказвае жанчына, яўна адчуваючы сябе гаспадыняю. — Трэба было стаяць, былі б першым, а так вы — чацвёрты...

Заходзіць каржакаваты мужчына. Ён у майцы. Каржакаваты заходзіць на аўтастанцыю, як дамоў. Ён вядзе за руку хлопчыка. Сонны хлопчык гучна пляскае па падлозе босымі нагамі. На галаве ў яго пластмасавы шлем пад славянскага воіна. Мужчына п'янаваты, ён, пэўна, як і я, яшчэ не клаўся спаць, таму не адразу цаляе манетай у шчыліну тэлефоннага аўтамата.

— Алё, алё...—бас, адпаведны плячам у майцы, напаўняе залу аўтастанцыі. — Алё! Гэта хлебны? Яню пакліч. Ага, Яню... Яня, ты? Як хто? Збысь, твой муж. Кінь гэта. Я не п'яны. Мы тут з Алегам, на аўтастанцыі. Ага, з аўтамата. Што я хачу ад цябе? Нічога не хачу... Мо ты вернешся?! А?! Во і Алег хоча, каб ты вярнулася. Мы з бабай яму шлем і меч купілі, на дзень нараджэння. Не дуры! Не з маці маёй ты жывеш, а са мной, з Алегам. Не кладзі трубку. Пагавары з сынам...

Мужчына перадае хлопчыку трубку. Хлопчык становіцца на дыбачкі, але не можа дацягнуцца да мікрафона. Каржакаваты бярэ сына на рукі.

— Мама... Не, не п'е. Баба казала, што зробіць у доме другі ўваход, калі ты вернешся. Мама, прыходзь да нас.

— Ідзі на двор, — шэптам кажа каржакаваты і апускае сына на падлогу. Хлопчык ідзе на пляц, сядае на кукішкі і малюе пальцам на пяску.

— Падвучваю? Хай сабе... А што ў тым благога? Ён жа мой сын. Не п'ю! Што ты чуеш? Мо яшчэ скажаш, што табе смярдзіць? Ага, смярдзіць! Ідзі ты... Я кажу — ідзі ты, ведаеш куды! Дзіця без маці расце, а яна ў сталіцу збіраецца. Ну і едзь. Абыдземся.

Праз аўтастанцыйную залу ляцяць тэлефонныя гудкі.

— Падла ты! — гаворыць каржакаваты, чапляе на храміраваныя рогі трубку, выходзіць на двор. Бацька бярэ сына за руку. Яны ідуць праз сонечны ранак. Хлопчык азіраецца на свае малюнкі. Пластмасавы востраканечны шлем блішчыць на сонцы.

Няёмкасць павісае ў станцыйнай зале. Мужчыны так кпліва пазіраюць на прыгажуню, што ў яе нават праз пудру відаць, як чырванее твар. Яна апускае вочы і робіць выгляд, што чытае...

— Я зараз вярнуся. Калі хто прыйдзе, вы ўжо скажыце, што я трэці, — просіць мажны.

— Скажам, скажам,— запэўнівае прыгажуня.

Мажны выходзіць на пляц і закурвае. Мне добра відаць, як ён разглядае хлопчыкавы малюнкі, як абівае попел з цыгарэты, снуе туды-сюды па пляцы і затоптвае малюнкі, зробленыя хлопчыкам. Ён мяне злуе, бо знарок затоптвае малюнкі. Вось паварочваецца і зноўку ідзе па малюнках.

— Я не скажу, што ён трэці,— гавару голасна і жорстка.

— А мы скажам,— пярэчыць прыгажуня. Яна ўжо забылася на няёмкасць.

— Цяпер я трэці.

— Не бойцеся. Усе паедзем.

— Баяцца? Той, што ў кепцы, няхай баіцца. А я ведаю, што паеду.

Прыгажуня загароджваецца выратавальным раманам, дэманстратыўна паказвае класічную назву на вокладцы.

Пад'язджае міжгародні аўтобус. Калі вяртаецца мажны, я ўжо стаю за юнаком. Той перастаў хістацца і трымае партфель у адной руцэ, а ў другой сціскае прыгатаваныя на білет рублі.

— Я тут стаяў, — звяртаецца да мяне мажны.

— Дзе? — раблю выгляд, што першы раз яго бачу.

— Тут, за гэтым чалавекам з партфелем,— занепакоіўся ён.

— Я цябе не бачыў.

— Слухай, канчай.

— Сам пачаў, а мне гаворыць — канча-ай.

— Чаго ты завёўся?

— Я? Завёўся? Кінь ты, завёўся. Я быў першы, апынуўся чацвёрты. А — зараз трэці, а ты — чацвёрты,— адчуваю, што і сапраўды завёўся. Ён растаптаў малюнкі на пяску, а я з пяску і вапны цэлыя суткі рабіў малюнкі. Адцягнутая паралель, але дастатковая, каб мяне раззлаваць. Гляджу яму проста ў мутныя вочы і ціха кажу:

— Ты — чацвёрты.

— Прыбыў прахадзяшчы аўтобус Магулёў—Міншк. Ёшць адно мешца, — прасіпеў рэпрадуктар.

— Усе бачылі, што я стаяў!

— А мо ты сядзеў на лаўцы і глядзеў на тэлефонны аўтамат?

— Так, я сядзеў...

— Во, ты сам і сказаў, што тут не стаяў, — перабіваю мажнога.

— Хлопец, — голас дрыжыць, ён ужо не ведае, што казаць, пазірае на прыгажуню, якая ўжо з білетам у руцэ пераможна паварочваецца да выхаду.

— Ён стаяў трэці, — кідае яна мне жорстка ў твар.

— Ён жа сам пацвердзіў, што не стаяў, а сядзеў!

Біцца мажны не палезе. Калі б на яго ным месцы апынуўся каржакаваты, што тэлефанаваў у хлебны, магла б і бойка пачацца; а гэты думае, як адступіцца. Спакойна, Вадзім, спакойна. Ты ўжо заняў трэцяе месца. Яно табе не патрэбна. Цябе суцешыць толькі першае. Так што аддай трэцяе месца. Зрабі чалавеку нечаканую радасць. Ты ж добры, толькі крыху ператаміўся і раззлаваўся з-за глупства, з-за нейкага там контура на пяску...

— Я смехам,— гавару,— бярыце білет.

— Ён смехам,— мяккі брыль паварочваецца да прыгажуні, на рыхлым твары — палёгка.

— Жартачкі,— рот прыгажуні расцягваецца, — ну ў цябе і жарты.

— У вас, — кажу ёй.

— У вас жарты! — папраўляе сябе прыгажуня.

— Так лепш, прыгажуня!

— Камплімент? Ці спроба пазнаёміцца?

Падсоўваючы грошы пад касавую шыбу, мажны не ўтрымлівае колькі манет. Яны коцяцца ў розныя бакі. Перахваляваўся дзядзька. Вось і не слухаюцца рукі.

— Ну, што вы. Ніколі не знаёмлюся на аўтастанцыях,— здзіўлена ўскідваю бровы.

Мужчына ў белай кепцы збірае свае манеты.

Нарэшце заходжу ў аўтобус. У канцы салона абапіраецца на незанятае крэсла прыгажуня. Прахаджу ў самы канец салона.

— Садзіся, хлопец,— запрашае старая кабета. Яе далонь стукае па вольным сядзенні.

— У мяне без месца.

— Зоймеш, і тваё будзе. Я во да Бялыніч прастоіла. Змучылася.

— Мо вы сядзеце? — прапаноўваю прыгажуні.

— Дзякуй. Там крэсла зламанае. Я пачакаю, мо гэта вольнае.

Стома ўціскае мяне ў крэсла. Яна налівае болем суставы...

Колькі іх у мяне? Ні скуры, ні мышц, ні сэрца, ні душы я не адчуваю. Я нібыта складзены з адных суставаў, і ўсе яны ныюць, распухаюць, баляць...

Аўтобус набірае хуткасць. Крэслы парыпваюць. Буркоча матор. Музыка, ліпучая і салодкая, што патака. Нехта ўключыў магнітафон. Не пераношу слінявы пастэльны музон. Устаю, іду па гумовай падлозе, пераступаючы праз сумкі, чамаданы і рэчмяхі. Юнак, што купляў білет другім, прыціскае да жывата аднакасетнік.

— Я суткі не спаў, твой маг не дае заснуць. Вырубі яго. Ка-лі-лас-ка.

— Я зраблю цішэй.

— Паўтараю. Прашу цябе, выключы магнітафон. Я не «блакітны», каб засынаць пад скавытанне гермафрадытаў.

Юнак расшпільвае партфель і дастае навушнікі. Яму сорамна, але ён надзявае іх.

— Дзякуй, зносак, — ківаю, ён не чуе слоў і ківае ў адказ. Яму не пашанцавала, да Мінска прыйдзецца стаяць.

Сілуэты мажнога ў кепцы і юнака ў самаробных навушніках пагойдваюцца каля кабіны вадзіцеля. Нарэшце засынаю. Тое, што бачу, — не сон, а чаргаванне рэчаў, якія бачыў за апошні дзень...

Пераапранаюся. Чорныя порткі без паса. Замест паса раблю зашчапкі з алюмініевага дроту. Пачак цыгарэт і запалкі перакладаю ў кішэні рабочай курткі. Цяжкая тачка спыняецца каля гурбы жвіру. Рыдлёўка перамешвае вапнявы раствор. Ён фарбуецца. Каляровыя пасмы пігменту цягнуцца за лязом. Пялёстак кельмы шпурляе аднатонны раствор на сіта. Ім стукаю аб таз. Той поўны чорнага раствору, цяжкі ледзь падняць, нясу да сцяны. Яна робіцца чорнай і выклікае жах. Мне пачынае здавацца, што я не зраблю зграфіта, што яно абрынецца, ці я не паспею выразаць, а тынк засохне. Другі слой — шэры. Ён кладзецца ўдвая лягчэй і лепш зачапляецца. Упэўненасць і спакой вяртаюцца ў душу. Верхні слой белы. Яго раблю лепшым за папярэднія, адмысловым. Ад сцяны цягне сцвярджальным духам будоўлі. Я ем сала з хлебам і цыбуляю. Трэба як мага больш з'есці, каб не заснуць і скончыць працу. Жую, а перад вачыма кругамі ходзіць зграбная цёрка, раўняючы і раўняючы і без таго роўную плоскасць. Прыбіваю падрыхтаваны малюнак. На ім арган у натуральную велічыню. На арганных трубах сядзяць пташкі — два галубы і салавей. Загадзя завостраны скальпель уваходзіць у прахалодны тынк. Выразаю першую дэталь—валюту на арганным камуфляжы. Прыкладаю да сцяны далоні. Прыемная шурпатасць і чысціня. Прыкладаюся шчакой да тынку. Трэба паслухаць, адчуць сцяну, паверыць у яе, адчуць яе падрыхтаванасць да ператварэння. Сцяна чакае. Дэталі з'яўляюцца ў рэльефнай трохколернасці. Тынк паступова высыхае. Рэзаць цяжэй і цяжэй. Нарэшце праца скончана. Радавацца няма сілы. Прыбіраю, пераапранаюся ў дарожны строй і іду на станцыю. Побач, над маім плячом, ляціць салавей...

— Прачынайся, хлопец. Мы ўжо ў Мінску, — будзіць мяне старая.

— Я спаў?

— Спаў, усю дарогу спаў, — яна сочыць, як наплывае на аўтобус паралелепіпед шматпавярховага будынка...

— Колькі паверхаў? Палічыць не паспела.

— Многа.

— Я налічыла дваццаць. Можа такое быць?

— Можа быць і дваццаць два.

— Буду-уюць.

Аўтобус спыняецца. Калі выходжу на тратуар, прыгажуня ўжо стаіць на асфальце. Яна трымае сумку, поўную дробных яблыкаў, і глядзіць на мяне. На твары разгубленасць.

Прыгажуня! Якая ты прыгажуня? Рыбіна ты, якую шпурнулі ў траву. Сена ты ў лужыне на асфальце. Ты спадзяешся, што мы пойдзем разам і я дапамагу нясці пачастунак тваім сталічным сваякам? Ты глядзіш мне ў вочы, шукаючы падтрымкі... Дарма. Ты не паверыла, што я быў першы ў чарзе па білеты. А я ім быў, бо першы той, хто едзе дадому, а не наадварот. Мінск — мой дом, а ты спадзяешся на паразуменне...

Пакідаю за плячыма правінцыялку з яе велізарнаю сумкаю, накіроўваюся да таксафонаў.

— Слухаю вас...

— Добры дзень, гэта я — Вадзім.

— Я пазнаў цябе, Вадзім. Адкуль тэлефануеш?

— З аўтавакзала. Толькі прыехаў. Заказ я зрабіў, сто год прастаіць, гарантую. Грошы пры мне, заўтра прынясу твае дваццаць пяць працэнтаў.

— А калі працэнты перакласці на рублі, колькі прынясеш?

— Колькі прынясу, столькі і будзе.

— Які сабака цябе ўкусіў?

— Я даручаў табе шукаць заказы, і ты іх знаходзіў. Я працаваў з табой, а цяпер мне больш не патрэбна твая дапамога. Я больш не магу цягаць тазы з тынковачным растворам. З мастака я зрабіўся маляром, атынкоўшчыкам... Добра, што ты не бачыш мяне. На руках ад вапны — слановая скура, панцыр, а не скура, а ў маёй галаве столькі пяску, што хмарачос можна пабудаваць дваццаціпавярховы. Я дайшоў да ручкі, запіс не магу зрабіць, ліст не магу напісаць. У мяне ўжо ні сяброў, ні жанчын няма. Адны заказы. Вітражы і сцены, сцены і вітражы. Са мною няведама што творыцца — я на людзей кідаюся, як сабака...

— Як сабе хочаш, а ў мяне якраз для цябе добры заказ.

— Добры ці злы — мне без розніцы, я больш не буду займацца манументалкай.

— А чым станеш займацца, калі не сакрэт?

— Графікай.

— Ты не зможаш перакваліфікавацца. Ва ўсялякім разе не цяпер.

— Чаму я не змагу?

— Таму, што ёсць заказ, які ты будзеш рабіць. Ты ж хацеў зрабіць крэматорый?

— Крэматорый?

— Так.

— Твае дваццаць пяць працэнтаў?

— Дамовімся.

— Не дамовімся...

— Ты ператаміўся, табе трэба адпачыць і падумаць.

— Я ўжо рашыў.

— Эскізы да крэматорыя ты ўжо зрабіў. Заўваж, цябе ніхто не прасіў, ты сам іх зрабіў. А я толькі знайшоў месца для рэалізацыі тваіх ідэй.

— Ды згары ты разам з крэматорыем...

— Заказ не гарыць. Наконт працэнтаў дамовімся. Адпачывай...

Набліжаюся да тралейбуснага прыпынку, дзе чакаюць ледзь не ўсе пасажыры з майго аўтобуса. Зыркі агеньчык таксі зіхаціць над чорным люстэркам вымытай вуліцы. Выходжу на сярэдзіну дарогі і, ускінуўшы руку, спыняю «матор».

— Вы не ў аэрапорт? — нехта пытаецца ў маёй спіны.

— Мне ў другі бок.

Таксіст шчоўкае лічыльнікам.

— Цэнтар, — кідаю таксісту.

Скразняк прыемна студзіць патыліцу. Ліповыя ствалы спяшаюцца насустрач лабавому шклу.

— З шабашкі? — пытае таксіст.

— Можна і так сказаць.

— Я адразу здагадаўся, як толькі ты на дарогу выйшаў...

— Відаць, што з шабашкі?

— Відаць.

Таксіст расказвае анекдоты, пашлаватыя і без гумару, але я смяюся і расказваю яму некалькі абстрактных анекдотаў. Таксіст не вельмі разумее іх, але смяецца. Далей мы маўчым. На развітанне пакідаю яму паўрубель, на гарбату. Падымаюся ў калодзежы пад'езда да сваіх дзвярэй. Вось і дома. Нарэшце.

Раскідваю вопратку ў перадпакоі. Заходжу ў пакой, ён у мяне і зала, і спальня, і гасцёўня, і сталовая... Націскаю на кнопку магнітафона. Аднапакаёўку перапаўняе металічны гук электрагітар, прыкуты да рэзкага галашэння. Спачатку душ. Стаю пад гарачымі струменямі. Пасля іду да шафы, на падлозе застаюцца пляміны. Загортваюся ў крухмальную прасціну. Заварваю моцную гарбату і п'ю, седзячы ў крэсле, насярод пакоя. Вялікае люстра шафы якраз насупраць, а ў ім — мой партрэт. Засцілаю чыстую бялізну. Кладуся. Чытаю: «А зараз высплюся, як чалавек». На гэтым сказе спыняюся, паўтараю яго, адкладваю кнігу і засынаю. Прачынаюся і не помню сноў.

Узнікае жаданне апрануць касцюм і абавязкова навязаць гальштук. Пакуль прыбіраю кватэру, жаданне мацнее. Завязваю перад люстэркам гальштук і зашпільваю пінжак. З люстэрка на мяне глядзіць малады чалавек — зусім не я. Ён спакойны, упэўнены. Ён штодня ходзіць на службу і г. д.

Спяшацца няма куды. Адчуваю сваю адпаведнасць класічнаму праспекту. Дый як не адчуць яе, калі ў кожнай вітрыне мая светлая кашуля і мой адпрасаваны касцюм, мой урачысты гальштук, мае залатыя запінкі і мае новыя туфлі. Толькі твар змяніўся, ён застыў, знерухомелі вочы і вусны. Мяне цяжка пазнаць, нікому і ў галаву не прыйдзе, што я сёння кельму трымаў і тачку са смеццем вазіў.

Карнізы, капітэлі, аркі, маскароны... Як добра, што яны заўсёды чакаюць мяне. Што яны дачакаліся мяне сягоння. Вось гэты стогадовы маскарон, над магазінам «Філатэліст». Ён заўжды вітаецца пры сустрэчы і міргае, міргае каменнымі вачыма. А карынфская капітэль на Дзяржбанку абяцае падарыць мне ліст-акант. Вежа насупраць кнігарні—у нас з ёй даўняе каханне. А ў аркадзе кінатэатра я не магу не стукаць абцасамі. Купал галоўнага паштамта, як спіна дыназаўра, што хаваецца за жалезнай брамай. На стадыёне цішыня. Расшпільваю пінжак і засоўваю рукі ў кішэні. Стаю на самай высокай трыбуне. Панарама заводскага раёна геаметрычная і выразная. Вецер забаўляецца з гальштукам. На прыступках рэстарана «Беларусь» мяне хапаюць за локаць.

— Не пазнаеш?

— Пазнаю.

— А што ў касцюме і пры гальштуку? Мо на прыём хадзіў?

— Ты здагадаўся, калі пахаванне называюць «прыёмам». Бывай.

— Бывай.

Застаюся адзін. Мне няма куды ісці, мне няма да каго ісці. Мне нават няма каму патэлефанаваць. Выразна чую свой голас:

— Ты зараз яму патэлефануеш, ты возьмеш заказ. Крэматорый — твая тэма. Калі памірае чалавек, людзі завешваюць люстэркі, каб не множылася гора. І ў тваёй працы не павінна быць адлюстраванняў, ніякіх слізкіх і бліскучых матэрыялаў. Усё будзе матавым, шурпатым, фактурным. Ніякіх цёплых і гарачых таноў. Стэрыльнасць, строгасць, халоднасць... Чыстая ўрачыстасць павінна ў цябе атрымацца. Ты ведаеш, як зрабіць крэматорый і зробіш яго. Нехта павінен рабіць чорную работу. Дык хай робіць той, хто ведае, хто не баіцца яе, хто верыць у сябе...

Таксафон прагна глытае капейкі.

— Слухаю вас...

— Зноў я.

— Ты спаў?

— Якая розніца?

— І ўсё ж.

— Спаў.

— Добра. Яшчэ адно неабавязковае пытанне. Ты не помніш, які бачыў сон?

— Сноў не было.

— Добра. Усё добра.

— Я згодны рабіць крэматорый.

— А ў мяне і сумненняў не было. Твая тэма, твой аб'ект.

— Гэта мой апошні аб'ект. Калі трэба пачынаць?

— Учора. Праект і дамова ў тваёй паштовай скрыні.

Вымаю з паштовай скрыні пакунак. Цікаўнасць падганяе мяне. Разгортваю слізкую кальку праекта. На ёй накрэслены конус. Чыстая, дасканалая фігура, як і павінна было быць. Толькі нешта занадта вялікая зала. Які маштаб? Шукаючы маштаб, вочы чапляюцца за назву — праект цырка.

Уваччу круцяцца стракатыя, шматгранныя, рознакаляровыя шкельцы вітража-калейдаскопа, а ў іх адбіваюцца твары і постаці. Рагоча мажны. Хіхікае юнак. Смяецца прыгажуня. Каржакаваты пасадзіў сына на плечы. Хлопчык аберуч трымае, каб не зваліўся з галавы, свой шлем...

«А ў рэшце рэшт? — думаю я. — А ў рэшце рэшт...»

Джэмал КАРЧХАДЗЕ

# Геніяльны артыст

*АПАВЯДАННЕ*

**Не сакрэт, што пераклады нярэдка з'яўляюцца ў выніку асабістых кантактаў літаратараў ці з нагоды юбілеяў, дэкад. Але бывае, што перакладчык трапляе пад уладу прачытанага і не можа не падзяліцца сваім адкрыццём з суайчыннікамі.**

**Мае кантакты з Джэмалам Карчхадзе — той шчаслівы выпадак, калі сустрэча з кнігамі пісьменніка адбылася раней за асабістае знаёмства. Апошняе пацвердзіла сімпатычныя якасці пісьменніка, якія я ведаў па яго творах: сапраўдную інтэлігентнасць і адукаванасць, сціпласць і добразычлівасць, самаіронію і мяккі гумар.**

**Дж. Карчхадзе належыць да сярэдняга пакалення грузінскіх майстроў слова. У яго творчым набытку — два раманы («Пастаялец» і «Караван»), некалькі зборнікаў апавяданняў, пераклады раманаў Х. Лакснеса і Л. Фейхтвангера. З поспехам ідуць у грузінскіх тэатрах п'есы Дж. Карчхадзе. Большасці твораў гэтага самабытнага майстра ўласцівы моцны інтэлектуальны пачатак, назіральнасць, іранічнасць і тонкі псіхалагізм.**

**Але няхай пра ўсё гэта скажа яго апавяданне ў маім перакладзе.**

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**

## Пралог

Мілавідная сакратарка ці не восьмы раз прашчабятала мне адно і тое: «У старшыні нарада, і ён не зможа прыняць вас...»

## Экспазіцыя

Хто такая і што з сябе ўяўляе цётачка Тасо?

Цётачка Тасо — сямідзесяціпяцігадовая істота, якая мае пяціпакаёвую кватэру і ката па мянушцы Пімен.

## Партрэт цётачкі Тасо

Цётачка Тасо вельмі высокая, надзвычай худая і, калі ўлічыць узрост, даволі зграбная дама. У яе сівыя валасы, смуглявы твар, густыя чорныя бровы, вялікі нос з гарбінкай і магутны падбародак, на якім дзе-нідзе прабіваюцца валасы.

## Унутранае аблічча цётачкі

а) цётачка Тасо — арыстакратка. У чым выяўляецца яе арыстакратызм, я, шчыра кажучы, не маю ўяўлення. Магчыма, у тым, што некалькі год яна жыла ў Францыі, ці ў тым, што са сваёй сястрой Ганнай гаворыць выключна па-руску.

б) цётачка Тасо — заслужаны настаўнік. Яна прымацоўвае значок заслужанага настаўніка на паліто, калі выходзіць па макароны, а калі вяртаецца, прышпільвае яго на сукенку.

в) цётачка Тасо вельмі любіць тэатр. Яна не мінае ніводнага новага спектакля. Цудоўна ведае сусветную драматургію і гісторыю тэатра ад антычнага часу да нашых дзён. Часта падкрэслівае, што па прызванні яна актрыса. Не менш часта зазначае, што адчувае ў сабе рэжысёрскія здольнасці. Адным словам, яна заўзятая тэатралка.

г) цётачка Тасо ненавідзіць сваякоў. Яна не прапісала ніводнага сваяка і з уласцівай ёй адкрытасцю абвяшчае, што ўсё пакіне дзяржаве.

Хто такі і што з сябе ўяўляю я?

Я — сямейны мужчына трыццаці васьмі гадоў. Эканаміст па адукацыі, таваразнаўца па прафесіі. Займаю пасаду старшага таваразнаўцы ў салідна ўстанове. Начальства ставіцца да мяне прыхільна, і я не губляю надзеі заняць месца загадчыка аддзела, калі ён трапіць пад машыну. Як усе эканамісты, я захапляюся паэзіяй і, як усе таваразнаўцы, жыву так сабе. Сёе-тое я прыдбаў, але шмат чаго мне яшчэ нестае. Напрыклад, кватэры. Сям'я ў мяне ёсць (чатыры дзяўчынкі-анёльчыкі), а кватэры няма. А без яе, трэба прызнацца, даводзіцца нялёгка.

## Завязка

Скажыце, калі ласка, ці патрэбна дзяржаве пяціпакаёвая кватэра заслужанага настаўніка?!

У гэтым свеце, даводзіць нам сучасная фізіка, усё адносна. Тое, што для мяне з'яўляецца вялікім, для дзяржавы — мізэрнае. Акрамя таго, я буду бясконца ўдзячны!

І вось адным вясновым ранкам я, старшы таваразнаўца Сіко Мяладзе, надумаў змагацца за спадчыну без адрыву ад вытворчасці.

## Развіццё дзеяння

Пасля абеду я некалькі разоў прайшоўся па кухні, а потым урачыста прамовіў:

— Ёсць геніяльная ідэя!

— Га?.. — абыякава адгукнулася жонка.

— Я павінен завалодаць цётчыным палацам!

— Кепска ты ведаеш цётачку Тасо!

— Што значыць «кепска ведаеш»?! Ды я ўжо цэлы тыдзень думаю толькі пра яе. Калі хочаш сказаць, што мяне чакае цяжкая барацьба, дык я згодны. Але чым цяжэй даецца перамога, тым яна саладзейшая.

— Дай, божа, нашаму ягняці ваўка зваяваці...

Жончын скептыцызм не напалохаў мяне. Наадварот, да практычнага значэння аперацыі далучыўся спартыўны запал. Нягледзячы на тое, што кожнае грамадства аж кішыць ад шукальнікаў спадчыны, нічога вартага, з пункту гледжання метадалогіі, яшчэ не створана. Спрадвеку эксплуатуецца адна і тая схема: выклікаць прыхільнасць уладальніка іскомага аб'екта, а з гэтай мэтай — падлашчвацца, ліслівіць, дагаджаць і г. д. Хіба маглі задаволіць мяне прымітыўныя сродкі? Зразумела, што не! Пасля грунтоўнага аналізу душы цётачкі Тасо мне ў голаў прыйшла выдатная думка: замяніць традыцыйную любоў звычкай. О так, звычкай!

Сабака, якому ці то італьянцы, ці то галандцы паставілі помнік, шмат гадоў чакаў гаспадара не з любові да яго. Напачатку, можа, і было штосьці накшталт любові, але потым стала звычкай. Сабака не ведаў, чаго бегаў штодня да трамвайнага прыпынку. Бегаў, і ўсё тут! Па звычцы. А што тычыць гаспадара, дык ягонае аблічча даўно сцёрлася ў памяці вернай жывёліны. Прыблізна такую звычку трэба было выпрацаваць і ў цётачкі Тасо.

Звычка часам мацнейшая за любоў, але куды лягчэй прымусіць пакахаць, чым дабіцца, каб да цябе прывыклі. Апошняе патрабуе больш часу, цвёрдых нерваў і філіграннай работы. Досыць нязначнай прамашкі, каб усё пайшло ў глум, а таму неабходна прадбачыць ход барацьбы, улічваць кожны нюанс. Таму я склаў падрабязны план дзеянняў.

На першым этапе трэба было «зачапіцца» (цётачка Тасо павінна была пераканацца ў маёй бескарыслівасці). Другі ішоў пад назвай «Духоўная трансфармацыя аб'екта» (цётачка павінна была адвыкнуць ад самоты). Трэці этап меў назву «Узяцце крэпасці» (цётачка Тасо, не маючы сіл жыць без мяне, павінна паклікаць мяне ў сваю рэзідэнцыю з правам на жылплошчу).

Акрамя таго, я распрацаваў прынцыпы, якімі меркаваў кіравацца:

1) строга нейтральная пазіцыя ў адносінах да кватэры (магчымы і алагічныя выпады з мэтай дэзарганізацыі);

2) аказанне паслуг, што дыктуюцца толькі надзвычайнай неабходнасцю (каб паглыбіць уражанне пра поўную бескарыслівасць);

3) заўсёдныя спрэчкі па тэатральных пытаннях (галоўная тэма);

4) зняслаўленне сваякоў (самая галоўная тэма).

На пачатак аперацыі прыпадалі імяніны цёткі Тасо. Пра лепшую экспазіцыю нельга было і марыць. Я купіў вялізны торт, заказаў таксі і з'явіўся з жонкай да цётачкі.

Дзверы адчыніліся, і на твары цётачкі Тасо па чарзе адбіліся шчырае здзіўленне, няшчырая радасць і ветлівая ўсмешка.

— Якое шчасце! Пра мяне згадалі мілыя сваячкі?!

«Мілыя сваячкі» былі першым каменем, кінутым у нас цётачкай.

Я не спалохаўся, бо ішоў змагацца, а не весяліцца.

— Што да папрокаў, цётачка, дык ты нават не ведаеш, дзе я жыву.

— Каму патрэбна такая архаіка, як я? — паціснула яна плячыма і запрасіла нас у гасцёўню.

Тут мяне чакаў маленькі сюрпрыз. Ён нахабна разваліўся ў мяккім крэсле і разглядаў сямейны альбом. У таўстуна гадоў пад сорак былі вочкі-шчылінкі і чорныя шчацінападобныя валасы. Цётачка Тасо адрэкамендавала нас:

— Сіко Мяладзе. Віктар Шэцырулі.

Мы з калегам змералі адзін аднаго позіркамі, а з кухні высунуліся яшчэ дзве нечаканасці. Твары і рукі жанчын былі ў муцэ, і таму я не звярнуў на іх асаблівай увагі.

Цётачка Тасо і мая жонка панеслі торт у кухню, а я павярнуўся да Віктара Шэцырулі:

— Ваш твар мне знаёмы. Дзе вы працуеце?

— У Грузтбілвінтрэстпрамгалоўупры!

Ён так ветліва ўсміхнуўся, што я траха не ўрэзаў яму па мызе. Але мой метад выключаў усялякі гвалт, і я прыкрыўся прыязнай мінай.

— Ды што вы кажаце?! Ваш шэф — мой даўні сябра! Прашу перадаць яму мой паклон.

— Абавязкова перадам. Упэўнены, што ён вельмі ўзрадуецца. А дзе служыце вы? Мне таксама ваш твар...

— У вендыспансеры. Заходзьце, калі што...

Наш дыялог перапыніў званок. Гаспадыня адчыніла дзверы і ўпусціла цётку Ганну. Цётка Ганна — гэткая ж старая і самотная, але ў яе котка па мянушцы Кіса і толькі адзін пакой. Апроч таго, яна вельмі бесцырымонная і смяшлівая асоба. Убачыўшы нас, яна разрагаталася:

— Ну і ну, сабраліся сваячкі ды буркуюць! У наступны раз я абавязкова прынясу табе мухамор, Тася!

Потым яна павярнулася да мяне.

— А дзе твая сям'я, хлопча?

— Жонка на кухні, можаш пайсці пацалаваць яе, а дзеці — народ занадта шчыры. Хай сядзяць дома!

— Ну, дык цешчу прыхапіў бы!

Цётка Ганна прайшла ў другі пакой, і адтуль пачуўся яе крык:

— Божа, якія гваздзікі! Тася, калі не падорыш хоць адзін, я памру!

Цётачка Тасо аддала перавагу яе смерці. Кветкі, аказалася, прынеслі жанчыны, запэцканыя мукой. Яны, былыя вучаніцы цётачкі, штогод прыносілі гваздзікі на дзень яе нараджэння. Ну і людзі...

Падвечар госці пачалі раз'язджацца. Віктар Шэцырулі на развітанне паціснуў мне руку і параіў:

— Абавязкова палюбіце тэатр! Грузінскаму тэатру не хапае гледачоў. А што тычыць майго шэфа, дык заўчора яго пахавалі.

— Што вы кажаце!.. А наогул ён гэта прадчуваў. Колькі разоў, помніцца, казаў мне: «Відаць, хутка сыду на вечны спакой».

Неўзабаве выправіліся і руплівыя вучаніцы. Я прыставіў сваё крэсла бліжэй і ўзяўся за справу.

— Цётачка, чаму вы нікога не прапішаце ў сваю кватэру?

Па яе твары прабегла шчаслівая ўсмешка: вось, маўляў, даў бог наіўнага сваячка! Дзе ёй было здагадацца, як дэталёва я распрацаваў план, які пачынаўся «наіўнай» фразай. Якую хвіліну яна ўпівалася асалодай ад майго пытання, а потым адказала:

— Ты, мой мілы, самы блізкі са сваякоў. Лепшага за цябе не знойдзеш. Але, ведаеш, хапае на свеце прайдзісветаў. Сёння прапішаш, а заўтра шкадаваць давядзецца. Мо, лепш не прапісваць і не шкадаваць?

— Вядома, лепш!

З твару цёткі знікла ўсмешка. Нейкі час яна аслупянела пазірала на мяне, але палічыла маю згоду праявай ветлівасці і працягвала:

— Калі я сканаю, хай дзяржава аддае кватэру любому...

— Слушная думка! І я так зрабіў бы на тваім месцы.

Да цётчынага здзіўлення далучылася хваляванне. А я ў глыбіні душы рагатаў і працягваў:

— Чуў я сумную гісторыю... Жыла непадалёк ад нас адзінокая. Якраз два тыдні назад яе пахавалі. Вельмі ўжо старэнькая была. Ну і чапляліся да яе, збавення не было! Не вытрымала яна і прапісала сваяка, чалавека майго ўзросту, але нежанатага. І што ты думаеш?! Не мінула і месяца, як пагрукала да суседзяў, — пусціце, маўляў, пераначаваць. Пажыла небарака яшчэ тры месяцы, ды ўсе тры — па судах ды па суседзях...

— М-да-а, мой мілы...

— Таму ты і не павінна здзіўляцца, што я рэдка заходжу да цябе. Не жадаю, каб мяне лічылі прайдзісветам. Вось, напрыклад, гэты Шэцырулі, ці як яго... Ён што, наш сваяк?

Пры згадцы пра Шэцырулі па твары цётачкі прабегла ўхмылка:

— Сваяк майго беднага мужа. Месяц ужо, як з'явіўся...

— А я, значыць, сёння. Так?

— Ты, мой мілы, зусім не з'яўляўся.

— Ён што, мае прэтэнзіі?

— Ды вадзіў мяне ў тэатр. Два разы заснуў, а на трэці вытрымаў да канца, але ў яго пачалося сэрцабіццё. Бядак проста захлынаецца ад нянавісці да тэатра.

— Нянавісць да тэатра? — разрагатаўся я. — Дык вось чаму ён сказаў мне... — Пры гэтых словах мною зноў авалодаў нястрымны рогат.

— Што ён сказаў? — нецярпліва спытала цётачка, калі я крыху супакоіўся.

Я прыняў тэатральную позу і скапіраваў Шэцырулі:

— «Палюбіце, тэатр! Абавязкова палюбіце тэатр!»

Тут ужо зайшлася ад смеху цётачка Тасо.

— Ты цудоўна пераймаеш! — нарэшце прамовіла яна. — Надзвычай таленавіта!

— О, я вельмі люблю тэатр! Абяцаю табе, што калі вазьмуся за пачатую Шэцырулі справу, дык ніколі не засну на спектаклі.

Тут у пакой увайшла цётка Ганна.

— Ну як, паспяхова прайшлі перагаворы?

— Уяві сабе, ён вельмі прыемны субяседнік, — адказала цётачка Тасо.

— У такім разе я пайшла! Дык не падорыш хоць адзін гваздзік?

— Ты так любіш гваздзікі, цётачка Ганна? — зацікавіўся я.

— Ах, мая маладосць!.. Памятаю, іх дарылі мне афіцэры... Ну, усяго найлепшага! Да мяне дык не зойдзеш? — паўшчувала мяне цётка Ганна.

— Табе ўсё спадчыннікі мрояцца...

— Ну, з мяне ім, як з казла малака!

— Тады завітаю як-небудзь, — паабяцаў я і пачаў развітвацца з гаспадыняй.

— А ты сапраўды цікавы хлопец.

— Не вер першаму ўражанню, цётачка, — ператварыў я ў жарт камплімент, сэнсу якога тады яшчэ не зразумеў.

— Дык заходзь днямі, паглядзім, якім будзе другое.

Я паціснуў плячыма, наморшчыў лоб і прамовіў нерашуча:

— Добра, зазірну на мінутку...

— Ну як, атрымаў спадчыну? — запыталася ў мяне жонка па дарозе дадому.

— Не ўдалося цяпер, то будзе ў чацвер! — адказаў я і падміргнуў ёй.

Мой аптымізм грунтаваўся на рэальнай глебе. Гасцяванне прайшло нядрэнна. Адзінай памылкай быў торт. Але, па-першае, адкуль было ведаць, што старая так любіць кветкі, а па-другое, гэта была шчаслівая памыл-

ка, бо яна падказала новую ідэю. Цётачка Тасо прасіла заходзіць. Праз тры дні я выправіўся... Як вы мяркуеце, да каго? Не!

Я пайшоў да цёткі Ганны! Пайшоў з букетам пунсовых гваздзікоў. Пасля счакаў тыдзень: гэта быў тэрмін «распаўсюджвання інфармацыі». Нарэшце я адчуў, што глеба падрыхтавана, і рушыў да цётачкі Тасо. Маё спадзяванне спраўдзілася. Яна ўжо ведала пра візіт да цёткі Ганны і адгукнулася двухсэнсоўнай фразай:

— У наш час, мой мілы, патрэбны менавіта такія людзі, як ты.

Гутарка працякала ў гасцёўні, і я сядзеў у тым крэсле, дзе некалі заспеў Віктара Шэцырулі. Увесь вечар мы разважалі пра тэатр, пра людзей наогул і пра сваякоў у прыватнасці.

Праз два тыдні мы правялі яшчэ адну гутарку. Я працаваў сумленна і дробнымі падаперацыямі ўмацаваў свае пазіцыі.

Аднойчы я натрапіў у газеце на аб'яву пра гастролі французскага тэатра. То была надзвычайная нагода. Я паляцеў да цётачкі, а па дарозе склаў план. Трэба было праглядаць газету «між іншым» і «выпадкова» знайсці прыезд французаў. Але як выцягнуць газету, каб не выклікаць падазронасці?

На мой бок стала сама фартуна: у гасцёўні на стале ляжала «вячорка». Мы з цётачкай перакінуліся некалькімі фразамі. Я ляніва пацягнуўся да газеты, няспешна разгарнуў яе, крыху памарудзіў і здзіўлена ўсклікнуў:

— Да нас прыязджае тэатр з Парыжа! Шчаслівыя настаюць дзянёчкі.

— Вось каб яшчэ расстарацца білетаў...

— Ды што там білеты, дробязі!

— Тады дастань.

Цётачка зрабіла лёгкую паўзу, зірнула на мяне сумнымі вачыма і дадала:

— Дастань і аднясі Ганне.

Гэтыя словы далі мне падставу з усмешкай падняцца і абняць цётачку за плечы.

— Тая, што любіць кветкі, атрымала іх, а тая, што любіць тэатр, атрымае білеты. А як жа іначай? Ёй усё, а табе нічога?

Цётачка Тасо адвяла маю руку і пацікавілася:

— Можа, і ты пайшоў бы?

— Я-а? Не ведаю...

— Зразумела... З такой старою...

Пасля гэткай чуллівай размовы я мог бязбоязна паглядзець усе спектаклі разам з цётачкай, але калі на шалі стаіць пяціпакаёвая кватэра... Таму я пайшоў толькі на адзін спектакль. Адвёз цётачку Тасо дахаты на таксі, і мы да позняй ночы спрачаліся, ці дапушчальная мадэрнісцкая інтэрпрэтацыя класічнай драмы.

Першы этап аперацыі выявіў, што чалавек, узброены добрай тэорыяй і гнуткай метадалогіяй, здольны весці барацьбу за пяціпакаёвы палац. Цётачка Тасо ўжо не сумнявалася ў маёй бескарыслівасці. Акрамя таго, выкрышталізаваўся план далейшых дзеянняў, а Віктар Шэцырулі пацярпеў фіяска. Новы метад прайшоў іспыт паспяхова. Вялікую дапамогу аказалі мне выпадковасці (гастролі, газета на стале), але, як кажуць, лёс літасцівы да моцных. Поспех надаў мне ўпэўненасці, і на пачатку новага наступу я чуўся генералам, які назубок ведае моцныя і слабыя бакі праціўніка і ўпэўнена стаіць на чале войска.

Другі этап уяўляўся самым складаным, працяглым і стомным. Некаторыя палажэнні маёй праграмы састарэлі. Само па сабе адпала пытанне пра сваякоў. Я лёгка прыбраў з дарогі гэтыя нікчэмныя стварэнні і ганьбаванне іх не толькі не магло дапамагчы справе, але і абяцала адваротны эфект. Некаторыя пункты нечакана вылучыліся. Гэта тычылася паслуг, якія я, па зразумелых прычынах, ігнараваў раней. Цяпер я падрэзаў крылы сумненням цётачкі Тасо і выявіў свае гаспадарчыя таленты. Я папрацаваў як мае быць. У прыватнасці:

1) учыніў набег на трэст водаканалізацыі, які не прыслаў водаправодчыка па заяве цётачкі Тасо;

2) адрамантаваў сістэму ацяплення (за кошт цётачкі);

3) уставіў шыбу (за свой кошт);

4) адрамантаваў сапсаваны прас і халадзільнік (два разы);

5) настрашыў суседку, з якой цётачка канфліктавала з-за развешвання бялізны;

6) пазнаёміўся з суседам, што працаваў у гарсавеце.

Але асноўнай арэнай барацьбы стала тэатральнае мастацтва. Сюды я скіраваў усю сваю энергію. Я грунтоўна вывучыў гісторыю грузінскага тэатра і выпрацаваў уласны погляд на яго стан. Збольшага азнаёміўся з савецкай драматургіяй. Прачытаў некалькі п'ес прадстаўнікоў антытэатра і каласальную колькасць крытычнай літаратуры пра іх. Тэарэтычныя заняткі спалучаліся з практычнай дзейнасцю: ні ў адным тбіліскім тэатры не засталося пастаноўкі, якой бы я не бачыў.

Праўда, нашы з цётачкай абмеркаванні не вызначаліся планамернасцю. Мы спрачаліся пра тэатральнае мастацтва, пра які-небудзь пэўны тэатр, пра асобных артыстаў, пра тую ці іншую мізансцэну. Але галоўнай крыніцай рознагалоссяў былі шляхі агульнага развіцця тэатральнага мастацтва. Тут я схібіў, бо палічыў, што цётачка стане на абарону класічных прынцыпаў, і пачаў з нападкаў на іх. Я абвясціў сябе апалагетам антытэатра і заўзята кінуўся ў бойку. Аднак хутка выявілася, што я ламаюся ў адчыненыя дзверы. Цётачка стаяла на такіх ультрамадэрнісцкіх пазіцыях, што любы антытэатрал мог бы пазайздросціць!

Я паспешліва перагрупаваў сілы і стаў лагерам на пазіцыях рэалізму. Змагацца супраць незразумелага мадэрнізму было куды лягчэй. Я даводзіў, што галоўным былі, ёсць і застануцца ясны сюжэт, канкрэтны канфлікт, завершаныя вобразы, «жыццёвая праўда» і пэўная мэта, да якой сродкамі тэатральнай выразнасці падводзіцца глядач.

Цётачка Тасо называла ўсё гэта прымітыўнай ступенню мастацтва, дні якой злічаныя. Сучаснага гледача, сцвярджала яна, не цікавіць канкрэтная праблема. Мастацтва робіцца больш глыбокім і ўсеахопным. Знешнія памкненні чалавека аднабаковыя, больш таго — яны выпадковыя. Мастацтва дасягнула этапу развіцця, калі адхіляецца ўсё канкрэтнае, усё вонкавае, нават усё тыповае. Дзейнічаць павінны пачуцці, ідэі, метафары. На авансцэну павінен выступіць дух. І гэтак далей, і да таго падобнае!

Чытач, напэўна, засумаваў і стаміўся, а, значыць, можа ўявіць, як стаміўся і занудзіўся я. Чытачу прасцей — ён можа кінуць чытаць, а я мусіў да канца несці груз, які аказаўся зусім не лёгкі.

Што я прыдбаў і чаго пазбавіўся за гэты час? Я набыў немалыя веды ў галіне тэатра. Паставіць спектакль я, магчыма, не здолею, аднак някепскую кансультацыю магу даць любому рэжысёру. Многае пакажу з новага пункту гледжання, дам безліч карысных парад і падкіну не адну ідэю. Я авалодаў аратарскім майстэрствам. Пры неабходнасці прачытаю прыстойную лекцыю ў тэатральным інстытуце ці па лініі таварыства «Веды».

А страціў я аўтарытэт у свайго кіраўніцтва. Атрымаў дзве вусныя і адну пісьмовую вымовы за абыякавае стаўленне да службовых абавязкаў.

Згадваю тыя дні зараз і здзіўляюся, што здолеў давесці справу да канца. А тады, у запале барацьбы, я ні разу не апусціў штандар шукальніка спадчыны. Але калі хто-небудзь вырашыць скарыстаць мой метад, то павінен улічыць чыста псіхалагічны бок справы.

Памятаеце ўмоўныя рэфлексы, што праходзілі ў школе? Тут мае веды былі даволі павярхоўныя, але асноўную ідэю я памятаў. Я скарыстаў менавіта яе і надаў адносінам з цётачкай Тасо характар жорсткай сістэмы. Я наведваў яе тройчы на тыдзень. Па аўторках і чацвяргах — а шостай гадзіне вечара, па суботах — а першай гадзіне дня. Я імкнуўся як мага дакладней трымацца раскладу, каб выпрацаваць трывалы рэфлекс. І не памыліўся.

На другім этапе прывід поспеху замігцеў перада мной. Аднаго разу ў суботу я спазніўся на дваццаць мінут. Цётачка падалася мне занепакоенай і хутка прызналася, што не знаходзіла месца, калі не ўбачыла мяне своечасова. Магчыма, другі на маім месцы здаволіўся б дасягнутым і палічыў бы этап завершаным, але я люблю грунтоўнасць, а таму вырашыў яшчэ счакаць.

І вось мінуў цэлы год барацьбы і пакут. Цётачка Тасо не магла ўжо абыходзіцца без наведванняў старшага таваразнаўцы Сіко Мяладзе. Я зрабіўся для яе надобай. Як значок заслужанага настаўніка.

Апошні этап уяўляўся мне параўнальна лёгкім. А калі ўлічыць каласальны вопыт, дык можна было смела сцвярджаць, што я стаяў напярэдадні перамогі. Я стаміўся, знясілеў і, у рэшце рэшт, мне да смерці абрыдла важдацца з гэтай старадрэвінай, але я чакаў больш цяжкай барацьбы.

Трэці этап я распачаў сістэматычнымі спазненнямі. Спярша я пазніўся мінут на пятнаццаць, на паўгадзіны, на гадзіну. Пасля я замяніў спазненні пропускамі. Урэшце стаў прыходзіць адзін раз на тыдзень, а калі-нікалі зусім не прыходзіў. У тэатр мы хадзілі надзвычай рэдка. Пасярэдзіне абмеркавання спектакля я раптоўна падхопліваўся і знікаў па «неадкладнай» справе. Знайсці зачэпку было няцяжка: сям'я, работа. Зразумела, найбольш я напіраў на сям'ю. У тым сэнсе, што калі я на самой справе патрэбны, дык хай зробіць адпаведныя высновы.

Калі на першым этапе галоўным было пракласці шлях, на другім — гранічна напяць душэўныя і інтэлектуальныя сілы, дык лейтматывам апошняга было чаканне. І я чакаў. Рана ці позна цётачка павінна была капітуляваць.

### Кульмінацыя

Аднаго разу сабраў я манаткі і рушыў быў са службы дадому, як зазваніў тэлефон.

— Гэта я, цётачка Тасо, мой мілы. Ці не зойдзеш да мяне мінут на дзесяць?

Я вытрымаў паўзу, каб абазначыць ваганне, і спытаў:

— А што, справа тэрміновая?

— Мне думаецца, так...

— Добра, зайду.

Голас цётачкі Тасо падаўся мне надтрэснутым і ледзь-ледзь журботным. Такім голасам развітваюцца перад дальняй вандроўкай. Такім голасам дзяўчаты даюць згоду на прапанову аб шлюбе. Такім голасам гаворыць уладальнік пяціпакаёвай кватэры, калі вырашыў пакінуць яе ў спадчыну. Прызнацца, я расхваляваўся, хоць і рыхтаваўся да гэтага імгнення два гады. Але вонкава я быў абсалютна спакойны, калі заходзіў да цётачкі.

Яна ўсадзіла мяне ў крэсла, пільна паглядзела мне ў вочы і паспешліва загаварыла:

— Я вельмі прывыкла да цябе... Што, калі ты з сям'ёю перабярэшся да мяне? Надта ўжо вы цесніцеся ў цешчы, а ў мяне тут... сам ведаеш... Ну, што скажаш?

Божа мой, колькі патрэбна было вытрымкі, каб не перагнуць палку! Я кпліва ўхмыльнуўся:

— Не абмінула мяне ўсё-ткі роля Віктара Шэцырулі?

Нічога не адказала цётачка Тасо. Яна моўчкі і пакорліва пазірала на мяне. Я рашуча падняўся з крэсла, мужна вытрымаў яе позірк і бязлітасна схлусіў:

— Імя чэснага чалавека, цётачка, даражэй за ўсё на свеце!

У мяне заняло дух: ці не перабраў? Замест адказу цётачка нешта сунула мне ў кішэню пінжака. Я памацаў. Гэта быў ключ. Цётачка ўтрымала маю руку ў кішэні і дзіўна-пакрыўджана, амаль злосна, ускрікнула:

— Досыць!

Потым, заўважыўшы маю збянтэжанасць, яна ўсміхнулася і ціха дадала:

— Цяпер усё роўна нічога не зменіш...

### Развязка

Цётачцы Тасо ўдалося «ўламаць» мяне. Пакуль вырашаліся фармальнасці, я па-ранейшаму хадзіў у госці, але больш не мучыў кнопку званка. Я меў свой ключ!

Назаўсёды запомніўся мне адзін вечар. Было сцюдзёна. Скавытаў вятрыска. Я ледзьве павярнуў ключ змерзлай рукой. Зняў быў паліто і сабраўся павесіць, як з кухні пачуўся голас цётачкі Ганны:

— Звар'яцець можна!

Цётачка Тасо смяялася ў адказ.

— Не разумею, як ты магла!.. — наступала цётачка Ганна.

— Ёсць шмат чаго на свеце, мой Гарацый, што нат не сніцца нашым мудрацам!.. — спакойна адказала цётачка Тасо.

— Кінь гэтыя недарэчныя цытаты! — празвінеў голас цётачкі Ганны. — А ты не баішся, што ён выставіць цябе з уласнай кватэры?! Ці гэты смаркач лепшы за іншых?

— Не. Ён такі, як і ўсе астатнія.

— Дык растлумач, у чым справа?!

— Ты ведаеш маю прыхільнасць да тэатра...

— Да тэатра?!

— Ён іграў бліскуча, мая даражэнькая. Я пабачыла нямала выдатных артыстаў, але такога... Уяві сабе, за два гады ніводнага фальшу, ніводнага недакладнага жэс...

### Эпілог

Я выскачыў за дзверы і паляцеў уніз па лесвіцы. На двары было сцюдзёна. Скавытаў вятрыска...

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# СКАРБЫ ПЕРШАГА БЕЛАРУСКАГА

**На старонках «ЛіМа» зайшла размова аб культурных каштоўнасцях Беларусі, што знаходзяцца па-за яе межамі. Вельмі каштоўнымі для нашай культуры з'яўляюцца экспанаты былога Беларускага музея, якія ў большасці сваёй, як зазначае ў артыкуле «Вярнуць законнаму ўладальніку» («ЛіМ», 6.III.87) А. Мальдзіс, зараз знаходзяцца ў Літве. Музей аказаў вялікае ўздзеянне на фарміраванне светапогляду, нацыянальнай самасвядомасці, глыбокае асэнсаванне мінуўшчыны Беларусі цэлай плеяды выдатных дзеячаў беларускай культуры.**

**Улетку 1911 г. па запрашэнні рэдакцыі «Нашай Нівы» ў Беларусь прыязджае М. Багдановіч. Зборы беларускай старасветчыны захоўваліся тады ў адным памяшканні з рэдакцыяй «Нашай Нівы». На М. Багдановіча зрабілі глыбокае ўражанне рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а таксама слуцкія паясы.**

**Пад уражаннем убачанага М. Багдановіч стварае цыкл вершаў «Старая Беларусь», у які ўваходзяць такія шэдэўры, як «Слуцкія ткачыхі», «Перапісчык», «Летапісец» і верш «Кніга»:**

Псалтыр, пакрытую няжорсткай,
бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.

І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,
Што «кнігу гэтую раб Божы,
дзяк Гапон,
Дзеля душы спісаў у месце Воўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку
дзён».

**Нашы даследчыкі творчасці М. Багдановіча, здаецца, яшчэ не цікавіліся тым псалтыром, які натхніў паэта на гэты верш і які, вельмі верагодна, існуе ў рэальнасці.**

**У 1912 г. першы раз у «Нашу Ніву» прыехаў З. Бядуля. У адной са сваіх экспрэсій ён апісвае ўражанні, якія зрабілі на яго зборы беларускай старасветчыны.**

**На аснове збораў беларускай старасветчыны ў 1921 г. Беларускае навуковае таварыства заснавала Беларускі музей, які месціўся ў Базыліянскіх мурах, побач з Віленскай беларускай гімназіяй, як адзначае А. Ліс у кнізе «Вечны вандроўнік». Гэтая навукова-культурная ўстанова была адным з асяродкаў барацьбы беларускага народа супраць апалячвання на «крэсах усходніх». Зборы музея даказвалі, што беларусы маюць шматвяковую гісторыю, багатыя культурныя і гістарычныя здабыткі. Адкрыццё Беларускага музея высока ацаніў выдатны беларускі мастак і пісьменнік Язэп Драздовіч. Доўгія гады ён супрацоўнічаў з музеем, перадаваў яму свае карціны (напрыклад, «Усяслаў Чарадзей»), шматлікія малюнкі на гістарычныя тэмы, графічныя малюнкі старасвецкіх будоў на Беларусі. У музеі выстаўляліся выразаныя і аздобленыя Я. Драздовічам кіі. Са сваіх шматлікіх вандровак ён прыносіў у музей рэчы народнага побыту, запісваў фальклор. М. Танк так ацаніў значэнне творчасці Я. Драздовіча для Беларускага музея: «Замалёўкі яго народных тканін, дываноў, паясоў, зробленыя ў час яго бясконцых вандраванняў па Заходняй Беларусі і падараваныя музею, — рэдкі скарб, якому некалі і цаны не будзе».**

**Працаваў у Беларускім віленскім музеі і М. Танк. У «Лістках календара» ён згадвае: «У Беларускім музеі знайшоў вялізныя залежы матэрыялаў, надзвычай цікавых для пісьменніка, гісторыка».**

**Пасля вызвалення Вільні ад польскай акупацыі Беларускі музей наведалі Я. Купала і Я. Колас. Яны высока ацанілі яго вартасць для беларускага народа.**

**На сённяшні дзень, як піша А. Мальдзіс, «за межамі Беларусі застаецца асноўная і найбольш каштоўная частка экспанатаў Віленскага беларускага музея, сабранага дзякуючы намаганням інтэлігенцыі і матэрыяльнай падтрымцы шырокіх народных мас».**

**Здаецца, настаў той час, калі гістарычная і культурная спадчына беларускага народа павінна вярнуцца да іх збіральнікаў і сапраўдных уладальнікаў.**

**А. БЯЛЯЦКІ,**
**аспірант Інстытута літаратуры АН БССР.**

**ЖЫЦЦЁВЫ ТОНУС ВЁСКІ**

# ІНТЭЛІГЕНТ ІДЗЕ... МІМА КЛУБА

ГАРАЧЫМ выдаўся той дзянёк у дырэктара Новаграмыцкага Дома культуры Надзеі Дзмітрыеўны Грамыка. З раніцы пабегла ў Дом культуры, каб яшчэ раз праверыць, ці ўсё падрыхтавана да паездкі на раённы агляд-конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Здаецца, усё ў парадку. З транспартам таксама: кіраўніцтва саўгаса выдзеліла аўтобус, каб даставіць людзей у Ветку. Але ў прызначаны час да Дома культуры аўтобус не прыйшоў. Не прыехаў ён і па самадзейных артыстаў у Шэйку, Глыбаўку, Пацёсы...

Што за гэтым фактам? Абыякавае, безадказнае стаўленне шафёра саўгаса да сур'ёзнага даручэння кіраўніцтва гаспадаркі? Так. Але ж ці не праглядае за гэтай абыякавасцю радавога працаўніка раўнадушша да работы клубных устаноў з боку саміх кіраўнікоў гаспадаркі, яе спецыялістаў? Я маю на ўвазе вясковых інтэлігентаў. Іх адносіны—маўляў, клуб—гэта штосьці другараднае, неабавязковае—перадаліся і падначаленым. Калі ласка, яшчэ факты. У саўгасе многа спецыялістаў сельскай гаспадаркі з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Гэта работнікі агранамічнай, заавецэрынарнай, інжынерна-эканамічнай службаў, бухгалтэрыі і іншыя. Калі ў дзень выдачы зарплаты яны сустракаюцца ля касы—ці не ўзвод атрымліваецца. А, напрыклад (дрэнны прыклад), у мастацкай самадзейнасці ўдзельнічае толькі... тэхнічка канторы саўгаса Праскоўя Грамыка, маці пяцярых дзяцей. Інтэлігенты-спецыялісты саўгаса гадамі праходзяць міма Дома культуры. Цяжка нават сказаць, ці задумваецца хто-небудзь з іх аб гэтым.

Ніякага ўдзелу ў рабоце клубных устаноў, якія ёсць на тэрыторыі саўгаса «Грамыкі» і Новаграмыцкага сельскага Савета, не прымаюць педагогі мясцовай васьмігадовай школы, якіх — трынаццаць. Міма Дома культуры праходзяць служачыя іншых устаноў і арганізацый, у тым ліку выканкома сельскага Савета. У клубнай рабоце не ўдзельнічае ні адзін з 50-ці членаў і кандыдатаў у члены КПСС, ні адзін камсамолец. Такое рэдка сустрэнеш у наш час.

А між тым, у пастанове ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнні выкарыстання клубных устаноў і спартыўных збудаванняў» пярвічным партыйным арганізацыям указана на неабходнасць прыняць меры па паляпшэнні дзейнасці клубных устаноў; узмацніць ролю ў гэтым прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый; павысіць патрабавальнасць да кіруючых кадраў за арганізацыю змястоўнага адпачынку насельніцтва, асабісты ўдзел у культурна-асветнай і фізкультурна-масавай рабоце.

І сапраўды, важкую патрэбу маюць у іх дапамозе культасветработнікі.

У тым жа Новаграмыцкім СДК працуе адна Н. Грамыка. Штатным раскладам прадугледжаны яшчэ і мастацкі кіраўнік. Але дзе ўзяць яго? Вось і даводзіцца дырэктару цягнуць лямку за двух. І цягне. Вядзе чатыры творчыя калектывы — харавы, драматычны, гурток мастацкага чытання, узначальвае агітбрыгаду, словам, спрабуе неяк ажывіць духоўнае жыццё сяла.

Праўда, ёсць у дырэктара ДК памочнікі ў Новых Грамыках. Гэта (звярніце ўвагу—хто!) памянёная ўжо тэхнічка саўгаса П. Грамыка, нянечка саўгаснага дзіцячага сада-ясляў Л. Цылько, пенсіянерка Ф. Грамыка. Аматарскія аб'яднанні «Рыбалоў» і «Ліра» адпаведна ўзначальваюць саўгасны пастух М. Грамыка і бібліятэкар Т. Грамыка. Самадзейнымі артыстамі з'яўляюцца ў асноўным пенсіянеры, аб якіх з павагай можна сказаць: людзі старога гарту.

Хочацца спытаць у атрада інтэлігенцыі Новых Грамык, чаму пры Доме культуры няма тэхнічных, агранамічных, заатэхнічных, іншых гурткоў, аматарскіх аб'яднанняў, якія б узначалілі спецыялісты сельскай гаспадаркі, педагогі, іншыя прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі? Мо варта сабрацца разам, пагаварыць, вырашыць гэтае пытанне? Тады і Грыша-шафёр, можа, зменіць сваю пазіцыю.

Не намнога лепшыя справы ў вёсцы Янова—цэнтры аднайменнага саўгаса. Тут таксама ёсць сельскі Дом культуры. Створаны культурны комплекс. Але культурнае жыццё сяла не вызначаецца высокім зместам. Прычына тая ж—пасіўнасць інтэлігенцыі. Са слоў дырэктара Дома культуры Станіслава Друзіка, у культурным жыцці сяла ўдзельнічаюць толькі два педагогі—Т. Ключынская і З. Баранава, хаця калектыў школы ў асноўным маладзёжны. Саўгасныя кіраўнікі і спецыялісты таксама не праяўляюць энтузіязму да культасветработы. Толькі нядаўна работнікі ДК і культурнага комплексу нарэшце дамовіліся з саўгасам аб тым, каб інжынер гаспадаркі В. Мельнікаў вёў клуб «Малады механізатар». На гэтым удзел інтэлігенцыі вёскі Янова ў рабоце Дома культуры і культурнага комплексу заканчваецца.

Добры харавы калектыў быў у Неглюбскім Доме культуры. У ім спявалі многія педагогі мясцовай школы. Акампаніраваў хору настаўнік В. Савасцёнак. Але ў снежні мінулага года хор спыніў сваю дзейнасць, бо не прадугледжана аплата за работу акампаніятарам. Дык няўжо харавы калектыў у Неглюбцы так і не адродзіцца, а чатырнаццаці педагогам—яго былым удзельнікам—толькі і застаецца цешыць сябе ўспамінамі пра тое, як цікава ім жылося і адпачывалася?

Паездка па клубных установах Веткаўскага раёна навеяла адзін невясёлы ўспамін аб нядаўнім мінулым, калі я працавала ў навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы ўпраўлення культуры аблвыканкома. У адным з раёнаў вобласці я пацікавілася ў дырэктаркі сярэдняй школы аб удзеле ў рабоце сельскага Дома культуры педагогаў, яе асабіста.

— Ці ўдзельнічаюць педагогі і асабіста я ў рабоце клуба, у яго самадзейнасці?—перапытала яна і адказала: — Не, не ўдзельнічаем. Ведаеце, як у нас на вёсцы? Работа, сям'я, муж, дзеці, гаспадарка. Няма часу, ды і не плацяць за гэта...

Вядома, такія меркантыльныя інтарэсы маюць прычыны. І галоўная, на маю думку,—у недастатковай увазе да жыцця сяла, недаацэнцы чалавечага фактару, у тым ліку—запушчанасці работы з інтэлігенцыяй. Ці не час нам вызваляцца ад грузу мінулага, выходзіць на дарогу абнаўлення ўсіх сфер нашага жыцця, у тым ліку жыцця вёскі? Без актыўнага ўдзелу інтэлігенцыі з гэтым абнаўленнем нам не справіцца. Ці варта нагадваць, што ва ўсе часы лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі ішлі «ў народ»? Вясковыя педагогі заўсёды былі арганізатарамі і актыўнымі ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці, акцёрамі, нават суфлёрамі ў драматычных гуртках. Ёсць жа вёскі на Гомельшчыне, дзе гэтыя добрыя традыцыі працягваюцца, развіваюцца і сёння. Напрыклад, расказвалі мне ў аддзеле культуры Веткаўскага райвыканкома пра Старасельскі Дом культуры, пра актыўны ўдзел у яго рабоце інтэлігенцыі. І гэта ў добрым сэнсе адбіваецца не толькі на культурным жыцці вёск але і на вытворчых паказчыках працоўнага калектыву.

Добры прыклад, варты пераймання для кожнага вясковага інтэлігента.

**Л. МЕЛЬНІКАВА,**
**журналіст.**

г. Гомель.

**НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ**

## СУСТРЭЧА З ТАЛЕНТАМ

### БТ: разам ля экрана

**Жанр тэлевізійнага партрэта—пісьменніка, кампазітара, акцёра—не новы. Амаль штомесяц, адзначаючы юбілейную дату ў жыцці таго ці іншага творцы, тэлебачанне запрашае нас на сустрэчу з талентам.**

**У канцы лета — на пачатку восені грамадскасць рэспублікі цёпла віншавала з юбілеямі Пімена Панчанку і Максіма Танка, Янку Брыля і Алеся Адамовіча... Кожнаму з іх была прысвечана тэлеперадача. Надзённа, душэўна і шчыра прагучаў маналог П. Панчанкі пра час і пра сябе... Запомніліся словы, сказаныя пра Івана Антонавіча Брыля яго аднавяскоўцам, сябрам па партызанскім атрадзе. Разам са «жменяй сонечных промняў», прачытаных у перадачы Ф. Янкоўскім, яны стварылі вобраз мудрага і дэмакратычнага чалавека-творцы... Пра паэтаў найбольш выразна гаварылі іх вершы: тут, як кажуць, ні адняць, ні дадаць...**

**Напэўна, многія пагодзяцца са мной, што самай адметнай у гэтай серыі творчых партрэтаў атрымалася перадача «А. Адамовіч. Каардынаты душы». Думаецца, яна б не згубілася і на ўсесаюзным экране, паказаная ў «залаты час».**

**Перадача не вылучалася аніякімі фармальнымі навацыямі: пяцёра мужчын (у тым ліку і сам юбіляр) у кадры разважалі—пра талент і творчасць, пра асобу мастака ў сучасным свеце. В. Быкаў, крытыкі І. Дзядкоў і Ю. Каракін, мастацтвазнавец У. Бойка і кінарэжысёр Э. Клімаў у сваёй гутарцы пазбягалі высокіх слоў і ружовых эпітэтаў. Гаворка ішла канкрэтная, насычаная і напружаная—ці не гэта трымала нас ля экрана? Скупымі і выразнымі штрыхамі нашы субяседнікі намалявалі вобраз адметнага пісьменніка і апантанага, часам вельмі «нязручнага» чалавека...**

**І ў які раз пераконваешся: няма нічога цікавейшага на тэлеэкране, чым разумны і адкрыты субяседнік. А калі іх цэлае сузор'е—узнікае адчуванне сапраўднага свята. За што і хочацца сказаць дзякуй стваральнікам перадачы—В. Вярбоўскай, У. Бойку, С. Равянкову і В. Іпатавай.**

**Р. БАКУНОВІЧ,**
**наш аглядальнік.**

# Конкурс прадоўжаны

Абвешчаны вынікі адкрытага рэспубліканскага конкурсу на распрацоўку эскізных прапаноў па стварэнні твораў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва для Палаца культуры рэспублікі. Члены журы, якія прымалі ўдзел у абмеркаванні конкурсных прапаноў, канстатавалі, што ніводны з шасці прадстаўленых праектаў не можа прэтэндаваць на вышэйшую ўзнагароду і, адпаведна, не можа быць рэкамендаваны да рэалізацыі. Было вырашана прысудзіць дзве заахвочвальныя прэміі. Пасля таго, як распячаталі канверты, у якіх знаходзілася расшыфроўка дэвізаў, высветлілася, што абедзве прэміі атрымаў адзін творчы калектыў у складзе мастакоў У. Папсуева, Я. Шыбнёва і архітэктара Л. Здановіча.

Трэба сказаць, што і члены журы, і ўдзельнікі грамадскага абмеркавання праектаў, якія былі выстаўлены ў фае канферэнц-залы інстытута «Белдзяржпраект», былі азадачаны нізкай актыўнасцю, безыніцыятыўнасцю творчых секцый Саюза мастакоў БССР, невысокай якасцю праектаў, адсутнасцю наватарскіх прапаноў. У крытычных выступленнях удзельнікаў грамадскага абмеркавання неаднаразова паўтаралася думка: конкурс як падзея грамадскага і культурнага жыцця — не адбыўся. Гэта прымусіла задумацца арганізатараў — а ці ўсё было зроблена для папулярызацыі ідэі конкурсу, для прыцягнення да ўдзелу ў ім вядучых майстроў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, скульптуры і архітэктуры, творчай моладзі? Рабочае пасяджэнне журы ператварылася ў шчыры абмен думкамі, у працэсе якога было выказана нямала канкрэтных прапаноў па далейшай рабоце над рэалізацыяй задумы генеральнага рашэння інтэр'ераў і фасадаў Палаца.

У выступленнях першага намесніка міністра культуры БССР У. Гілепа, народных мастакоў БССР А. Анікейчыка і Л. Шчамялёва, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Г. Вашчанкі, галоўнага рэдактара «ЛіМа» А. Вярцінскага, намесніка старшыні Дзяржбуда БССР Л. Маскалевіча, заслужанага архітэктара БССР С. Філімонава, мастацтвазнаўцы Б. Крэпака адзначалася, што мэта манументальнага мастацтва — не ўпрыгожваць пабудову, не хаваць яе недахопы, а наадварот, узмацняць гучанне і ўздзеянне аб'ёмных архітэктурных форм, быць іх неад'емнай часткай; што інтэр'еры Палаца павінны быць аздоблены творамі выяўленчага мастацтва, якія б нагадвалі моладзі аб багатай гісторыі і дасягненнях культуры беларускага народа; што сінтэзу мастацтваў не можа быць без актыўнага ўдзелу ў сумеснай рабоце з мастакамі архітэктараў, без аўтарскіх кансультацый праекціроўшчыкаў.

З мэтай працягу творчага спаборніцтва мастакоў, архітэктараў і дызайнераў у пошуку арыгінальных эскізных прапаноў інтэр'ераў і манументальна-дэкаратыўных кампазіцый, прадугледжаных генеральным рашэннем Палаца культуры рэспублікі, іх абмеркавання шырокай грамадскасцю, кампетэнтнымі спецыялістамі калегія Міністэрства культуры БССР, прэзідыум праўлення Саюза мастакоў БССР пастанавілі: правесці ў снежні 1987 г. выстаўку-конкурс. У экспазіцыі яе прадугледзець паказ эскізных рашэнняў інтэр'ераў Палаца, манументальна-дэкаратыўных і скульптурных кампазіцый, што плануюцца зацверджаным генеральным рашэннем, а таксама варыянтаў генеральнай заслоны вялікай залы, іншых кампанентаў Палаца культуры рэспублікі.

Распрацавана палажэнне аб выстаўцы-конкурсе, да ўдзелу ў якой запрашаюцца прафесійныя мастакі, дызайнеры, архітэктары, якія, відаць, аб'ядноўваюцца ў творчыя калектывы. Тыя, хто жадае прыняць удзел у конкурсе, могуць атрымаць праектныя архітэктурныя матэрыялы ў дырэкцыі інстытута «Белдзяржпраект».

Лепшыя творы з выстаўкі-конкурсу будуць набыты Міністэрствам культуры БССР і Саюзам мастакоў рэспублікі і рэкамендаваны да рэалізацыі.

**Л. ДЗЯГІЛЕЎ,**
**дырэктар Дырэкцыі мастацкіх выставак Міністэрства культуры БССР.**

**«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКІ ВЫНІК?**

# «ПРЫХОДЗІШ У МУЗЕЙ...»

**Артыкул з такой назвай, прысвечаны пытанням перабудовы экспазіцыі ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, быў надрукаваны ў «ЛіМе» 7 жніўня г. г. Неўзабаве рэдакцыя атрымала рэагаванні ад намесніка начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкома В. Губіча і дырэктара музея А. Салаўёвай.**

**«Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкома лічыць, што артыкул правільна ўздымае пытанні будаўніцтва музейных экспазіцый, аператыўнага адлюстравання ў іх падзей, фактаў з сучаснага пункту гледжання,—піша В. Губіч.—Сапраўды, раздзел экспазіцыі «Край у эпоху феадалізму» ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі патрабуе перабудовы. У сувязі з гэтым праведзена рэвізія гэтай экспазіцыі з удзелам вучоных-гісторыкаў М. Ткачова і А. Трусава. На падставе прапаноў камісіі вядзецца замена шэрагу тэкстаў, уводзяцца новыя экспанаты, мяняюцца этыкеткі. У цяперашні час у цэлым на ўсім комплексе Замкавай гары, у тым ліку і ў будынку музея, вядуцца пошукавыя работы ў сувязі з будучай рэстаўрацыяй будынка. Таму кардынальная перабудова гэтага раздзелу ў бліжэйшы час немэтазгодна. У будучым прадстаіць перабудова ўсёй экспазіцыі музея...**

**...У будучым на Замкавай гары, дзе размешчаны музей, плануецца стварыць музейны комплекс, які ўключае аднаўлены палац XIV—XVI стст., сцены, умацаванні, іншыя аб'екты...»**

**Дырэкцыя музея таксама прызнае крытыку правільнай. У лісце А. Салаўёвай адзначаецца, што «ў сувязі з рэстаўрацыяй і капітальным рамонтам будынка музея, якія пачнуцца ў хуткім часе, немэтазгодна скарыстоўваць сродкі на перабудову экспазіцыі. Таму планам работы музея на 1987 год прадугледжана замена састарэлага тэкставага матэрыялу, анатацый і этыкетажу, у адпаведнасці з патрабаваннем часу, а таксама ўнясенне ў экспазіцыю новых рэчавых помнікаў. Частка гэтай работы ўжо выканана. Распрацоўваецца новы тэматыка-экспазіцыйны план раздзела «Край у эпоху феадалізму».**

**У той жа час А. Салаўёва спрабуе і аспрэчваць крытычныя меркаванні нашых чытачоў пра стан раздзела экспазіцыі «Край у эпоху феадалізму», гаворачы пры гэтым чамусьці пра іншыя раздзелы.**

**Увогуле ж афіцыйныя адказы даюць надзею на тое, што справа нарэшце зрушыцца з мёртвай кропкі. Аднак рэдакцыя хацела б назваць сваім чытачам канкрэтныя тэрміны стварэння новай экспазіцыі. Бо абяцанне сур'ёзнай перабудовы «ў будучым» зноў пераносіць рашэнне праблемы ў неакрэслены час.**

**АДДЗЕЛ КУЛЬТУРЫ І ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА.**

**ВІНШУЕМ**

# Яўгену РАДКЕВІЧУ—50

3 кастрычніка спаўняецца 50 год пісьменніку Яўгену Радкевічу. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Яўген Рыгоравіч!**

**Прыміце нашы шчырыя віншаванні ў сувязі з Вашым 50-гадовым юбілеем.**

**Вы, вядомы публіцыст і празаік, прыйшлі ў літаратуру, атрымаўшы працоўную загартоўку. У юнацкія гады пасля сканчэння Усць-Каменагорскага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі былі трактарыстам і камбайнерам на цалінных землях, пасля працавалі старшым піянерважатым Парэцкага дзіцячага дома на Гродзеншчыне. Будучы студэнтам журфака Белдзяржуніверсітэта імя Леніна, пачалі супрацоўнічаць на Беларускім радыё, дзе выраслі ад няштатнага супрацоўніка да загадчыка рэдакцыі маладзёжнага вяшчання. Цяпер, больш за пятнаццаць гадоў, аддаеце свае сілы і веды будучым журналістам, працуючы на факультэце журналістыкі універсітэта. Вы — загадчык кафедры тэлебачання і радыёвяшчання гэтага факультэта, кандыдат навук.**

**Як пісьменніку шмат дала Вам журналістыка, наша рэчаіснасць, малады сучаснік. У многіх сваіх апавяданнях, у аповесцях «Буяла лета», «Выпадак на выратавальнай станцыі», «Месяц межань», «Антаніна», раманах «Горны мёд», «Сутокі дзён» і іншых Вы паказваеце пошукі маладымі свайго месца ў жыцці, не спрошчваеце вострых праблем, дэючы прынцыповую партыйную ацэнку негатыўным з'явам. Многім Вашым творам характэрна вострая публіцыстычнасць, драматычная напружанасць. Яны напісаны добрай мовай. Вы — адзін з нямногіх, хто паспяхова звяртаецца да тэматыкі рабочага класа, тэхнічнай інтэлігенцыі.**

**Вашаму пяру належыць таксама аповесць «Пешшу праз Галактыку», адрасаваная юнаму чытачу. У свой час гэта кніга на рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор для дзяцей і юнацтва была адзначана другой прэміяй.**

**Вы прымаеце актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, прапагандуеце лепшыя набыткі беларускай літаратуры сярод чытачоў.**

**Жадаем Вам, дарагі Яўген Рыгоравіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых цікавых твораў».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

## ЗА АБНАЎЛЕННЕ КРЫТЫЧНАЙ ДУМКІ

**30 верасня завяршыў работу Усесаюзны пленум Камісіі па крытыцы, мастацтвазнаўстве і друку Саюза мастакоў СССР, які тры дні працаваў у Мінску.**

**На парадку дня пленума стаяла пытанне аб перабудове ў галіне выяўленчага мастацтва і мастацкай крытыкі. У дакладзе старшыні камісіі, сакратара праўлення Саюза мастакоў СССР У. Зіменкі, выступленнях А. Марозава, А. Кантара, Д. Сараб'янава (Масква), А. Федарука (Кіеў), Г. Вайткунаса (Вільнюс), Р. Такташа (Ташкент), Г. Масхарашвілі (Тбілісі), С. Кумаравай (Алма-Ата), мінчан Б. Крэпака, А. Сурскага, У. Бойкі, Э. Пугачовай, І. Назімавай і іншых прагучала занепакоенасць станам крытычнай думкі.**

**Удзельнікі пленума пазнаёміліся з экспазіцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, Музея старажытнабеларускага мастацтва АН БССР, рэспубліканскай выстаўкі «Краіна Саветаў», прысвечанай 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, наведалі майстэрні беларускіх мастакоў, пабывалі ў Нясвіжы і Міры.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Р. Л. Бузук, сакратар Мінскага ГК КПБ П. К. Краўчанка, першы намеснік міністра культуры БССР У. А. Гілеп. старшыня Дзяржкамвыда БССР М. І. Дзялец.**

**1 кастрычніка ў аддзеле культуры ЦК КПБ адбылася сустрэча з удзельнікамі пленума.**

**Матэрыялы з пленума будуць апублікаваны.**

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

# ПАЧУЎ АД СУСЕДА...

**У жніўні мне закарцела наведаць роднае гняздо. Сабраўшы сякія-такія пажыткі, выйшаў за пост ДАІ, што на Лагойскім тракце, каб без прыпынкаў і перасадак трапіць у Бягомль. Неўзабаве да сябе ў спадарожнікі ўзяў мяне ленінградскі шафёр, які прывозіў у Мінск рыбу, а ў Ленінград вязе нашы «Гарызонты». За гаворкаю і не прыкмецілі, як апынуліся ў Бягомлі. Падзякаваўшы і развітаўшыся, сеў я на рэйсавы аўтобус. У Шклянцах выйшаў з аўтобуса, скінуў чаравікі (бо прайшоў дробны дожджык) і пайшоў дадому. Вось ён, родны лясок, а за ім і поле. Нешта заварушылася ў душы, падкацілася камяком к горлу, быццам лёгкая павуцінка кранула вока. А, здагадаўся я, дык гэта ж урачысты боль ад сустрэчы з роднай вёскаю, ад якой наяве засталося толькі дзевяць хат, восем пустых, а адна—з гаспадарамі Сашам Акулічам ды яго маці Гіленай. Уся другая палова дня прайшла ў гаворцы з імі і таптанні па кожнай колішняй валоцы, дзе раней былі сялібы, двары, пачынаючы з часоў прыгону і канчаючы сярэдзінай XX стагоддзя. Раніцай наступнага дня ўзяў ножык і кашолку і пабег у бярэзнік, які ў ранейшыя гады цешыў мяне і адорваў і баравікамі, і падасінавікамі, і лісічкамі. Сёлета ён сустрэў мяне негасцінна, і я ні з чым пайшоў дахаты. Іду і чую, як у вёсцы нешта стукае, нехта моцна гаворыць. Падышоў і бачу, што на хаце побач з маёй ужо няма страхі. Гэта Цімахвей Сушко, што жыве ў Бягомлі, з сынам, зяцем і ўнукам раскідае цесцеву хату. Пытаю: «Нашто?» Кажа: «На дровы». Стаю каля разварочаных сцен і нагою вагаю бэльку. Ка мне падыходзіць Цімахвей, хваліць моц старадаўняй сасны, якая сто гадоў таму назад была ператворана ў гэтую бэльку, і заўважаем, што якраз пасярод бэлькі, на тым баку, які быў знізу, выбрана пілой і сякераю неглыбокае—сантыметры тры — гняздо. Цімахвей тут і кажа: «Глянь, атрам некалі ляжаў». Я адразу здагадаўся, што гэта такое, але ўпершыню пачуў гэтае слова. Яно мне дужа спадабалася, і я некальні разоў паўтараў яго і ад прыемнасці гучання, і каб адкласці ў памяці. Калі хата шырокая, то каб не прагіналіся пасярод бэлькі пад цяжарам столі і ўцяплення, якое на ёй ляжала, пад іх у перпендыкулярным напрамку клалі яшчэ адну бэльку, апору тых, на якіх трымаецца столь. Вось гэта бэлька і называецца ў яго родных Асавах атрамам. А ў мяне на радзіме за ёй такой назвы не было, проста бэлька. На ёй у сялянскай сям'і часта захоўваўся няхітры скарб: то ручайка пянькі ці лёну, то трапло ці гэблік, то недаплецены лапаць, то замасленая шматлікімі рабочымі рукамі і зачытаная да дзіран кніга. А Цімахвей яшчэ кажа: «Бывала, калі к нам у Асавы прыйдуць на танцы лусцяне (з Лусціч), ды калі якога-небудзь хлопца забярэ форс, то ён у час танца падскоквае так высока, што дастае да атрама і моцна пляскае па ім рукамі. Гэта, каб здзівіць нашых асаўскіх дзяўчат сваім спрытам»...**

**На гэтым развітаўся я з маім добрым сябрам і паехаў у Мінск. У аўтобусе зноў разгаварыўся з суседам, выйшаў і спахапіўся: забыўся тое Цімахвеева слова. Прыйшоў дадому і кажу старэйшаму сыну. Ён і раіць: «Пішы Цімахвею пісьмо, каб прыслаў тое слова». Я так і зрабіў. Але заўтра яно нечакана само прыйшло мне на памяць. Я хуценька яго запісаў і к сыну: «Саша, а паглядзі-тка ты ў слоўніку, ці ёсць такое слова». А ён адказвае, што «атрамант» ёсць, а «атрам»—няма, што гэту знаходку патрэбна перадаць прафесару Жураўскаму з яго пабрацімамі па працы.**

**І я паслухаўся свайго старэйшага сына і напісаў вам гэты ліст.**

**В. СКАРАХОД.**

г. Мінск.

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

# Школа і роднае слова

**10 верасня ў Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся «круглы стол» на тэму «Роля літаратуры і мовы ў ідэйна-эстэтычным і маральным выхаванні школьнікаў». Абмяркоўвалася пытанне, якое хвалюе шырокія колы грамадскасці. Варта прыгадаць нядаўні пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, шэраг артыкулаў у рэспубліканскім друку. Праблема «мова—школа—культура» закранalася на сустрэчах кіраўнікоў партыі і ўрада рэспублікі з прадстаўнікамі творчых саюзаў. Заклапочанасць становішчам асветы выказваюць не толькі творчыя работнікі; у Саюз пісьменнікаў, у рэдакцыі газет і ва ўстановы прыходзіць шмат пісьмаў ад людзей рознага занятку, якія ўсхвалявана пішуць пра неабходнасць паляпшэння справы з навучаннем на роднай мове ў школе, прыводзяць канкрэтныя прыклады парушэння Закона аб асвеце, аб самаўладным пераводзе школ на рускую мову навучання, аб фактах нежадання работнікаў райана ствараць магчымасці для навучання на роднай мове. Яшчэ адной падставай для «круглага стала» стаў удзел пісьменнікаў у жнівеньскіх настаўніцкіх канферэнцыях. Такі шырокі і прамы кантакт пісьменніцкай арганізацыі з настаўнікамі, узаемны абмен думкамі, меркаваннямі, інфармацыяй меў месца ўпершыню па ініцыятыве сакратарыята СП Беларусі і з ведама Міністэрства асветы БССР.**

**Мэтай «круглага стала» быў аналіз стану выкладання роднай мовы і літаратуры ў школах, забяспечанасці школьных бібліятэк беларускай кнігай, а таксама абмеркаванне прапаноў па паляпшэнні выкладання гуманітарных дысцыплін у школах рэспублікі.**

**У пасяджэнні прынялі ўдзел старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Максім ТАНК, сакратары праўлення СП БССР, пісьменнікі, якія выязджалі ў раёны, намеснік міністра асветы БССР Г. А. БУТРЫМ, супрацоўнікі Міністэрства асветы, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Мінскага педагагічнага інстытута, супрацоўнікі Інстытута ўдасканалення настаўнікаў, навукоўцы з Акадэміі навук БССР, члены іншых творчых саюзаў. На пасяджэнні выступіў інструктар аддзела культуры ЦК КПБ У. Б. НАРКЕВІЧ.**

«Круглы стол» у Саюзе пісьменнікаў БССР

Адкрываючы «круглы стол», **першы сакратар праўлення СП БССР Ніл ГІЛЕВІЧ** падкрэсліў, што апошнім часам на старонках і рэспубліканскага, і асабліва ўсесаюзнага друку ў многіх артыкулах выказваюцца думкі аб тым, якое месца павінна займаць мова і літаратура ў школе, як вырашаць тыя задачы, што стаяць сёння перад настаўніцтвам. Прафесія настаўнік-славеснік — цалкам ідэалагічная. Настаўнік-славеснік не проста дае веды, ён займаецца душой дзіцяці, гэта значыць душой будучага грамадства. Ці будуць выходзіць са школы дыпламаваныя невукі, хамы і цынікі, ці — сапраўды культурныя, маральна выхаваныя людзі, у першую чаргу залежыць ад таго, якое месца ў школе займаюць мова і літаратура. Спашлюся, гаварыў Н. Гілевіч, на словы В. А. Сухамлінскага і гэтым адкажу тым, хто недаацэньвае ролю настаўніка-славесніка ў школе. Ён пісаў: «Якая гэта вялікая памылка, як многа шкоды яна можа прынесці. Выкладанне мовы — вельмі трудная, складаная і адказная справа. І калі мы хочам, каб школа спраўлялася з задачамі, якія цяпер ускладаюцца на яе, выкладчыкамі гэтага прадмета павінны быць людзі самыя здольныя, самыя таленавітыя. Таму што працэс авалодання мовай — гэта не толькі і не проста перадача ведаў, умення, навыкаў. Гэта перш за ўсё выхаванне. Выхаванне душы, выхаванне розуму, фарміраванне ладу думкі, карпатлівая разьба і лепка найтанчэйшых рыс аблічча чалавека...»

У нас на Беларусі ёсць свая спецыфіка ў гэтым пытанні, з гэтай праблемай. Сутнасць яе — у рэзкім звужэнні сферы карыстання беларускай мовай у грамадстве. Адсюль, напэўна, і тая апатыя, якая заўважаецца ў асяроддзі настаўніцтва, літаратараў, культработнікаў. Можна сказаць, такая ж апатыя, як у дачыненні да «неперспектыўных» вёсак — тых, якія мала цікавілі кіраўнікоў, бо, маўляў, усё роўна адміраюць. Такі настрой у дачыненні да мовы не можа не засмучаць, таму што адсюль можна рабіць толькі невясёлыя і несуцяшальныя вывады. Беларускае настаўніцтва таксама выказвае сваю заклапочанасць. Спашлюся на артыкул настаўніцы са Слуцка З. П. Сямашка (гл. «Политический собеседник», другі нумар за гэты год), дзе яна піша: «Трывожыць, што ў апошні час змяншаецца роля беларускай мовы і літаратуры. За 34 урокі, якія адводзяцца ў год беларускай літаратуры ў 5—7-х класах, немагчыма навучыць выразнаму чытанню, дапамагчы вучням адчуць прыгажосць роднага слова. Зараз разглядаецца пытанне аб адкрыцці ў рэспубліцы класаў і школ з выкладаннем прадметаў на беларускай мове. Але для таго, каб гэта мера сябе апраўдала, неабходна перш за ўсё падняць аўтарытэт мовы і літаратуры ў звычайных школах, павялічыць колькасць гадзін на іх вывучэнне».

Вось адно са сведчанняў таго, наколькі заклапочана названай праблемай настаўніцтва. А падобных сведчанняў вельмі шмат.

**Іван ШАМЯКІН, народны пісьменнік Беларусі.** Мы не можам спадзявацца толькі на настаўніка мовы і літаратуры. Настаўнік хіміі, матэматыкі, фізікі, можа, нават больш зробіць, чым іншы настаўнік мовы. У сувязі з гэтым мы павінны пачаць работу па падрыхтоўцы адпаведных настаўнікаў. Лёд крануўся, і тое пачынанне, якое ўводзіць Беларускі дзяржаўны універсітэт—чытаць курс беларускай гісторыі і літаратуры, — я думаю, падтрымаюць і іншыя ВНУ. Маецца на ўвазе чытаць такі курс на ўсіх факультэтах. Але ж трэба, каб пашырылі кафедру беларускай літаратуры адзінак на 6—10. Ва ўсіх універсітэтах і педагагічных інстытутах рэспублікі.

Думаю, што многія беды нашых школ, асабліва гарадскіх, ідуць ад таго, што школы сталі вельмі вялікія, — па дзве тысячы вучняў. Тут пайшлі па лініі эканоміі сродкаў, але якімі духоўнымі стратамі абыходзіцца гэтая эканомія потым? Асабліва ва ўмовах горада. Адсюль і тыя негатыўныя з'явы ў асяроддзі моладзі, пра якія сёння пішуць у нашым друку.

**Барыс САЧАНКА, старшыня камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі па выкладанні мовы і літаратуры ў школе.** Усяго ў нас у рэспубліцы 3988 школ. З беларускай мовай навучання— 1706, у якіх займаецца 326,8 тысячы вучняў. У рускамоўнай школе вучыцца 1 мільён 997 тысяч вучняў. У 1969 годзе беларускую мову па рэспубліцы не вывучалі 30 працэнтаў вучняў, у Мінску — 90 працэнтаў. Сёння справа быццам бы папраўлена. Па рэспубліцы беларускую мову не вывучаюць 3 працэнты вучняў, у Мінску — 8,5 працэнта. Мова і літаратура ў школе — гэта не тыя прадметы, якія можна здаць і забыць, яны робяць з чалавека Чалавека. Мяне здзіўляе, што на настаўніцкіх нарадах было мала гаворкі аб тым, як выкладаецца мова і літаратура. Безумоўна, вельмі многа ёсць у школе і іншых праблем. Напрыклад, 53 працэнты вучняў, якія заканчваюць нашы школы, — хворыя людзі. Заплюшчваць на гэта вочы нельга. Што датычыцца мовы і літаратуры, то тут увага і з боку Міністэрства асветы, аблана, райана, райкомаў павінна быць самая

(Заканчэнне на стар. 14—15).

**ВІНШУЕМ**

# «ПАТРЭБНЫ ХАРАСТВО І ПРАЎДА...»

**Заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Андрэю МДЗІВАНІ—50**



**Якім рабіць артыкул да 50-годдзя вядомага кампазітара! Пералічваць творы, якіх у яго напісана багата! Падводзіць вынікі творчай працы — а яна ж зараз у самым разгары!**

**Мне падалося, больш цікавая для чытачоў будзе гутарка з ім — чалавекам няўрымслівым і глыбокім, апантаным творчасцю, неабыякавым да з'яў жыцця і мастацтва.**

**— Андрэй Юр'евіч, хацелася б пагаварыць *аб праблемах*, якія хвалююць вас як мастака і чалавека. І паколькі акурат у гэтыя дні—ваш юбілей, ці можаце вы, азірнуўшыся на свой творчы шлях (дарэчы, не такі ўжо і вялікі—усяго 19 гадоў), сказаць, ці ўсё ўдалося зрабіць так, як хацелася, паспрабаваць неяк больш-менш аб'ектыўна ацаніць сябе?**

— Ацэньваць сябе аб'ектыўна даволі складана, таму што мы ўсе такія самалюбівыя! Але, трэба сказаць, ёсць у мяне мерка крытычных адносін да сваёй справы, і з цягам часу асобныя ўласныя творы выклікаюць у мяне незадаволенасць, хаця яны быццам рэпертуарныя, пастаянна гучаць у эфіры. Я нават прашу музычную рэдакцыю радыё некаторыя мае творы не ўключаць у праграмы. Мне здаецца, што кампазітар — мастак і грамадзянін — абавязаны адбіраць толькі самае важнае і каштоўнае, толькі такое выносіць на суд слухача. Але пры ўсім гэтым адзначу, што мая **эстэтычная платформа** застаецца нязменнай. Што іменна? Прафесійнае ўдасканаленне, цяга да філасофскага абагульнення і прыгажосці ў мастацтве.

Цяпер аб праблемах, што хвалююць мяне як мастака. Іх шмат, але, бадай, галоўная— гэта ўзаемаадносіны кампазітара і слухача.

**— Сапраўды, разрыў паміж тымі, хто стварае так званую сур'ёзную музыку, і тымі, дзеля каго яна ствараецца, стаў такі вялікі, што ёсць небяспека: ці не застануцца тыя і другія назаўсёды на розных берагах?**

— Пытанне вельмі складанае. З аднаго боку, можна сябе заспакоіць тым, што ва ўсе часы сур'ёзнае мастацтва, на жаль, вабіла невялікую частку людзей. Але ўлічваць толькі гэты бок праблемы ўзаемаадносін са слухачом — значыць, хлусіць самому сабе. Скажам шчыра, што не вельмі багата ў нашай музыцы сапраўдных адкрыццяў, гульні фантазіі, глыбіні думак, што магло б зацікавіць слухача, адкрыць яму нешта невядомае, прымусіць зазірнуць у сябе, задумацца. Шмат кампазітараў, якія пішуць «проста музыку»—галоўную, пабочную партыі, распрацоўку, рэпрызу... Мне ж здаецца, такі падыход змяніўся яшчэ пры Бетховене. Успомнім яго сімфоніі—якія яны ўсе розныя! Як ён імкнуўся абнавіць форму, колькі фантазіі кожны раз у яго падыходзе да класічных норм!

**— Мне думаецца, увогуле многія кампазітары-класікі не на апошнім месцы трымалі пытанне: як ЗАХАПІЦЬ слухача? Тут ужываліся розныя сродкі — і пошукі новых форм, і стварэнне музыкі праграмнай, якая дапамагала б успрымаць сімфанічны твор, і, напэўна, сувязь з музыкай побыту свайго часу...**

— Вось цэнтральнае пытанне нашай творчасці! Як **захапіць** слухача, па-сапраўднаму ўзрушыць? Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. Сказаць, што ў нас у рэспубліцы мала талентаў — не скажаш. Можа, іх дрэнна вучаць? Вядома, не зусім дасканала, але і не дрэнна... Відаць, многае тут залежыць ад самога чалавека, яго асобы, ягонай адукаванасці.

Я сваім студэнтам часта гавару, што веданне яшчэ не значыць разуменне. Ты як кампазітар павінен не толькі шмат ведаць у сваёй галіне, у сумежных мастацтвах, у гісторыі, літаратуры, філасофіі, прыродазнаўчых навуках, але ўмець усё, што ведаеш, абагульніць і — выдаць сваё. Калі ты будзеш у нейкіх сваіх варыянтах паўтараць чужое, ужо знойдзенае, то ты—не мастак.

**— Вось цікава: маладыя атрымліваюць добрую прафесійную падрыхтоўку, а пішуць некаторыя з іх даволі мала. Як вам здаецца, у чым прычына?**

— Напэўна, у неарганізаванасці, ляноце, у чаканні па-

***За вялікія заслугі ў развіцці беларускага савецкага музычнага* мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР МДЗІВАНІ Андрэй Юр'евіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР,**

# ШКОЛА І РОДНАЕ СЛОВА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).**

пільная. Варта паглядзець, як складзены расклад у школе. Замежная мова—два разы ў тыдзень, руская — чатыры разы, беларуская — адзін раз у тыдзень. Якой якасці тут могуць быць веды? Што трэба зрабіць, каб беларускую мову вучні ведалі? Трэба, каб яна стала рабочай мовай у школе, каб вучні размаўлялі на ёй, каб на ёй праводзіліся педсаветы, выпускаліся насценгазеты. У нас ёсць некалькі школ з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры. Колькасць іх трэба павялічваць, каб добрае вывучэнне мовы мела месца на справе, а не на словах.

**Павел КАВАЛЁЎ**, які ўдзельнічаў у канферэнцыі настаўнікаў Клімавіцкага раёна, закрануў пытанне забяспечанасці школьных бібліятэк кнігай. Ён адзначыў, што ў школьных бібліятэках мала твораў беларускай літаратуры. Нават у раённай бібліятэцы не знойдзеш праграмныя творы М. Лужаніна, І. Шамякіна, Янкі Брыля. Дарэчы, некаторыя творы ёсць толькі на рускай мове. Тут відавочны недахоп у рабоце нашых бібліятэкараў.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.** Школьныя бібліятэкі павінны мець *чытальныя залы*. Ды і выгляд большасці гэтых бібліятэк, на жаль, вельмі несуцяшальны. Лічу, што настаў час Міністэрству асветы забраць у бібкалектара камплектаванне школьных бібліятэк... Мы часта гаворым аб тым, каб дзеці вучыліся творча. Але ж сучасны вучань не мае такой магчымасці. Ён не можа зазірнуць у падручнікі папярэдніх класаў, каб паўтарыць забытае, бо падручнікі гэтыя ў яго забралі: яны — бясплатныя. Пасля вайны была вялікая беднасць — і то куплялі кнігі, а цяпер у бацькоў ёсць сродкі, каб набыць падручнікі для сваіх дзяцей, а ім навязваюць бясплатна. Ды і падручнікі патрэбны новыя, стабільныя.

**Ніна МАЦЯШ.** У Белаазёрску, дзе я жыву, маюцца тры дзесяцігодкі. Перыядычнымі выданнямі іх бібліятэкі забяспечаны паўнацэнна. Што да беларускай мастацкай літаратуры, то тут не так добра. З творамі Купалы, Коласа, Багдановіча, Чорнага, Крапівы становішча больш-менш нармальнае, кніг гэтых аўтараў маецца на бібліятэку па 20—40 экземпляраў. Амаль што *няма ў бібліятэках* твораў Цёткі, Багушэвіча, Лынькова, Гартнага, Бядулі, Гарэцкага. З сучаснай мастацкай літаратурай, прадугледжанай вучэбнымі праграмамі, яшчэ горш. Твораў Янкі Брыля, В. Казько, У. Караткевіча, І. Навуменкі, П. Броўкі, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна няма. Дрэнна з даведачным матэрыялам, адсутнічаюць беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі. Мала метадычнай і літаратуразнаўчай літаратуры.

У раёне налічваецца 34 агульнаадукацыйныя школы, 29 з іх маюць вясковую прапіску. Намінальна, у міністэрскіх справаздачах, яны лічацца беларускімі. На самой справе выкладанне ўсіх прадметаў вядзецца там па-руску. Раённая інспектура нібыта робіць настаўнікам заўвагі, каб яны пазбягалі такога самавольства. Аднак на гэтым усё і канчаецца, гэта не што іншае, як парушэнне Закона аб асвеце.

**Алесь МАСАРЭНКА.** Я быў на Стаўбцоўшчыне, на радзіме Коласа. На канферэнцыі ніводзін яе ўдзельнік не выступаў на роднай мове. На заўвагу наконт гэтага мне адказалі: а мы — інтэрнацыяналісты.

**Алег ЛОЙКА, паэт, прафесар, выкладчык БДУ імя У. І. Леніна.** Трэба вярнуць школе аднятае ў яе. Перш за ўсё пад шыльдай школьнай політэхнізацыі адбылося рэзкае скарачэнне гадзін на гуманітарныя навукі. Курс беларускай літаратуры скарочаны на 44 гадзіны. З 1965 года па сённяшні час забрана на выкладанне рускай мовы 80 гадзін. Вось і расце пакаленне, аддаленае ад роднай літаратуры. Школа не дае ведаў і па нацыянальнай гісторыі. Акадэмічныя гісторыкі перагледзелі многія свае канцэпцыі, але на школьным падручніку гісторыі гэтыя перамены ніяк не адбіліся. Мы павінны стварыць новы падручнік.

Што датычыцца дапамогі ВНУ, дык тут выказваю такую просьбу да нашых міністэрстваў асветы і вышэйшай адукацыі: трэба пакончыць з вульгарнай сацыялагізацыяй пры наборы студэнтаў у ВНУ. Чаму існуе такое правіла, што мы павінны *прымаць людзей з тройкамі* ў атэстаце толькі таму, што ў іх ёсць накіраванне? Толькі веды могуць быць паказчыкам для паступлення ў ВНУ. Ні ў школе, ні ў ВНУ няма адпаведнага прэстыжу навучання: школьнікаў і студэнтаў можна паслаць на любую работу. А вучоба ж — гэта святая справа.

Рашэнне выкладаць на негуманітарных факультэтах беларускую літаратуру і гісторыю, безумоўна, добрае. Але ж гэта толькі на педагагічных патоках. Гэта трэба распаўсюджваць на ўсе спецыяльнасці.

**Анатоль КЛЫШКА.** У нас існуе вялікая праблема з выданнем неабходных беларускіх падручнікаў. На канферэнцыі ў Баранавічах давялося пачуць ад настаўніцы пачатковых класаў, што на 16 вучняў прыпадае толькі 7 буквароў. Нават старых беларускіх буквароў няма. Чаму такі непарадак — зразумець цяжка. Дарэчы, з рускімі букварамі ніякіх праблем няма.

Не дбаем мы і пра падрыхтоўку настаўнікаў пачатковых класаў. У рэспубліцы ёсць 16 педвучылішчаў. З іх 13 рыхтуюць настаўнікаў пачатковых класаў. Але нельга назваць хоць адно, якое працавала б на беларускай мове. Адкуль жа возьмецца прэстыж мовы, калі нават для навучання настаўнікаў яна не лічыцца неабходнай. Гэта вельмі важнае пытанне. Да чаго даходзіць? У Воранаўскім раёне бацькі адмовіліся ад таго, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову. І дзеці вывучаюць літоўскую, бо яна, бачыце, можа спатрэбіцца *ім пры ўладкаванні на працу* ў суседняй рэспубліцы. А родную мову вывучаць не хочуць, бо няма для яе практычнага ўжытку.

**Васіль ВІТКА.** Я прысутнічаў на жніўеньскай настаўніцкай канферэнцыі ў Слуцку. Характэрна, што толькі адна настаўніца выступала на беларускай мове. Астатнія, *нават* выкладчыкі беларускай мовы, гаварылі па-руску. Больш спадабаліся нарады з удзелам настаўнікаў, якія праходзілі непасрэдна ў сельскіх Саветах. Ішла размова пра новы навучальны год, пра канкрэтную дапамогу школе з боку сельскага Савета. Пра канкрэтныя, дробныя клопаты (санітарны стан *школ*, *водаправод і г. д.*) многа гаварылася і на пленарных пасяджэннях. А вось пра нізкі ўзровень філалагічнай культуры ніхто з настаўнікаў не выказаўся. Між тым, зараз нашы ВНУ не рыхтуюць кадры, якія валодалі б і рускай і беларускай мовамі. Гэта неабходна не толькі славеснікам, а і настаўнікам усіх прадметаў. Думаю, што вышэйшай школе неабходна тэрмінова вырашыць гэтую праблему.

**Леанід ШЫРЫН, настаўнік, член СП.** Беларуская мова ў вясковых школах выкладаецца. А вось усе 11 школ, якія знаходзяцца ў Салігорску, — рускамоўныя. Тут беларуская мова нават як прадмет не выкладаецца як трэба. Да таго ж школы дрэнна забяспечаны літаратурай. Маюцца такія бібліятэкі, дзе праграмная літаратура ўвогуле адсутнічае. Удзельнічаў я ў жніўеньскай нарадзе сельскіх настаўнікаў. Ніхто пра праблемы выкладання мовы не ўспомніў і не было ніводнага выступлення на беларускай мове.

І яшчэ некалькі слоў — пра закрыццё малых школ. Я быў дырэктарам такой школкі паблізу Салігорска. Вучняў раней было за паўсотні, потым стала 30. Трымаць такую школу, відаць, не эканамічна. Вось яе і закрылі. Хоць школа і маленькая, але колькі было слёз пры закрыцці — перажывалі і бацькі, і дзеці. Я прашу Міністэрства асветы ўважлівей ставіцца да такіх пытанняў. Бо гэта вельмі балюча для людзей, калі закрываюць школу. Можа, не на тым эканомім?

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.** Нядаўна быў на сваёй радзіме— на Дзяржыншчыне. У вёсцы Данілавічы на школе засталася толькі шыльда, што школа беларуская — беларускай мовы там цяпер няма. У Баравым, дзе я нарадзіўся, таксама закрылі беларускую школу. Школа, праўда, ёсць, але выкладанне вядзецца па-руску. Крыўдна, што настаўнікі, якія закончылі педагагічны інстытут імя М. Горкага, амаль што не ведаюць па-беларуску. Такое становішча трэба мяняць.

**Максім ЛУЖАНІН.** Раней я часта бываў на педагагічных саветах. На іх заўсёды запрашалі. Але апошнія тры гады запрашальных званкоў не чуваць. І калі сёлета пазванілі са школы, што ў Бараўлянах, і запрасілі на пасяджэнне секцыі беларускай літаратуры, я з радасцю згадзіўся. У школе дзве тысячы вучняў. Ёсць літаратурны музей, да якога пратаптана сцежка. Вельмі добра прадстаўлены ў музейнай экспазіцыі Якуб Колас. Лічу, што школьныя музеі надта карысныя, бо там цепліцца агонь павагі да роднай культуры. Неабходна звярнуць увагу на дашкольнае выхаванне. Калі мы пачнём навучанне роднай мове з дашкольных устаноў, дык закладзём у чалавека належны гуманітарны зарад. Улічваючы, што мы шмат чаго добрага разгубілі, нам трэба тэрмінова *папраўляць* справу з навучаннем на роднай мове, бо аднымі добрымі пажаданнямі нічога не зробіш.

**П. САДОЎСКІ, выкладчык *Мінскага педагагічнага інстытута* імя М. Горкага.** Міністэрства асветы выдала ў лютым загад пад нумарам 32, змест якога накіраваны на паляпшэнне справы з навучаннем на беларускай мове. Але няхай нас гэты загад не закалыхвае. Папершае, хоць ён быў прыняты на пачатку года, апублікавалі яго толькі ў апошнія дні жніўня, так што практычна сёлета на патрэбу беларускай школы ён не спрацаваў. Напрыклад, на музычна-педагагічны факультэт ніхто з абітурыентаў насуперак загаду не здаваў экзамен па беларускай мове. Па-

ляпшэння матэрыяльных умоў жыцця. Мне здаецца, адразу пасля кансерваторыі маладых кампазітараў прымаць у саюз — не зусім правільна. Ты спачатку пакажы, на што здатны, ствары музыку грамадска значную, а потым — падавай заяву ў арганізацыю. І затым, відаць, трэба рэгулярна рабіць творчыя справаздачы, даказваць сваю жыццяздольнасць як творцы.

Яшчэ адзін наш «грэх». Мне здаецца, не хапае ў нашых творах інтэлігентнасці. Магчыма, гэта адзін з асноўных недахопаў нашай сучаснай музыкі. На першае месца стала выпаўзаць псеўдамузыка, псеўдакультура. Мы сталі падмяняць мастацкі талент уменнем апрацоўваць народныя песні, ствараць прафесійна напісаныя кампазіцыі. Гэта ж элементарна, само сабой зразумела ў нашай справе, а мы часта надаём гэтаму занадта вялікае значэнне. Што значыць «вучыць кампазітара»? Трэба выхоўваць мастака, добрага рамесніка, але ў першую чаргу — чалавека-грамадзяніна!

**— Відаць, не будзе сапраўднага творцы, калі ў ім не абуджаны боль за чалавека, за працэсы, што адбываюцца ў грамадстве?**

— Калі ў мастака гэтага болю няма, то ён увогуле не мастак, пра яго няма чаго сур'ёзна гаварыць. Але паўтару—і вялізны кругагляд неабходны, і высакароднасць — зноў жа, якасці інтэлігента.

Мяне заўсёды ўражвае такая сапраўдная інтэлігентнасць, якая прысутнічае ў народнай паэзіі. Не магу перадаць, як мяне лашчыць беларуская народная паэзія, як супакойвае! Яна замяняе мне ласку маці.

Вялікая вартасць народнага мастацтва — у чалавечнасці, мудрасці, цеплыні, чаго, на жаль, не хапае нашай творчасці.

Другі ўзор чалавечай годнасці, які мяне вельмі ўражвае,—гэта дзеячы нашай рэвалюцыі. Яны валодалі такой высакароднасцю, пачуццём гонару, уласнай годнасці, якіх сёння нам не хапае.

**— Мы зараз жывём у цікавы, складаны, сапраўды рэвалюцыйны час. Якая, на вашу думку, роля творчай інтэлігенцыі ў гэты перыяд?**

— Пытанне пра творчую інтэлігенцыю не простае... Як зараз адгукацца на складаныя працэсы, што адбываюцца ў нашым грамадстве? Што, ствараць песню пра перабудову? Калі мы сапраўдныя мастакі, то творы пра Радзіму, партыю, нашы справы павінны пісаць на самым высокім узроўні. Каб творы гэтыя ўзрушылі чалавека, закранулі ў ім самае патаемнае і высокае. А мы ствараем песні, іншыя творы пра Радзіму, партыю пераважна ў нейкіх плакатных формах.

Гэта мяне вельмі хвалюе. Грамадзянская тэма патрэбна, яна не дае мне спакою. Але трэба ж яшчэ знайсці адпаведную літаратурную першакрыніцу...

**— Апошнім часам выказваецца думка, што масавая культура заваёўвае ўсё большую прастору, што людзям сапраўднае мастацтва не патрэбна, ім дастаткова пацяшальнага. Што вы думаеце пра гэта?**

— Сапраўды, музыку цяпер часцей спажываюць як фон. Напэўна, тут прычына—перанасычанасць інфармацыяй, стомленасць мозгу. Але, увогуле, чалавецтва становіцца больш разумным і не яго віна, што ў XX стагоддзі з'явіліся новыя, нябачаныя раней віды тэхнікі, якія... не дазваляюць чалавеку быць самім сабой.

Аднак я ўсё ж такі з надзеяй гляджу ў будучыню і веру, што розум пераможа інстынкт. Я спадзяюся, што перамогуць тыя сілы музычнага мастацтва, якія валодаюць высокім майстэрствам, талентам.

**— А вы ведаеце, ШТО патрэбна людзям ад твора мастацтва?**

— Не ведаю, але здагадваюся. Ім патрэбны шчырасць, харасТво і праўда.

**— А дзеля чаго пішаце музыку вы?**

— Часам думаю: хто я? што я? Вось калі напішу твор, які па-сапраўднаму ўзрушыць чалавека, тады... Калі я напісаў сімфанічную паэму «Фрэскі», то думаў: вось стварыў нешта значнае. Потым былі чатыры сімфоніі, «Метамарфозы», «Асціната»—усё гэта творы, якія гучаць, і ўсё ж такі я вельмі сціпла іх ацэньваю.

У музыцы—мая жыццядзейнасць. Без яе—не магу. Я вельмі люблю працаваць...

**Застаецца дадаць, што за апошні год кампазітарам створаны сімфанічная партытура Пятай сімфоніі, закончана Шостая сімфонія, клавір аперэты «Мес Мэнд», Капрыс-канцэрт для валторны з аркестрам, харавы цыкл «Замовы», «Футбольнае алегра» для фартэпіяна, фантазія для народнага аркестра «Кірмаш», паэма «З народных скарбаў»—для народнага хору і ансамбля цымбалістаў, у рабоце—балет на гістарычную тэму. Дзякую Андрэю Юр'евічу за гутарку і жадаю гэткай жа плённай працы на далейшыя гады.**

**Ірына МІЛЬТО.**

Фота Ул. Крука.

---

куль што загад № 32 — не больш, чым касметыка. Ці вось уводзіцца курс па беларускай літаратуры і гісторыі аб'ёмам 120 гадзін для гуманітарных факультэтаў. Але экзамен па гэтым курсе не прадугледжаны. Таму такі курс лёгка палічыць неабавязковым.

Пакуль не будзе прыняты закон аб дзяржаўнасці мовы, справа не скранецца з месца. Бо энтузіязмам невялікага кола людзей беларуская школа не адродзіцца і ўжытак мовы не пашырыцца.

**Кастусь ТАРАСАУ.** У баку ад прапаганды беларускамоўнай школы аказаўся перыядычны друк. За год не было ніводнай значнай публікацыі ў «Настаўніцкай газеце», у «Вячэрнім Мінску», у абласных газетах. Гэта, на маю думку, няправільная пазіцыя. Не зацікавіліся пакуль што праблемай «мова — школа» мясцовыя ўлады.

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.** Ствараючы адзінкавыя беларускамоўныя класы, мы, мне здаецца, пачынаем з хваста, а не з галавы. Мне шкада тых дзяцей, якія сёлета пайшлі ў беларускамоўныя класы. Якія іх чакаюць выпрабаванні і ці вытрываюць яны іх? Хіба не сумна, што мы такой вялікай грамадой трацім духоўныя сілы на адкрыццё лічаных беларускамоўных класаў? Усё разбіваецца аб бюракратыю. Нам, напэўна, трэба звяртацца да моладзі. У кожным горадзе цяпер ёсць клубы моладзі, якая вывучае беларускую гісторыю і культуру. Саюзу пісьменнікаў трэба наладзіць з імі цесную сувязь. Лічу, што заўсёды на нашых з'ездах, пленумах павінны прысутнічаць настаўнікі. Ужо гэтым мы ўзнялі б аўтарытэт беларускай мовы і літаратуры, дапамаглі б беларускамоўнай школе. Нядаўна ў Лідскім раёне мяне пераконвалі, што там школы працуюць на беларускай мове (з 19 сярэдніх школ раёна 14 — беларускамоўныя). Але на канферэнцыі ўсе настаўнікі выступалі на рускай мове, толькі адзін старшыня сельскага Савета выступаў па-беларуску. У 14 школах ад вывучэння беларускай мовы вызвалена 700 вучняў. Ёсць многа школ, дзе беларускай кнігі дастаткова, але яна ляжыць мёртвым грузам — няма звычкі чытаць.

**Мікола ТАТУР.** Мы былі на канферэнцыі разам з Алесем Махначом. Гаворка праходзіла зацікаўлена. На думку настаўнікаў, пераважная большасць школ у раёнах рэспублікі, у гарадах і сталіцы павінна быць з беларускай мовай навучання. Нельга аддаваць дзяржаўную справу — вывучаць ці не вывучаць родную мову — у прыватныя рукі бацькоў-абывацеляў. Калі існуе рэспубліка, то павінна абавязкова вывучацца і мова народа ў школах і ВНУ. У выступленнях настаўнікаў адзначалася, што вывучэнню роднай мовы і літаратуры не спрыяе непісьменнасць, якую часам дэманструюць тэлебачанне, радыё, тэатр. Трэба вярнуць беларускай мове, яе правапісу мяккі знак, а то артысты, дыктары, ды і некаторыя маладзейшыя людзі вымаўляюць цвёрдыя зычныя замест мяккіх, што супярэчыць ладу беларускай мовы.

Беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны пацвердзіў свой інтэрнацыяналізм і адданасць Савецкай уладзе, Камуністычнай партыі, пацвердзіў сваё права мець усе ўмовы для таго, каб развівалася яго культура, нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.** На канферэнцыі настаўнікаў у Нясвіжы, дзе я прысутнічаў, па пытаннях беларускай мовы выступала толькі адна настаўніца з Гарадзеі — І. Ю. Шкодзік. Яна адзначыла, што ад настаўніка ў справе беларускамоўнага выхавання вучняў, вядома, залежыць шмат, але сёння больш залежыць ад агульнай тэндэнцыі, якая пакуль што не схіляецца да ўздыму прэстыжу роднай мовы і пашырэння яе ўжытку. Настаўнікі робяць толькі тое, што патрабуюць ад іх праграмы. У бібліятэках не хапае кніжак на беларускай мове, нават праграмных. Вучні чытаюць беларускіх аўтараў на рускай мове.

Прапаную, каб выкладанне гісторыі БССР вялося на беларускай мове ва ўсіх школах рэспублікі. Падручнік па гісторыі БССР не вытрымлівае крытыкі, ён павінен быць заменены новым у самы бліжэйшы час. Трэба абвясціць адкрыты конкурс на лепшы падручнік па гісторыі, аб'явіць прэмію таму, хто напіша добра і хутка, стварыць грамадскую камісію для абмеркавання заявак і рукапісаў. Выкладанне роднай мовы павінна абавязкова пачынацца з першага класа.

**Кастусь ЦВІРКА.** Пабываўшы на канферэнцыі ў Асіповіцкім раёне, я зрабіў вывад, што ў сённяшняй нашай школе няма сапраўднага інтэрнацыянальнага выхавання. Бо як можна выхаваць інтэрнацыяналіста, забываючыся навучыць яго павазе да свайго народа, да яго культуры, мовы? На канферэнцыі прыводзіліся факты, калі дзецям, якія вучацца па беларускіх падручніках, настаўнік выкладае свой прадмет па-руску. Гэта зняважа мовы народа. А дзеці ж, вядома, бяруць з настаўнікаў прыклад.

**Васіль ЯКАВЕНКА.** На канферэнцыі настаўнікаў Першамайскага раёна Мінска прамоўцы дружна гаварылі аб неабходнасці падрыхтоўкі для школ выкладчыкаў, якія выкладалі б матэматыку, фізіку, хімію, прыродазнаўства на роднай мове. З трывогай адзначаліся шматлікія факты вызвалення ад беларускай мовы. Вызваленыя гультайнічаюць, сваволяць, замінаюць настаўніку і вучням, што вывучаюць родную мову.

**Г. А. БУТРЫМ, намеснік міністра асветы БССР.** Можа, не на ўсіх раённых і гарадскіх канферэнцыях вялася размова аб выкладанні беларускай мовы і літаратуры, але на секцыйных занятках па гэтым пытанні вялася дэталёвая гутарка. Многа было на канферэнцыях спрэчак па існуючых праблемах. Усё адным крокам не вырашыш. Беларуская мова пачне выкладацца з другога класа, ужо зроблена праграма і пачынаецца работа па стварэнні падручніка. Пра выкладанне роднай мовы з першага класа пытанне не скідваецца. Зараз нашы вучоныя працуюць над 42 падручнікамі для школы. Паспрабуем нешта зрабіць і ў ВНУ. У педвучылішчы прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Узнікла многа праблем і са стварэннем класаў у пачатковай школе. З нашага боку тут няма ніякай двайной гульні, загад № 32 гэта не «ліпа». Але згадзіцеся, што і бацькоў таксама трэба выхоўваць. Невыпадкова ж з'явілася пісьмо з Верхнядзвінскага раёна, у якім бацькі просяць вызваліць іх дзяцей ад вывучэння беларускай мовы. Трэба прапагандаваць неабходнасць вывучэння роднай мовы. Зараз мы пастараемся павялічыць набор абітурыентаў на беларускія аддзяленні, каб не было вострай патрэбы ў настаўніках беларускай мовы. Не магу пагадзіцца з меркаваннем А. Лойкі аб скасаванні пазаконкурснага набору. Гэта робіцца для таго, каб накіраваныя вярталіся ў родную вёску і там працавалі. Набор па накіраваннях сёння проста неабходны.

Мы ўскладаем надзеі на новы часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе». Ён адыграе вялікую станоўчую ролю. Напэўна, і «Настаўніцкая газета» не ўсё яшчэ робіць для прапаганды навучання на роднай мове.

У мяне ёсць прапанова, якая пойдзе на карысць нашай сумеснай справе: за лепшае школьнае сачыненне трэба вызначыць прэмію Саюза пісьменнікаў Беларусі. Трэба актывізаваць і работу школы юных літаратараў. Нам трэба працаваць сумесна, бо мы маем адзіную мэту — выхаваць сапраўдных людзей.

На пасяджэнні выступілі таксама пісьменнікі **Д. БУГАЁУ, Л. ПРОКША, У. ЯГОУДЗІК,** маладыя літаратары **Л. БАРШЧЭУСКІ** і **А. ЛОЗКА,** загадчыца дзіцячага сада **Г. ПРЫМА,** мастак **М. КУПАВА.**

Падводзячы вынікі «круглага стала», першы сакратар праўлення СП Беларусі **Н. ГІЛЕВІЧ** адзначыў, што ўсе выказаныя ўдзельнікамі пасяджэння прапановы і заўвагі будуць улічаны і перададзены міністэрствам асветы і вышэйшай і сярэдняй адукацыі для вывучэння і ўвасаблення ў жыццё.

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтаваны карэспандэнтам «Літаратуры і мастацтва». Выступленні ўдзельнікаў пададзены ў скарочаным выглядзе.**

---

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## СТАРОНКІ ЛЕТАПІСУ

**Асобныя старонкі летапісу рэспублікі можна ўбачыць на выстаўцы «Дарогай Леніна, дарогай Кастрычніка», якую наладзілі Саюз журналістаў БССР, Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БЕЛТА) і Дзяржаўны камітэт Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Дэманструецца яна ў фае мінскага кінатэатра «Масква», а пасля пабывае ва ўсіх абласных цэнтрах.**

**Дзвесце фотаработ адлюстроўваюць розныя перыяды жыцця Савецкай Беларусі. Сярод аўтараў здымкаў — У. Лупейка, М. Ананьеў, В. Аркашоў, М. Амельчанка, Я. Коктыш і многія іншыя. Выкарыстаны таксама матэрыялы з архіваў.**

**В. ЛЕБЕДЗЕУ.**

## ГЕРОІ—СУЧАСНІКІ

**Кніга нарысаў Леаніда Лівановіча «Хлеб і мужнасць», якая пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Рэспубліка. Час. Людзі»,— усхваляванае слова пісьменніка-публіцыста аб людзях, якія сваёй працай уносяць пасільны ўклад у выкананне Харчовай праграмы. Днямі па кнізе ў Мінскай бібліятэцы № 8 імя Максіма Багдановіча адбылася чытацкая канферэнцыя.**

**Пра творчасць Л. Левановіча і яго новую кнігу расказаў яе рэдактар, пісьменнік Я. Лецка. У сустрэчы прыняў удзел аўтар.**

**П. ЛАГАЦЬКА.**

## САВЕТ САДЗЕЯННЯ ФОНДУ КУЛЬТУРЫ

**Нядаўна ў калгасе «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна створаны першы ў рэспубліцы калгасны савет садзеяння Савецкаму фонду культуры. Яго мэта — арганізацыя сумесных мерапрыемстваў па ўзвядзенні і аднаўленні помнікаў на тэрыторыі гаспадаркі, стварэнне карціннай галерэі і арганізацыя выставак твораў мастакоў.**

**Калгас перавёў на рахунак № 702 пяць тысяч рублёў.**

**В. ЦІМАФЕЕУ.**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 8

**Адкрывае нумар выступленне другога сакратара ЦК Кампартыі Беларусі Г. Г. Барташэвіча на XII з'ездзе мастакоў Беларусі—«Узбагачаць духоўнае жыццё народа».**

**Выстаўцы «Маладосць рэспублікі» прысвечаны публікацыі В. Буйвала («Мастацтва — цудадзейства...»), А. Дабравольскага («Усім — значыць кожнаму, або Як абудзіць спагаду...»), матэрыялы «круглага стала» — «Праблемы тыя самыя...»**

**Культурным сувязям Беларусі і Літвы, вынікам першага сезона Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра БССР, самадзейнаму тэатру-студыі «Жэст», станаўленню харавога мастацтва ў Беларусі прысвечаны матэрыялы А. Літвіновіча («Багацее кожны —багацеем разам»), Ж. Лашкевіч («Драма па-за пластыкай»), Н. Агафонавай («Вясёлая душа»), М. Хвісюка («Тэндэнцыі, дыяпазон, даляглялы»).**

**В. Мнацаканаў («Шлях да слухачоў») і У. Мальцаў («За рамкі тыпажнасці») ствараюць творчыя партрэты дырыжора Ю. Яфімава і артыста В. Бандарэнкі.**

**XV агляду-конкурсу мастацкіх, тэлевізійных мастацкіх, мультыплікацыйных, хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных фільмаў, што былі створаны на студыі «Беларусьфільм» у 1986 годзе, адрасаваны выступленні Е. Бондаравай («Вобразы і схемы»), Н. Фральцовай («Паралелі на плоскасці»), А. Бабковай («У кадры і за кадрам»). М. Міхайловіч і Л. Ніціфарава бяруць інтэрв'ю ў А. Ляляўскага і А. Кашкурэвіча — «А што за лялечнаю шырмаю» і «Ісці да чытача».**

**Пра помнікі народнага дойлідства, пра работу дызайнераў і прадметы быту ў беларускім фальклоры вядуць размову Ю. Якімовіч («Беларускія драўляныя званіцы»), Я. Ленсу («Вялікія праблемы малых рэчаў»), А. Лозка («Вязуць скрыні маляваныя...»).**

---

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, пісьменніку Анатолю Клышку ў сувязі са смерцю БАЦЬКІ.**

# Экслібрысы Вячкі Целеша

Мальберт, неруш свежага палатна на падрамніку, палітра і пэндзлі, каляндар са Скарынаўскімі гравюрамі, абвесткі мастацкіх выставак, пейзажы, партрэты, з якіх глядзяць Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Цётка, Максім Багдановіч... На хвіліну здаецца, што забег да знаёмага мастака і, зірнуўшы ў акно, убачу мінскую або полацкую вуліцу. Але за акном — маляўнічая панарама стрэх і комінаў старой Рыгі. Мы ў майстэрні мастака Вячкі Целеша, рыжаніна па прапісцы, беларуса па паходжанні.

Большую частку свайго немалога ўжо веку В. Целеш пражыў у Латвіі. Тут скончыў Акадэмію мастацтваў, упершыню выставіў свае работы. Пасля ў ягоным творчым лёсе было некалькі дзесяткаў мастацкіх выставак, у тым ліку і персанальныя, у Прыбалтыцы і на радзіме, у Беларусі. Адна з апошніх — рэспубліканская выстаўка «У краі блакітных азёр», дзе экспанаваліся ягоныя партрэты В. Дуніна-Марцінкевіча і С. Панізніка.

Гаспадар майстэрні вядомы і як філакартыст-краязнаўца, аўтар цікавай і патрэбнай кнігі «Мінск на старых паштоўках». Цяпер рыхтуе да друку аналагічнае выданне, якое дасць нам уяўленне пра архітэктурнае аблічча іншых беларускіх гарадоў на мяжы XIX—XX стагоддзяў.

Целеш заўсёды рады і чаканаму і нечаканаму госцю, асабліва калі той з родных мясцін. Чытаючы Вячкаву «Кнігу для гасцей», ловіш сябе на думцы, што калі-небудзь за права мець гэты фаліянт у сваіх фондах будуць зацята змагацца нашы музеі і архівы. Бо знойдуць тут невядомыя вершы Дануты Бічэль-Загнетавай, запісы Адама Мальдзіса і Віктара Казько, Эрнеста Ялугіна і Кастуся Тарасава, вядомага латышскага перакладчыка беларускай літаратуры Талрыда







Руліса. У свой час у гэтай кнізе пакінуў вясёлыя вершаваныя радкі і не менш вясёлыя малюнкі незабыўны Уладзімір Караткевіч.

Відаць, пад час тых сяброўскіх сустрэч у гаспадара майстэрні і нараджаліся ідэі і вобразы ягоных кніжных знакаў. Дарэчы, В. Целеш лічыць сваю працу ў жанры экслібрыса не больш, чым захапленнем. Але ж часта бывае, што наша ўяўленне пра мастака і яго творчыя магчымасці надзіва хораша дапаўняе менавіта тое, да чаго сам мастак ставіцца даволі паблажліва. Так, на мой погляд, здарылася і ў выпадку з В. Целешам. Ягоныя экслібрысы вылучаюцца не толькі выдатнай тэхнікай, але і цікавым вобразным ладам. Мастак валодае здольнасцю ствараць у кніжным знаку своеасаблівы духоўны партрэт чалавека, для якога гэты знак выконваецца.




Экслібрысы В. Целеша экспанаваліся сёлета на выстаўцы кніжнага знака ў нашым Доме літаратара. Некалькі з іх хочацца прапанаваць увазе чытачоў «ЛіМа».

**Уладзімір АРЛОЎ.**

# У ГЛЫБІНЮ ГІСТОРЫІ

Цікавасць гісторыкаў і археолагаў да Полацка вялікая. Толькі ў 80-х гадах было ўскрыта звыш 3000 квадратных метраў плошчы і ахоплена археалагічнымі назіраннямі пры земляных работах тэрыторыя ў 10 тысяч квадратных метраў культурнага пласта. Асноўная маса прадметаў, якія характарызуюць гаспадарку і побыт старажытнага горада, знойдзена ва ўсходніх раскопках на Верхнім замку. Побач з рэшткамі жыллёвых і іншых драўляных збудаванняў тут былі знойдзены шматлікія рамесныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, з косці, шкла, дрэва. У прыватнасці, у аснове культурнага пласта была знойдзена візантыйская манета Рамана I (919—944 гг.), кубічны дырхем, каралі, гліняны посуд, характэрны для X ст.

У культурных пластах XII ст. былі знойдзены ліцейныя тыглі для плаўкі каляровых металаў пірамідальнай і кругладоннай формы, паліва. У Верхнім замку былі адкрыты рэшткі скуранай майстэрні сярэдзіны XIII ст. Тут нават былі выяўлены дзіцячыя боцікі, расшытыя прыгожым узорам з чырвоных нітак. Знойдзена шмат вырабаў з бурштыну.

Гісторыкі сцвярджаюць, што ў сярэдзіне XI ст. Полацк быў трэцім горадам пасля Кіева і Ноўгарада. Гісторыя захавала і імя полацкага дойліда, які стварыў Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. Гэта быў Іван «прыстаўнік над дзелацелі царкоўнымі». Полацк — гэта горад, дзе фарміраваўся новы архітэктурны стыль, які супрацьстаяў візантыйскаму будаўніцтву і меў ярка выяўленыя славянскія рысы. Вялікую цікавасць уяўляюць знойдзеныя імянныя пячаткі-пярсцёнкі полацкіх князёў XI — першай трэці XII ст. — князя Усяслава Полацкага, князя Барыса, пячатка Дыянісія, епіскапа Полацкага. Знойдзена пячатка горада з надпісам «Печать Полочькая и стои Софьи».

Нядаўна ў цэнтры горада на плошчы У. І. Леніна, пры будаўніцтве новага дома, на глыбіні 3—4 метраў зноў былі знойдзены прадметы даўніны. Асноўныя работы па раскопках праводзіць Полацкі гісторыка-археалагічны запаведнік. Энтузіястам у гэтай справе стала загадчыца сектара археалогіі Галіна Мікалаеўна Раманенкава. Каб фарсіраваць раскопачныя работы, выкарыстоўваючы спрыяльны перыяд, кіраўніцтва запаведніка вырашыла скарыстаць дапамогу школьнікаў. Нягледзячы на шэраг арганізацыйных цяжкасцей, сюды былі накіраваны вучні 7—8 класаў некалькіх полацкіх сярэдніх школ. Не забылі і пра членаў гістарычных гурткоў. Дзякуючы іх стараннем знойдзена кераміка, прадметы хатняга побыту, якія пасля адпаведнай рэстаўрацыі зоймуць сваё месца ў музеях.


У час раскопак.

**У. БАСЬКО.**
Фота аўтара.




з 5 па 11 кастрычніка

**5 кастрычніка, 19.50**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО».**

Агляд пошты за тыдзень.

**6 кастрычніка, 20.10**

**«РОДНАЕ СЛОВА».**

Перадача пачнецца нарысам «З падстрэшша рук Скарынавых» — пра Сымона Буднага, беларускага асветніка, філосафа, першадрукара.

«Наша мова, — заўважаў Будны,— нядаўна была такая славутая, што яе не адважваўся хаяць сам папа». А як жывецца роднаму слову ў Нясвіжы сёння? Пра гэта расказ у другім сюжэце — «Размова ля помніка».

Пазнаёміцеся таксама з новым часопісам «Беларуская мова і літаратура ў школе» (інтэрв'ю з галоўным рэдактарам М. Шавыркіным).

Наступная старонка прысвечана народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю.

**7 кастрычніка, 9.50**

**«У СЯМ'І АДЗІНАЙ».**

Беларусь—Літва. Культурныя сувязі. Размову аб праблемах перакладу вядуць пісьменніца В. Іпатава і перакладчыца А. Лапінскене. Будуць прадстаўлены беларускія кнігі, якія выйшлі ў выдавецтвах Літвы.

**8 кастрычніка, 19.50**

**«НАШ ВЫХАД».**

Сустрэча акцёраў народнага тэатра мінскага Палаца культуры тэкстыльшчыкаў з гледачамі пасля спектакля па п'есе М. Шатрова «Дыктатура сумлення».

**9 кастрычніка, 18.50**

**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК. ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «ДЗВІНА».**

**9 кастрычніка, 23.50**

**«НАКЦЮРН».**

Квартэт К. Шымановскага прагучыць у выкананні струннага квартэта Саюза кампазітараў БССР.

**10 кастрычніка, 13.05**

**«СЛОВА—ПАЭЗІІ».**

Новыя вершы В. Шніпа.

**10 кастрычніка, 13.20**

**М. МАТУКОЎСКІ. «МУДРАМЕР».**

Спектакль вучэбнага тэатра Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

Уступнае слова аўтара п'есы.

**11 кастрычніка, 23.25**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».**

Музычная праграма, у якой выступяць У. Кузьмін, М. Джагер, К. Кельмі, групы «Брава», «Акварыум», «Сакрэт», «Квін», іншыя выканаўцы.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 00584 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.